

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

26 ЛЮТАГА 1999г. № 8/3988 КОШТ 12 000 РУБ.



## РОДНАЯ МОВА Ў КАСЦЁЛЕ

***Уладыслаў ЗАВАЛЬНЮК: "Кожная рэспубліка былога Саюза мэтаімкнёна адраджае сваю мову, і гэта зразумела, гэта нармальны працэс вяртання да свайго. Вялікі эксперымент не ўдаўся не толькі з моваю, але і з усім тым, што звязана з гігантаманіяй, з казарменным, калектыўным жыццём і працаю; у чалавека, у людзей, у народа адвечна закладзены Богам своеасаблівасць, непаўторнасць. Асобных людзей можна зламаць, знішчыць, народ — ніколі".***

**5, 12**

## "АНЁЛ З АДНЫМ КРЫЛОМ..."

***Вершы Эдуарда АКУЛІНА***

**8**

## КАРУЗА І КАРУЗЭЛА

***Апавяданне Мар'яна ВІЖА***

**9**

## ЧУЛЛІВАСЦЬ ПАЭТА І ЖОРСТКАСЦЬ КАПРАЛА

***Вольга МАРЧАНКАВА: "Можна быць геніяльным рэжысёрам і зрабіць, дзякуючы творчай інтуіцыі, адзін геніяльны фільм. Аднак немагчыма зняць запар дзесяць геніяльных фільмаў, калі не валодаеш прафесіяй. А прафесія — гэта перш за ўсё ўніклівая, скрупулёзная вучоба".***

**11**

## "ЁН НЯМЫСЛІЎ СЯБЕ БЕЗ СПРЭЧАК..."

***Леанід МАРАКОЎ пра рэпрэсіраванага пісьменніка Макара ШАЛАЯ***

**16**










# Зіма знайшла прытулак у "Дудутках"

Масленіца — свята з прыкметных. Не абмінулі яго і захавальнікі народных традыцый, збіральнікі беларускай культуры з турысцкай фірмы "Дудуткі—ТУР", якой кіруе Валерыя Кліцунова, і музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі", што размешчаны на Пухавіцкай зямлі, на беразе Пцічы.

Сваё веданне фальклору, этнаграфічных прыкмет паказвалі не толькі артысты, вядучыя, гаспадары свята, а і шматлікія госці. Спявалі і танцавалі, удзельнічалі ў розыгрышах акцёры і мастакі, пісьменнікі і журналісты... І як заўсёды, у цэнтры свята быў Яўген Будзінас, якому, між іншым, у пярэдадзень масленіцы споўнілася 55 гадоў. І гэта не маглі не заўважыць Элеанора Язерская, Уладзімір Някляеў, Аляксандр Фядута ды шмат хто яшчэ.

Сапраўды, у апошнія гады Я. Будзінас арганізацыяй многіх свят, культурніцкіх імпрэз, а самае галоўнае — стварэннем самога музея "Дудуткі" здолеў аб'яднаць зацікаўленасцю да беларускасці самых розных людзей. Частымі гасцямі панадпцічанскіх ваколіц былі і застаюцца замежныя дыпламаты. З Масквы ў Дудуткі наведваўся Андрэй Вазнясенскі, з Парыжа — Барыс Забораў. Але, відавочна, кульмінацыяй свята сталася прызнанне Я. Будзінаса ў тым, што ён вяртаецца да літаратурнай дзейнасці, на каторую вядомаму публіцысту з-за прадпрымальніцкай, грамадскай актыўнасці ўсё неяк не хапала ў апошнія гады часу.

Што ж, будзем спадзявацца, што да кніг пра Беларусь вясковую, да рамана "Промежуточный человек" дадасца новы расповед пра Беларусь і беларусаў сённяшніх, магчыма, і з такой назвай — "Промежуточное время".

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**



# КОЛА ДЗЁН

***Яшчэ зусім нядаўна здавалася, што гэтай зіме не будзе ні канца, ні краю. Яшчэ зусім нядаўна мы радаваліся цудоўнай перамозе нашых біятланістаў на чэмпіянаце свету ў Фінляндыі. Яшчэ зусім на днях па нашых кватэрах хадзілі падлікоўцы і рабілі перапіс насельніцтва нашай краіны. Яшчэ не ўсе паспелі ачуняць ад грыпу, які прайшоўся па нашай зямлі. Яшчэ падае снег... А ўжо да каляндарнай вясны засталося ўсяго некалькі дзён.***

## АДМЕНА ТЫДНЯ

Савет Еўрапейскага саюза на ўзроўні міністраў замежных спраў 22 лютага ў Люксембургу прыняў рашэнне аб адмене агульнай пазіцыі Еўрасаюза ад 9 ліпеня 1998 года аб візавых абмежаваннях на ўезд у краіны ЕС службовых асоб Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, 129 высокапастаўленых чыноўнікаў нашай краіны зноў могуць вольна падарожнічаць па Еўропе.

## ВЫБАР ТЫДНЯ

Пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ААН Аляксандр Сычоў выбраны на пасаду намесніка старшыні Эканамічнага і Сацыяльнага Савета ААН на другі тэрмін запар. Можа, для якой краіны сёння гэтая пасада не мае вялікага значэння, але толькі не для Беларусі...

## СПРОБА ТЫДНЯ

Ліберальна-дэмакратычная партыя паспрабавала зарэгістраваць ініцыятыўную групу для збору подпісаў на правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму па пытанні: "Ці згодны вы на стварэнне Канфедэрацыі Беларусі і Расіі?" Цэнтрвыбаркам адмовіў ініцыятарам, спаслаўшыся на тое, што правядзенне рэферэндуму па такім пытанні будзе ўскладняць перамоўны працэс адносна далейшай інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй і адначасова будзе навязваць расійскаму боку пазіцыю Беларусі наконт формы саюзнага ўтварэння.

## УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ў сваёй рабочай рэзідэнцыі прыняў кіраўніка Міжнароднай федэрацыі аматарскага самба Міхаіла Ціхамірава. За ўклад у развіццё гэтага віду спорту выканкам Міжнароднай федэрацыі аматарскага самба ўзнагародзіў Аляксандра Лукашэнку "Залатой зоркай", якую ў час сустрэчы Міхаіл Ціхаміраў і ўручыў кіраўніку нашай дзяржавы. Падзякаваўшы за ўзнагароду, прэзідэнт Беларусі адзначыў, што кіраўніцтва краіны не застанецца ў даўгу перад спортам, у тым ліку і перад самба.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя Міністэрства працы, згодна з якой на працягу мінулага года на часовыя заробкі за мяжу выязджалі 3692 грамадзяніны нашай краіны. Бясспрэчным "працоўным" прыярытэтам была Расія, у якую на заробкі ездзілі 2004 грамадзяніны Беларусі, 456 чалавек ездзілі ў Малдову, 392 — у Чэхію, 373 — на Украіну, 90 — у Польшчу, 47 — у Германію, 40 — у ЗША, 10 — у Францыю. Праўда, за мяжой, як гаворыцца ў інфармацыі, нашы суайчыннікі не разбагацелі.

## ПАНІЖЭННЕ ТЫДНЯ

Той, хто кажа, што ўсё з кожным днём даражэе, пэўна, не ведае, што за апошнія паўтара месяца I квадратны метр агульнай плошчы сталічных кватэр знізіўся ў сярэднім на 70 долараў. А справа ў тым, што даходы насельніцтва ў пераліку на валюту ўжо не тыя, што былі зусім нядаўна. Кватэры ў Мінску цяпер купляюць адзінкі, а прапануюць іх на рынку жылля ўжо сотні і нават тысячы прадаўцоў.

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

На пасяджэнні ўрада Літвы, дзе вялася размова аб запазычанасці Беларусі за электраэнергію (яна складае 374,5 мільёна літаў), прынята рашэнне аб тым, што наша краіна будзе расплачвацца са сваёй суседкай за электраэнергію таварамі — мазутам, драўнінай, грузавымі аўтамабілямі, трактарамі, калійнымі ўгнаеннямі.

## СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Пастаўкі расійскай нафты ў нашу краіну скараціліся на 9 працэнтаў. Прычына скарачэння, як лічаць некаторыя эксперты, не толькі ў нашай запазычанасці па аплаце, але і ў самой палітыцы кіраўніцтва нафтавых кампаній. Як вядома, толькі адзін "ЛУКойл" на працягу апошніх двух гадоў пастаянна прапаноўвае нашаму ўраду акцыянаваць ВА "Нафтан".

## ЛІКВІДАЦЫЯ ТЫДНЯ

Вярхоўны суд Беларусі па ініцыятыве Міністэрства юстыцыі ліквідаваў Беларускую хрысціянска-дэмакратычную партыю, якая праіснавала амаль чатыры гады. У 1997 годзе ў БХДП было крыху больш за 600 чалавек. З таго часу партыя нічым сябе не зарэкамендавала і наогул стала існаваць амаль толькі на паперы. Пасля ліквідацыі БХДП у нашай краіне засталося 27 палітычных арганізацый.

## ПАДАРУНАК ТЫДНЯ

Цэнтру дзіцячай хірургіі 1-ай клінічнай бальніцы Мінска кіраўніцтвам аўтамабільнага завода "Форд Юніён" падорана медыцынскае абсталяванне на суму 12 тысяч нямецкіх марак. Паболей бы такіх падарункаў!

## ФАКТ ТЫДНЯ

Інстытут заалогіі НАН Беларусі абнародаваў лічбы, згодна якім штогод ваўкі знішчаюць у нашай краіне каля 18 тысяч дзікоў, ласёў, казуль і аленяў. Штогод у лясах адстрэльваецца больш за тысячу шэрых драпежнікаў, аднак калі ў 1990 годзе ваўкоў было 1836, то ў 1998-м — звыш дзвюх з паловай тысяч.

ДРУК

# Кніжны кірмаш

Канулі ў лету часы, калі, зайшоўшы ў кнігарню, абавязкова можна было ўбачыць лозунг: "Кніга — лепшы падарунак". І не толькі таму, што час лозунгаў, як быццам, мінуўся. Ёсць і прычына няменш празаічная: кнігу, прытым з густам афармленую, выдадзеную на належным паліграфічным узроўні, сёння можа дазволіць сабе набыць далёка не кожны. Нічога не зробіш: тавар гэты цяпер не ўсім па кішэні. І ўсё ж наўрад ці можна знайсці такога чалавека, хто хоць раз-другі ў год не купляў бы кніг. Іншая справа, якая гэта літаратура. На жаль, многія задавальняюцца так званым "легким чтивом", напісаным нярэдка калектывам аўтараў, што звычайна хаваюцца за які-небудзь псеўданім. Аднак, чаго нельга не канстатаваць з задавальненнем, і літаратура "сур'ёзная" не застаецца без увагі.

А лішні раз у гэтым пераканаў VI Мінскі міжнародны кніжны кірмаш, які разам з V Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкай сучасных тэхналогій у выдавецтве, паліграфіі і рэкламе "COMBIT-99", наладзілі Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў і вытворча-камерцыйнае таварыства з абмежаванай адказнасцю "Макбел". У памяшканні Нацыянальнага выставачнага цэнтра "БелЭКСПА" (нядаўняя выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі) пад адным, як кажуць, крылом сабраліся больш за 300 выдавецтваў і выдавецкіх фірм, у тым ліку і дзесяць дзяржаўных выдавецтваў нашай краіны.

Знамянальна, што напярэдадні праходзіла сумеснае пасяджэнне калегій Дзяржаўных камітэтаў па друку Беларусі і Расіі, на якім былі абмеркаваны шляхі далейшага супрацоўніцтва ў галіне кнігавыдання. Старшыні камітэтаў М. Падгайны і І. Лапцеў і перарэзалі чырвоную стужку, тым самым запрасіўшы прысутных на кніжнае свята, якое стала і свайго роду справаздачай для выдаўцоў.

Нягледзячы на розгара роду цяжкасці, якія апошнім часам не абмінулі і гэтую галіну, справы ўсё ж не такія і кепскія, як падаецца недасведчанаму чалавеку. Летась усе дзяржаўныя і недзяржаўныя выдавецтвы, што працуюць на Беларусі, выпусцілі 6073 назвы кніжнай прадукцыі, агульны тыраж якой склаў 60,02 мільёна экземпляраў. З іх на беларускай мове з'явілася 806 найменняў тыражом 7,06 мільёна экземпляраў. Дарэчы, многія з кніг можна было набыць непасрэдна на кірмашы. А таксама альбомы, часопісы, кніжкі-цацкі, іншую адпаведную прадукцыю. Вось тут і высветлілася, што вельмі многія акурат і цікавяцца сур'ёзнай літаратурай.

А яшчэ кірмаш — гэта традыцыйныя дні выдавецтваў, калі можна было сустрэцца з аўтарамі кніг, пісьменнікамі, выдавецкімі работнікамі. І, зразумела, заключэнне кантрактаў, выгадных для абодвух бакоў.

**Н. К.**

АНОНС

# Мы — з Украінай, Малдовай, Летувой

Сёння ў Мінску пачынаецца VI Міжнародны фестываль джаза. Яго арганізатары — Міністэрства культуры, Мінскі гарвыканкам і заслужаны калектыў, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі — як ніколі раней адчулі цяжар фінансавых праблем. З-за іх, гэтых праблем, давялося эканоміць на ганарарах выканаўцаў (музыканты Дзяржаўнага канцэртнага ўвогуле выступяць "проста так"), адмовіцца ад запрашэння высокааплатных гасцей з Расіі... Зрэшты, джазавых фанатаў фестывальная "кухня" не павінна цікавіць. Галоўнае, што для іх падрыхтаваны тры дні свята — свята жывой музыкі!

З новай праграмай выступіць біг-бэнд нашага Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Фінберга, пакажацца і малады ансамбль салістаў на чале з Аляксандрам Каліноўскім, узгадаваны ў аркестры. Заўтра выступіць "Крымскае трыо Энвэра Ізмайлава" — выбітныя музыкі з Украіны, якія робяць цуд на дзвюх гітарах і саксафоне-сапрана (флейце). Будуць іграць і нашы джазмены: ансамбль пад кіраўніцтвам Уладзіміра Бялова (Беларускі універсітэт культуры), квартэт Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, лідэр фартэпіяннага джаза Аркадзь Эскін у атачэнні аркестравага свінга... А завершыцца ўсё ў нядзелю — гасцямі будуць экзатычнае арт джаз-фолк трыо "Trigon" пад кіраўніцтвам Анатола Штэфанеца ды славуты Каўнаскі біг-бэнд на чале з Рамуальдасам Грабштасам.

Як зазначыў мастацкі кіраўнік фестывалю М. Фінберг, Клуб імя Ф. Дзяржынскага прадастаўлены для правядзення джазавых вечароў за сімвалічную на цяперашнім часе арэндную плату. А для публікі канцэрты будуць сапраўдным падарункам — білеты не прадаюцца, а распаўсюджваюцца, як запрашэнні на свята, сярод знаўцаў і аматараў віртуознага грання, інструментальнай імправізацыі, шчырай жывой музыкі.



**С. Б.**

*Фота Віт. АМІНАВА*

# Калі граюць маладыя



Многія аматары фартэпіяннага мастацтва прыйшлі ў Залу камернай музыкі Белдзяржфілармоніі на канцэрт навучэнцаў класа выкладчыка Яўгена Пуксты. Выхаванцы Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі гралі натхнёна, ярка, эмацыянальна.

Выразна выступілі сямікласніца Настасся Рашэтнік, Сун-Сяо з 11 класа. Некалькі твораў прагучала ў выкананні лаўрэата міжнароднага конкурсу адзінаццацікласніка Аляксандра Баравікова, які паказаў сябе сталым музыкантам і якога публіка доўга не адпускала са сцэны. Свой непаўторны стыль паказаў вучань 12 класа Аляксей Сцепанец, уразіўшы цудоўным, "аркестравым" гукам. Парадавала слухачоў тонкі інтэрпрэтатар твораў І. С. Баха, Ф. Шапэна, С. Рахманінава адзінаццацікласніца Марына Рамейка.

Выступлення лаўрэата міжнароднага конкурсу вучня 9 класа Даніїла Шлеянкова асабліва чакалі слухачы. Ды і ён сам, здавалася, "перачакаўся". Але граў моцна, тэмпераментна, шчыра. Пачаў ярка — з рэдка выконваемай 16-й санаты соль мажор Бетховена. Незвычайныя фарбы знайшоў для выканання эцюда-карціны, опус 39, N 9 С. Рахманінава. А колькі энергіі, экспрэсіі паказаў у выкананні "Мефіста-вальса" Ф. Ліста: здавалася, быццам іграе не адзін піяніст, а цэлы аркестр! А закончыў выступленне Даніїл Шлеянкоў Санатай, якую напісала яго мaці кампазітар Ш. Ісхакбаева.

Тры гадзіны працягваўся канцэрт маладых талентаў, а слухачы гатовыя былі яшчэ і яшчэ слухаць цудоўную музыку ў гэтым гожым выкананні.

**Вера КРОЗ**

*На здымку: лаўрэат міжнароднага конкурсу Д. ШЛЕЯНКОЎ.*

*Фота К. ДРОБАВА*

# "Пад белымі крыламі"

У адпаведнасці з Рэспубліканскім планам асноўных мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці і правядзенні ўрачыстасцяў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння народнага мастака БССР і РСФСР В. К. Бялыніцкага-Бірулі Міністэрства культуры, Беларускі саюз мастакоў праводзяць рэспубліканскую выстаўку-конкурс пейзажа "Пад белымі крыламі".

Яе галоўнай мэтай з'яўляецца — садзейнічанне паслядоўнаму развіццю лепшых нацыянальных традыцый у жывапісе і графіцы, адлюстраванню прыгажосці роднага краю, пошуку новых творчых форм пры стварэнні высокамастацкіх твораў пейзажнага жанру.

У выстаўцы-конкурсе могуць прыняць удзел мастакі (жывапісцы, графікі), якія маюць творчую кваліфікацыю (сярэднюю альбо вышэйшую спецыяльную адукацыю).

Выстаўка-конкурс праводзіцца ў тэрмін з 15 сакавіка па 5 красавіка 1999 года. Яе ўдзельнікі падаюць свае прапановы журы (да трох работ) да 12 сакавіка 1999 г. па адрасе: г. Мінск, вул. Казлова, 3, Палац мастацтваў.

Мастацкія творы, выкананыя ў тэхніцы алею, акварэлі, эстампу, па выбару аўтараў, не павінны перавышаць памераў па большым баку твора: жывапіс алей да — 150 см, графічны ліст — да 80 см.

Падрыхтаваныя да экспанавання творы жывапісу і графікі афармляюцца дэвізам (шацэзначнай лічбай), які наносіцца на адваротным баку. Пад гэтым жа дэвізам удзельнікі выстаўкі-конкурсу прадстаўляюць заклеены канверт, у якім знаходзяцца звесткі аб аўтары і яго адрас.

**За лепшыя творы пейзажнага жывапісу і графікі ўстанаўліваюцца прэміі:**

**палатно, алей, ДВП і іншыя матэрыялы**

адна першая — 30 млн. рублёў
адна другая — 20 млн. рублёў
адна трэцяя — 10 млн. рублёў

**акварэль, эстамп**

адна першая — 20 млн. рублёў
адна другая — 15 млн. рублёў
адна трэцяя — 10 млн. рублёў

Журы прадстаўляецца права фарміраваць экспазіцыю выстаўкі і, зыходзячы з якасці прадстаўленых твораў, мяняць колькасць прэмій, іх памеры ў межах вызначанай агульнай сумы прэмій.

Прэміраваныя і рэкамендаваныя журы творы для разгляду іх экспертнай камісіі Міністэрства культуры, могуць набывацца ў музейны фонд, астатнія — у двухтыднёвы тэрмін пасля экспанавання выстаўкі вяртаюцца аўтарам.

КАНЦЭРТЫ

# Як дарунак роднаму гораду

Месяц люты запомніцца мінскім меламанам двума арганнымі канцэртамі ў Зале камернай музыкі. Ігралі маладыя выканаўцы: Расціслаў Выграненка, дыпламант І Міжнароднага арганнага конкурсу ў Варшаве (ён ужо неаднойчы выступаў на гэтай сцэне, пра што "ЛіМ" пісаў) і пакуль не вядомая шырокаму колу слухачоў Святлена Немагай, для якой гэта быў першы сольны канцэрт.

Яны ўспрымаліся як дарунак роднаму гораду — вялікі музычны вечар у двух аддзяленнях Расціслава і больш сціплае, але не менш цікавае выступленне Святлены. Абое выканаўцы ўключылі ў праграмы тыя творы, якія засвоілі падчас сваёй цяперашняй вучобы ў Польшчы. У праграме Р. Выграненкі была музыка І. С. Баха, А. Скарлаці, Н. дэ Грыны, Л. Маршана і рэдка выконваемага Н. Брунса, любімага вучня знакамітага Д. Букстэхудэ. Святлену таксама прывабілі цудоўныя творы І. С. Баха ("Прэлюдыя і фуга сі мінор, харал "Nun Komm der Heiden Heiland" і Трыо-саната мі мінор N 4), папулярны Канцэрт Вівальдзі рэ мінор у перакладзенні І. С. Баха, а таксама "Пастараль" С. Франка і твор М. Рэгера, прысвечаны ахвярам другой сусветнай вайны. Святлена добра авалодала даволі складанай праграмай і выканала яе з поспехам.

Пасля канцэрта Святлена Немагай расказала мне гісторыю свайго шляху да аргана. Дзяўчына спачатку іграла ў касцёле падчас імшы; аднойчы ёй давялося граць у Магілёве на шлюбе сваёй сяброўкі. Там яе заўважыў арганны майстар з Познані і запрасіў на кансультацыі да пані Альжбэты Кароляк, педагога Познаньскай акадэміі музыкі імя Ігнацыя Яна Падэрэўскага. Так Святлена пачала прафесійна авалодваць ігрой на аргане.

Яе вучоба ў Познані не абмяжоўваецца толькі наведваннем традыцыйных акадэмічных заняткаў: адкрываюцца шырокія магчымасці далучэння да канцэртнай практыкі. Нядаўна ёй давялося граць у гарадскім касцёле босых кармелітаў. Мажлівасць пачаткоўца-выканаўцы кантактаваць з аўдыторыяй, безумоўна, садзейнічае ўдасканаленню майстэрства, дазваляе "вывярэць" пераканаўчасць уласных інтэрпрэтацый.

Святлену Немагай вельмі вабіць таксама музіцыраванне ў час касцельнага набажэнства сумесна з хорам прыхаджан. І хаця праца храмавага музыканта на першы погляд здаецца няцяжкай, думаецца, што яна вымагае не толькі музыканцкай падрыхтоўкі, але і пэўнай сталасці духу, унутранай гатоўнасці да ўдзелу ў імшы.

Дзяўчыне пашчасціла з педагогам. Альжбэта Кароляк — даволі вядомая ў Познані арганістка, якая сумяшчае педагагічную працу з актыўным канцэртаваннем. Заняткі ў яе класе даюць магчымасць прафесійнага росту, вялікага развіцця творчых здольнасцяў.

Можна шчыра парадавацца за С. Немагай, мара якой здзейснілася. Прыемна і тое, што цікавасць да аргана сярод маладых мінскіх музыкантаў і слухачоў расце.

Так, мы ведаем пра існаванне ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі арганнага класа Наталлі Іванаўны Выграненка, пра штогодні канцэрты яе вучняў; ведаем, што некалькі студэнтаў акадэміі бяруць удзел у набажэнствах у касцёле св. Роха як музыканты. Але, на жаль, тыя, хто імкнецца да прафесійнай арганнай адукацыі, не маюць магчымасці атрымаць яе на радзіме і вымушаны, як Расціслаў Выграненка ці Святлена Немагай, шукаць свой шанц і ехаць вучыцца за мяжу...

**І. Б.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Каляды ў Роўне

На V Міжнародны фестываль славянскага фальклору ў горадзе Роўне сабраліся калектывы не толькі з розных этнічных рэгіёнаў Украіны — Палесся, Валыні, Галіччыны, Букавіны, але і з шасці іншых краін. Удзельнічалі прафесійныя і самадзейныя артысты з Югаславіі, Славеніі, Польшчы, Славакіі, Расіі і Беларусі.



Пры канцы студзеня, з цяжкасцю раздабыўшы аўтобус (дапамог Тэлецэнтр), у Роўна выехалі гурт "Грамніцы" Беларускага інстытута культуры і гурт "Ватра" з суполкі ўкраінцаў (што пры Цэнтры нацыянальных культур) з праграмай на аснове шчадроўскіх песень. Кіраўнікамі групы былі кандыдат гістарычных навук, дацэнт БУК **Пётр Гуд** і старшыня Саюза фальклыстаў **Васіль Ліцвінка**. Васіль Змітравіч быў абраны членам журы, а на навукова-практычнай канферэнцыі выступіў з дакладам. Мы папрасілі яго падзяліцца сваімі ўражаннямі ад свята.

**— 5-ы, юбілейны фестываль у Роўне быў удала прымеркаваны да Вадохрышча. Ініцыятарам як заўсёды — а мне пашчасціла трэці раз там пабываць — выступала гарадское Творчае аб'яднанне "Каляда" (кіраўнік Мікола Федарышын). Творчай мэтай было захаванне натуральнага фальклору. У гэтым сэнсе найлепш выглядалі ўкраінскія калектывы, асабліва з Заходняй Украіны. Асаблівa ўразіла мяне аўтэнтычнае гучанне гуртоў з вёсак Ракітнае і Заслаўе Ровенскай вобласці, а таксама студэнтаў Дзяржаўнага ўніверсітэта з Валыні. Справа ў тым, што на Украіне ўзровень свядомасці высокі. Толькі свядомыя людзі могуць трымацца традыцыйнай культуры.**

**А ў нас што? Адно эстрада прапагандуецца. Рыгор Раманавіч Шырма, каб жывы быў, заплакаў бы...**

**Праўда, нашы "Дзянніцы" і "Ватра" таксама выступілі някепска і прымаліся добра. Разам з усімі мы прайшлі ў карнавальным шэсці ад майдана (плошчы) Незалежнасці да Тэатральнай. Вельмі маляўнічае было відовішча...**

**А ладзяцца гэтыя святы міжнароднай радай арганізацый фестываляў CIOFF, што з цэнтрам у Берне (Швейцарыя).**

**Г. К.**

# Мудрасць, годнасць, вера

Бягучы год абвешчаны Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Міжнародным годам пажылых людзей. Вядома, што ў XX стагоддзі, нягледзячы на войны, эпідэміі і забруджанае асяроддзе, сярэднестатыстычная працягласць чалавечага жыцця павялічылася. У XX стагоддзі працэнт пажылых людзей у чалавецтве большы чым у папярэдніх эпохі. Гэта значыць, што ў чалавецтва болей шанцаў захаваць і разумна скарыстаць свой калектыўны досвед. Але ж пры гэтым узнікаюць альбо абвастраюцца пэўныя праблемы. Сярод іх — класічныя: канфлікт пакаленняў.




Міжнародны год пажылых людзей — гэта "знак прызнання дэмаграфічнага ўступлення чалавецтва ў пару сталасці і тых перспектыў, якія яно адкрывае для развіцця больш сталых уяўленняў і магчымасцяў у грамадскім, эканамічным, культурным і духоўным жыцці не ў апошнюю чаргу ў інтарэсах агульнага міру і развіцця ў наступным стагоддзі".

Прадстаўніцтва ААН у Беларусі выдала з гэтай нагоды каляндар, праілюстраваны творамі вядомага фотамайстра Анатоля Клешчука. Гэтыя фотапартрэты ў розны час з'яўляліся ў перыядычным друку, у тым ліку і на старонках "ЛіМа". Сабраныя разам, яны ствараюць партрэт пакалення, якое вынесла на сваіх плячах XX стагоддзе. Гэта нашы бацькі і дзяды. Кажуць, старасць — не радасць. І яно сапраўды так. Аднак партрэтную галерэю, "намаляваную" аб'ектывам Анатоля Клешчука, справядліва было б назваць "эцюдамі аптымізму". Бо ёсць у гэтых тварах адухоўленасць, якая робіць іх прыгожымі. Ёсць мудрасць, годнасць, вера.

На жаль, наклад календара невялікі. А каляндар гэты быў бы не лішнім у кожнай беларускай хаце.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

## "Музыка ўсеабдымнага кахання"

**Пад такой назвай у музычным каледжы імя Н. Сакалоўскага прайшоў сольны канцэрт лаўрэаткі другога рэспубліканскага конкурсу вакалістаў Людмілы Шугалей. Праграма гэтага канцэрта рыхтавалася два гады. Была створана цэльная тэматычная кампазіцыя. Яе склалі вакальныя творы, у якіх каханне ззяе рознымі гранямі. Незвычайнасць гэтай праграмы яшчэ і ў яе асветніцкім характары. Слухачы атрымалі цікавыя звесткі аб кампазітарах, эпохах, у якія яны жылі і кахалі. У двух аддзяленнях канцэрта гучалі творы Джардані, Пергалезі, Моцарта, Глінкі, Дэліба, Лоу, Абрахама. Цудоўнае каларатурнае сапрана Людмілы Шугалей, выпускніцы Мінскай кансерваторыі, як заўсёды, уразіла гамяльчан прыгажосцю, чысцінёй і шырокім дыяпазонам. Партыю фартэпіяна выканала Іна Отчанашанка.**

**Алег АНАНЬЕЎ**

## Лаўрэат — "Натхненне"

Рагачоўская раённая дзіцячая бібліятэка актыўна прапагандуе літаратуру і мастацтва роднай рэспублікі. Пры бібліятэцы плённа працуе літаратурнае аб'яднанне "Натхненне", праводзіцца шмат цікавых мерапрыемстваў, якія ўзбагачаюць юнае пакаленне духоўнасцю, ведамі, развіваюць яго творчасць. Невыпадкова, што бібліятэка стала лаўрэатам першага рэспубліканскага фестывалю народнага мастацтва "Беларусь — мая песня". Заслуга ў гэтым і мясцовага літаб'яднання, якое не толькі прапагандуе беларускую літаратуру на вечарынах, але і выпусціла зборнікі "Рагачоўскі розгалас" і "Залаты рог".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДНА...*

## "Вянку" — чвэрць стагоддзя

**Дваццаціпяцігадовы юбілей адзначыў народны ансамбль танца "Вянок", які працуе пры Палацы культуры вытворчага аб'яднання "Азот" у Гродне. У 1973 годзе калектыў быў створаны на базе гуртка мастацкай самадзейнасці, што існаваў на прадпрыемстве. У 79-ым ансамблю прысвоена ганаровае званне народнага. "Вянок" неаднаразова прадстаўляў беларускае мастацтва за мяжой: у Венгрыі, Югаславіі, Балгарыі, Германіі, Польшчы, Расіі. Выступаў з канцэртамі на маладзёжных будоўлях Смаленскай, Наўгародскай, Львоўскай абласцей. Адна з найбольш яркіх падзей у жыцці творчага калектыву — удзел ва ўрачыстым адкрыцці Алімпіяды 80-га года ў Маскве.**

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*МАГІЛЁЎ...*

## На сцэне — Максім Гарэцкі

Свята шануюць памяць пра класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага яго землякі — жыхары Магілёўшчыны. Дзень нараджэння пісьменніка штогод адзначаецца літаратурнымі імпрэзамі. Нядаўна народны тэатр драмы Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры паказаў спектакль "Стогны душы" па творах Гарэцкага: п'есах "Салдат і яго жонка", "Свецкі чалавек" і драматычнай аповесці "Антон". Сцэнічны матэрыял падрыхтаваў кіраўнік тэатра, заслужаны дзеяч культуры Валянцін Ермаловіч.

Перад спектаклем цёплым словам успомніў Гарэцкага дэкан філфака мясцовага ўніверсітэта, пісьменнік Яраслаў Клімуць.

У спектаклі былі заняты артысты А. Загароўскі, М. Лебедзева, М. Паддубскі, А. Васкоўская і іншыя.

## Штрыхі да "штрыха"

**Дзесяць гадоў таму ў Шклоўскім раённым Доме культуры яго гаспадыня Галіна Прохарава арганізавала агітбрыгаду "Шклаўчанка". З цікавымі праграмамі калектыў аб'ехаў увесь раён, па вартасці атрымаў званне народнага. Летась "Шклаўчанка" была рэарганізавана ў тэатр мініяцюр і атрымала новую назву — "Штрых". Кіруе ім Сяргей Русевіч. Ён жа выступае і ў ролі сцэнарыста. Працуе разам з рэжысёрам Аляксандрам Зубаравым, харэографам Анатолем Кіюціным, кіраўніком вакальна-інструментальнага ансамбля Андрэем Сідарэнкам. На рахунку тэатра яркія гумарыстычныя праграмы "Партрэт" і "Казка — мана ды ў ёй намёк". "Штрых" працягвае лепшыя традыцыі "Шклаўчанкі" — шчыра смяецца над тым, што азмрочвае наша жыццё.**

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*БРЭСТ...*

## "Паклон роднай зямлі"

У цэнтральнай выставачнай зале абласнога цэнтра экспануюцца творы беларусаў-пецярбуржцаў Уладзіміра і Кірыла Дацукоў — бацькі і сына. Называецца выстава "Паклон роднай зямлі". Уладзімір Кірылавіч Дацук нарадзіўся ў вёсцы Навалессе Маларыцкага раёна, тут правёў дзіцячыя і юнацкія гады, адсюль паехаў вучыцца на геолага, пабываў з экспедыцыямі ў розных кутках былога СССР. Сын Кірыла нарадзіўся ажно на Сахаліне, закончыў Санкт-Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, у якой у свой час вучыўся і бацька. Сыну перадаліся не толькі захапленне вяўленнем мастацтвам, але і настальгія па Беларусі. Вось чаму ён ахвотна пагадзіўся адзначыць 60-гадовы юбілей Дацука-старэйшага сумеснай выставай на ягонай радзіме. Выстава атрымалася багатаю (партрэт, пейзаж, нацюрморт у жывапісе і графіцы) і высокамастацкай.

**Сымон АКСЕНІН**

*ВІЦЕБСК...*

## Забытыя помнікі

У абласным цэнтры створаны каардынацыйны савет па ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

— Дзесяць гадоў таму аблвыканкам прыняў рашэнне аб аднаўленні і рэстаўрацыі старажытных палацавых садова-паркавых комплексаў, аднак ніводзін пункт гэтага рашэння не выкананы, — гаворыць сакратар савета Ніна Шулецкая. — Стан многіх культурных помнікаў пагаршаецца з кожным днём. З сотні садова-паркавых комплексаў больш-менш захавалася 38. Але ніводны не выкарыстоўваецца па прызначэнні.

На Віцебшчыне няма практычнага вопыту рэстаўрацыі садова-паркавых комплексаў. Але, на думку Н. Шулецкай, пачынаць трэба з таго, каб абмежаваць гаспадарчую дзейнасць, якая наносіць шкоду унікальным помнікам.

**Святлана ГУК**

## Шчыра і зацікаўлена

**На мінулым тыдні ў Доме літаратара адбылася сустрэча беларускіх пісьменнікаў з Праваслаўным брацтвам святых віленскіх мучанікаў, на якой прысутнічалі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі сталіцы і духавенства. Імпрэзу вяла першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.**

**На пачатку сустрэчы протаіерэй айцец Георгій (Латушка) адслужыў набажэнства па памерлых беларускіх пісьменніках. Затым шчыра і зацікаўлена была абмеркавана унікальная кніга публіцыста з Польшчы Міхала Болтрыка "Як разбуралі цэрквы", выдадзеная ў Мінску інфармацыйна-выдавецкім цэнтрам "ОРТАПРЭС". Вельмі цёпла пра аўтара і яго кнігу гаварылі Іван Чарота, Уладзімір Казбярук, старшыня Беларускага дабрачыннага фонду Ягор Фядзюшын, гісторык Генадзь Шэйкін і іншыя выступоўцы. Сумная, трагічная гісторыя разбурэння праваслаўных храмаў у Польшчы ў 1938 годзе, падмацаваная дакладнымі ўспамінамі сведкаў, не можа не ўсхваляваць чытача, прымушае яго задумацца над няпростай гісторыяй праваслаўнай царквы ў Еўропе. Пра гэтую жорсткую, варварскую акцыю разбурэння цэркваў на тэрыторыі Холмшчыны і Падляшша піша Міхал Болтрык публіцыстычна востра, з непрыхаваным болем: хаця мінула з той пары ўжо шмат дзесяцігоддзяў, "рана ў свядомасці праваслаўных жыхароў Польшчы жыве да гэтага часу". Міхал Болтрык — аўтар кнігі "Мар'я", сааўтар зборніка рэпартажаў пра лёс манашаства "Далоў манахаў!?", прысвячае свае творы жыццю праваслаўнай царквы, гісторыі і культуры Польшчы, Беларусі, Украіны і Расіі.**

**У час гутаркі ў Доме літаратара былі закрануты многія надзённыя пытанні супрацоўніцтва творчай інтэлігенцыі з царквой, у прыватнасці, значную ўвагу ўдзялілі прысутныя якасці перакладу рэлігійных тэкстаў на беларускую мову.**

**У сустрэчы за "круглым сталом" прынялі ўдзел старшыня Праваслаўнага брацтва святых віленскіх мучанікаў Мікалай Матрунчык, Аляксей Дудараў, Навум Гальпяровіч, Кастусь Цвірка, Аляксей Гардзіцкі, Уладзімір Васілевіч, перакладчыца кнігі на беларускую мову Лідзія Кулажанка, іншыя літаратары.**

**Я. КАРШУКОЎ**

## ТБМ рыхтуецца да з'езда

**Дарагія сябры! Шаноўныя прыхільнікі беларускай мовы! Паважаныя суайчыннікі, а таксама грамадзяне іншых краін, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры! Наша краіна перажывае нялёгкі час.**

**У гэтых умовах Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з'яўляецца адзінай грамадскай, некамерцыйнай, непалітычнай арганізацыяй, якая бароніць усё беларускае.**

**Цяпер наша арганізацыя трапіла ў выключна цяжкае матэрыяльнае становішча. Спынена дзяржаўнае фінансаванне газеты "Наша слова", ужо больш года яна выходзіць на ахвяраванні сяброў ТБМ. Але ТБМ не здаецца і шукае выйсце са становішча, што склалася не па віне арганізацыі.**

**Зараз таварыства рыхтуецца да свайго чарговага VI з'езда.**

**Мы звяртаемся да вас з просьбай аказаць ТБМ разавую матэрыяльную падтрымку на правядзенне з'езда, выданне газеты "Наша слова", а таксама даследаванняў аб дыскрымінацыі беларускай мовы.**

**Загадзя ўдзячны ўсім прадпрыемствам, установам, арганізацыям, рухам і партыям, а таксама асобным грамадзянам, якія адгукнуцца на нашу просьбу.**

**Прыватныя асобы могуць пералічваць свае добраахвотныя ахвяраванні на дзейнасць ТБМ на наш разліковы рахунак праз любое аддзяленне Ашчадбанка "Беларусбанк" (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).**

*Наш рахунак N 3015212330014, код 764 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Мінска. Нашы тэлефоны: 284-85-11, 213-43-52.*

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовыімя Францішка Скарыны**

## Запрашаем!

**3 сакавіка 1999 года ў вялікай зале Дома літаратара (Мінск, вул. Фрунзе, 5) адбудзецца літаратурны вечар, прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Творчая спадчына паэта-класіка, багацце ідэй і думак, дасканаласць яго паэтычнага слова працягвае заставацца надзвычай актуальнай і ў наш вызначальны час — на пераломе XX і XXI стагоддзя.**

*Пачатак вечара а 18-й гадзіне.*
*Уваход вольны.*

ВЕЧАРЫНЫ

# "Існасць, мая Айчына..."

***Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы наладзіў вечарыну ў гонар паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы за 1998 год Уладзіміра Някляева.***

У Доме Купалы, дзе заўсёды ўладарыць і гаспадарыць Яе Вялікасць Паэзія, 10 лютага панавала ўрачыстасць, адчуваўся прыўзняты настрой. На сустрэчу са знакамітым паэтам і яго высакароднай, неардынарнай творчасцю прыйшлі шчырыя прыхільнікі паэзіі Уладзіміра Някляева: яго сябры, прадстаўнікі Міністэрства культуры, вядомыя паэты, кампазітары, вучоныя, навукоўцы, настаўнікі, журналісты, супрацоўнікі бібліятэк, студэнты музычнага вучылішча імя Глінкі.

Паэзія Уладзіміра Някляева вылучыла вельмі трапную назву вечарыны і выставы — "Існасць, мая Айчына...", адзін з падраздзелаў якой "Паэзія — адчуванне адказнасці за народ". Выстава створана з матэрыялаў і дакументаў асабістага архіва паэта. Фотаздымак заўсёды можа шмат расказаць. Неабходна адзначыць тое, што было неспадзявана: у паэта зусім адсутнічаюць партрэтныя ці афіцыйныя фотаздымкі. Літаральна ўсе яны дыхаюць натуральнасцю, шчырасцю, харассвом жыцця, на многіх фотаздымках сустракаеш дапытлівы позірк, прамяністую ўсмешку вачэй ці, наадварот, гамлетаўскі настрой, на якіх бачны роздум, натхненне, незвычайна тонка акрэслены псіхалагізм, глыбока-філасофская думка:

***Намацаваць рух радка, які ў зачыне,***
***Як шыць туман ці аблачыну ткаць...***

***І ўсё ж пачаць — хоць напачатку знаць***
***Што слоў, напісаных на аблачыне,***
***Ніколі і нікому не чытаць.***

Вельмі ўразіў адзін фотаздымак. На ім — вучні і настаўнікі сярэдняй школы N 1 горада Смаргоні. На адваротным яго баку стараннымі дзіцячым почыркам пазначаны ўсе прысутныя — вучні і настаўнікі. І гэтая чалавечая якасць гаворыць сама за сябе...

Па роду свайго прафесійнага занятку на працягу многіх гадоў мне даводзіцца сустракацца з многімі знакамітымі паэтамі і пісьменнікамі, кожны з якіх з'яўляецца, без перабольшання, выдатнай асобай у гісторыі нашай культуры. Тым больш, што ўсе, хто прычасціўся да невычэрпнай крыніцы Купалавай паэзіі, ніколі не выпадаюць з поля зроку навукоўцаў музея. Але сярод суцэльнага зорнага россыпу імёнаў Уладзімір Някляеў вылучаецца сваёй яскравай індывідуальнасцю, імпазантнасцю, мае характэрны, уласцівы толькі яму імідж. Ён умее захапіць аўдыторыю, нягледзячы на розны ўзрост прысутных, іх сацыяльны статус і колькасць. Спачатку я не магла даць вызначэнне гэтай з'яве, а потым адчула, што гэтая асаблівая рыса ў паэта мае сваю назву — шляхетнасць. Гэтая ж акалічнасць, на маю думку, была ўласціва яшчэ аднаму Творцу, паэту, лаўрэату Купалаўскай прэміі Міхасю Стральцову. Як пацвярджэнне вышэйзгаданага на памяць прыходзіць выказванне аднаго з найярчэйшых знаўцаў роднага слова, народнага паэта Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Рыгора Барадуліна, якое прагучала не сёння, а шмат гадоў таму, і ў якім трапна даецца вызначэнне асобы паэта Уладзіміра Някляева: "веданне жыцця глыбіннае, тэхніка верша дасканалая, гарантыя поспеху — поўная". Прыгадваецца наша першая сустрэча, калі навукоўцы музея разам з паэтам выступалі ў вайсковай частцы, так званым у народзе белпалку, што на Грушаўцы ў Мінску. Гэта быў юбілейны 1982 год — 100-годдзе народзін Янкі Купалы. Паэт чытаў шмат вершаў. Але застаўся ў памяці верш "Кажух", дзе знайшлі адбітак трагізм падзеі — гібель сябра, пакуты дзіцячай душы, асэнсаванне праз гады страты, якая не пакідае паэта ў жахлівых снах... Затым з цягам часу былі шматлікія паездкі па Купалаўскіх мясцінах. Бадай, гэта адзіны паэт, які з намі неаднаразова выязджаў на святы паэзіі, сустрэчы ва ўсе нашы філіялы: Вязынку, Ляўкі, Акопы...

І вось яшчэ адзін этапны момант жыцця паэта. Ён — лаўрэат Купалаўскай прэміі. І адзначае гэтую падзею ў Доме Купалы. Ад імя сяброў прачула вітаў паэта прафесар, доктар медыцынскіх навук Генадзь Мураўёў. Шчыра віншавалі юбіляра і зычылі яму новых творчых поспехаў намеснік міністра культуры Валеры Гедройц, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт Навум Гальпяровіч, старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы паэты Раіса Баравікова, Генадзь Бураўкін, Алесь Разанаў. Як заўсёды красамоўна гаварыла Раіса Баравікова: "Я лічу, — сказала яна, — што Валодзя шчаслівы чалавек, бо яго пацалаваў Бог. У Валодзі ёсць нейкая тайна, а паэт цябе цікавіць да той пары, пакуль гэтая тайна не будзе разгадана". Паэтка натхнёна і замілавана прачытала верш-прысвячэнне паэту "Французскае танга ў метро з Някляевым". Філасофскія разважанні гучалі ў прамове паэта Леаніда Дранько-Майсюка: "Для творцы вельмі важна не толькі тое, пра што ён піша, але найперш — як ён піша". У адрас Уладзіміра Някляева шчыра гаварыў паэт, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Алесь Пісьмянкоў. Пісьменніца Вольга Іпатава, дырэктар бібліятэкі імя Пушкіна Наталля Чуева цёпла віншавалі паэта. Як раскаты магутнага грому, гучала пад дахам тэатральнай залы музея песня "Янка Купала". Так адбываецца ў жыцці і прыродзе, што кожную новую вясну з яе першым громам і бліскавіцамі мы ўспрымаем як штосьці асаблівае і незвычайнае, хаця ўжо чулі і бачылі гэта, дай Бог палічыць, колькі разоў. Вось так і цяпер адбылося з гэтай сапраўды народнай песняй, якую выканаў аўтар музыкі, кампазітар Уладзімір Буднік. Затым у аўтарскім выкананні прагучала яшчэ адна песня "Землякі" на словы Уладзіміра Някляева. Задушэўная песня з сімвалічнай назвай выткала думку, што мы ўсе землякі такой невялічкай часткі зямнога абсягу, якая мае назву Беларусь. Цэлую музычную праграму, шчодра аздобленую сардэчнымі словамі і песнямі, падараваў паэту народны артыст Рэспублікі Беларусь кампазітар Леанід Захлеўны. У выкананні заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Святланы Суседчык адмыслова прагучала песня "Каліна-ягада", што стала сапраўдным шлягерам. Адбылася прэм'ера песні "Недарэка" ў выканані артысткі ансамбля "Бяседа" Анжэлы Макаравай. Акампанаваў спявачкам музыка Мікалай Алежка.

У чым жа сакрэт такой відавочнай папулярнасці паэзіі Уладзіміра Някляева? Бо яго вершы — гэта споведзь жыцця, якая кранае глыбінёй думкі, зачароўвае нас сваім харасвом. Мелодыя радка паэта кранае самыя патаемныя струны душы. Мабыць, таму з аднолькавым поспехам гучаць сёння песні на словы паэта ў сельскім клубе і канцэртнай зале, на высокапрафесійнай сцэне і элітнай дыскатэцы, на святочных застоллях і народных гуляннях.

Паэзія ж — Госця нябесная, бо яна, і толькі яна, дае пачатак прыгажосці ў жыцці:

***Вершы прылятаюць ніадкуль —***
***Космасу таемнага пасланцы.***

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ**

ВЫСТАВЫ

# Запрашэнне да дыялога

5 лютага ў будынку візавага аддзела амбасады Федэратыўнай Рэспублікі Германія адбыўся вернісаж. Пяцёра маладых беларускіх мастакоў — Валерыя Маляўкіна, Ларыса Макатун, Ілля Маланаў, Дзмітрый Махамет і Андрэй Савіч — мелі магчымасць прадэманстраваць свае творы гасцям амбасадара. Сярод запрошаных на вернісаж былі літаратары, мастакі, журналісты, а таксама асобы, аўтарытэтныя ў асяродку эканамістаў і палітыкаў.

Для мастакоў, чые творы ў гэты вечар упрыгожвалі сцены амбасады, гэта выстава далёка не першая ў жыцці. Усе яны выхаванцы Беларускай акадэміі мастацтваў (Валерыя Маляўкіна яшчэ вучыцца ў БелАМ) і браць удзел у выставах пачалі яшчэ падчас вучобы. Творы Ларысы Макатун бачыла публіка Мінска і Масквы. Валерыя Маляўкіна, акрамя названых гарадоў, экспанавала свае творы ў Кжыжаве (Польшча). Мінск, Масква, Бадэн-Бадэн (Германія) — маршрут карцін Іллі Маланава; Орша, Мінск, Масква — Дзмітрыя Махамета; Афіны (Грэцыя), Золінген (Германія), Мінск, Масква — Андрэя Савіча. Валерыя Маляўкіна — графік, астатнія скончылі аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага жывапісу. Пра кожнага можна сказаць, што гэта творца ў стадыі фарміравання, але ўжо з адметным почыркам.

Для Ларысы Макатун першасным з'яўляецца ўнутраны свет, а так званая рэчаіснасць гэта толькі ягоны люстэркавы адбітак. Рэчы на яе палотнах — гэта партрэт іхняга ўладальніка. Яны маюць характар і біяграфію. З асаблівай цеплынёю Ларыса малюе тое, што ўяўляецца цікавым і каштоўным для яе маленькай дачкі.

Тэму творчасці В. Маляўкінай на дадзены момант можна вызначыць словам "горад". Яна ўспрымае гарадское асяроддзе прыблізна так, як жыхар вёскі навакольны далягляд — поле, лес, аблокі. Як прыродную з'яву. Як "другую прыроду", якая ёсць лагічным працягам прыроды "першай".

Ілля Маланаў паэтызуе (з пэўнымі дамешкамі іроніі) шэдэўры тэхнічнай думкі — караблі. Карабель і самалёт для чалавецтва нешта большае, чым транспартны сродак. Гэта сімвалы асваення прасторы. А можа (хто ведае!), увасабленне адвечнай мары чалавека збегчы ад самога сябе, стаць кімсьці іншым. Скажам, птушкай альбо рыбай...

Дзмітрый Махамет мае схільнасць ствараць складаны, свядома заблытаны кантэкст для рэчаў простых і, здавалася б, зразумелых. У залежнасці ад настрою і псіхалагічнай зададзенасці глядач можа зрабіць высновы, што мастак над ім здзекуецца, альбо наадварот — ацаніць здольнасць творцы думаць нестандартна, шукаць новае ў звыклым, перакрэсліваць логіку падсвядомасцю.

Пошук сваёй тэмы, свайго почырку ў мастака можа быць мэтанакіраваным і стыхійным, спантанным. І першы, і другі шлях могуць быць у роўнай ступені плённымі. Усё залежыць ад асобы. У творах Андрэя Савіча адчуваецца жаданне пазбавіцца выяўленчых стэрэатыпаў перыяду навучання ў акадэміі. Так, зрэшты, і павінна быць: спачатку мастак асвойвае вопыт папярэднікаў, а потым, адштурхоўваючыся ад гэтай глебы, ідзе далей. Нягледзячы на тое, што па адукацыі ён манументаліст, Андрэя цягне да кампазіцыйных рашэнняў, больш уласцівых станковаму жывапісу альбо графіцы (гэта значыць — камернаму мастацтву). Ягоныя сённяшнія эксперыменты ўяўляюць цікаўнасць хутчэй для прафесійнікаў, калег, чым для шырокай аўдыторыі.

Кажуць, каб зразумець краіну, трэба найперш азнаёміцца з яе мастацтвам. Мабыць, менавіта гэтай логікай кіраваліся нямецкія дыпламаты, ладзячы ў амбасадзе выставу маладых беларускіх мастакоў. А яшчэ — мастацтва збліжае, бо ўяўляе сабою універсальную міжнародную мову. Карціна беларускага мастака на сцяне ў нямецкай амбасадзе — гэта і знак павагі, і запрашэнне да дыялога.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Працяг жыцця паэта

Гэтымі лютаўскімі днямі на Магілёўшчыне з'явіўся яшчэ адзін музей — літаратурны. Яго адкрыццё было прымеркавана да 85-х угодкаў слыннага земляка, народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова.

Людзі, як і рэкі, маюць свае вытокі. Касцюковіцкая зямля падаравала цэлую плеяду творцаў. Ды найбольш уславіў гэты куток, бясспрэчна, Аркадзь Куляшоў. З літаратурнага гуртка Саматэвіцкай сямігодкі распачаўся ён як паэт. Пазней на месцы старой школы пабудавалі новую, пабудавалі "на літаратурную прэмію" ўжо вядомага паэта А. Куляшова. Зараз школа ў роднай вёсцы пазірае ў свет пустымі вокнамі — чарнобыльская бяда яе не абмінула. І бронзавы А. Куляшоў сустракае сваіх малых землякоў-перасяленцаў у фае іншай школы — яна гэтаксама носіць яго імя.

Разам з аднавяскоўцамі на новае месцажыхарства пераехаў і створаны на малой радзіме паэта адразу пасля ягонай смерці літаратурны музей. Праўда, яго экспанаты доўгі час захоўваліся ў фондах раённага краязнаўчага музея. Сёлета ж, з юбілейнай нагоды, музею вырашылі даць новае жыццё...

У невялікай зале Новасаматэвіцкай сярэдняй школы месціцца звыш паўтысячы экспанатаў, сярод якіх — калектыўныя фотаздымкі, партрэт маці, ручнікі, вышываныя яе рукамі, асабістыя рэчы яе знакамітага сына, пасмяротная маска паэта і, безумоўна, кнігі: куляшоўскія і ягоных сяброў. Дарэчы, падчас адкрыцця экспазіцыі кніг пабольшала: зборнік вершаў падараваў сваім землякам Алесь Пісьмянкоў, лаўрэат прэміі імя Аркадзя Куляшова. А старэйшы ўнук паэта Уладзімір Бярбераў перадаў музею ксеракопію апошніх вершаў славутага дзеда, не надрукаваных пры жыцці.

Новыя экспанаты зоймуць належнае месца ў адзіным пакуль на Беларусі музеі народнага паэта. Хоць, як заўважыў У. Бярбераў, самы вялікі музей Куляшова — той, які можна паставіць на паліцы бібліятэкі.

**І. ТАРАСАВА**

# Родная мова ў касцёле

ПАХВАЛЁНЫ ЕЗУС ХРЫСТУС! Добры дзень, шаноўныя людзі! Спакой Божы няхай будзе ў вашых сем'ях і хатах!..

Мо й нязвычна гэтак пачынаць газетны артыкул, але ж інакш — не магу, бо я — святар. Звяртаюся да вас, да вашых сэрцаў і сумлення са святарскім словам пра самое слова, пра мову нашу.

Дзякуючы дару мовы, якою Гасподзь Бог адарыў кожны народ, мы маем паразуменне між сабою і радасць карыстання ёю не толькі ва ўсіх сферах штодзённага жыцця, але і ў храмах. Слова Божае даступнае для кожнага народа, калі яно гучыць на мове гэтага народа.

Беларуская мова, пра якую я хачу павесці гаворку, мае глыбокія жыватворныя карані і як дзяржаўная мова многіх народаў (згадаем гісторыю Вялікага княства Літоўскага), і як духоўная мова ў храмах. Пасля, на жаль, гісторыя абышлася з ёю нялітасціва. Сталася гэтак, што беларуская мова была выцеснена практычна адусюль і загнана адно пад саламяныя стрэхі сялянскіх хат. Аднак жа яна не загінула, бо не загінуў, не паддаўся дзікаму ўціску асіміляцыі яе носьбіт — народ. І праз стагоддзі летаргіі надышоў час нацыянальнага, духоўнага адраджэння беларусаў. А яно ж магло здзейсніцца толькі на грунце роднай мовы. І яна пачала вяртацца ў сферы пісьменства, культуры, духоўнай дзейнасці, у тым ліку і мо найперш — у касцёл. Гэтаму спрыяла паважлівае стаўленне да беларускай мовы Віленскага біскупа Ропа, айцоў марыянаў у Друйскай парафіі, кенздзоў А. Станкевіча, Я. Германовіча, К. Стэповіча, А. Астрамовіча, А. Цікоты, П. Пякарскага, В. Гадлеўскага і многіх іншых. Беларуская мова зноў загучала ў малітвах, песнях, як вось у гэтай — "Мы хочам Бога":

***Хай будзе Бог ў сямейным коле,***
***Ў жыцці бацькоў, ў дзіцячых снах.***
***Хай будзе Ён у кніжцы, ў школе,***
***У адпачынку, ў працы днях.***
***Мы хочам Бога ў нашым Краі,***
***Між беларускіх бедных стрэх.***
***У нашай мове і звычаях***
***Не можа мецi месца грэх...***

Сёння надышоў такі час. У нашай незалежнай краіне мова прызнана дзяржаўнай. Адраджаецца і духоўная, літургічная мова ў святынях — храмах Беларусі. І мы павінны разумна, з любоўю дакласці свае сілы і сваё стараннe ў гэтай святой справе. Дзеля гэтага патрабуецца і наш удзел, унутраная духоўная перабудова кожнага з нас, наша жывая вера — незалежна ад адукацыі ці ўзросту. Без унутранай духоўнай перамены ў сабе нічога ўзнёслага не збудуеш, нічога не зробіш карыснага і для Бацькаўшчыны, у якой жывеш і якая чакае ад цябе сыноўскай любові і ўдзячнасці. Роднае Божае слова ў святынях глыбей узварушвае сэрца чалавека, адраджае дух любові дзяцей да бацькоў, умацняе павагу да продкаў, да гісторыі свайго народа. У храмах у людскіх сэрцах нараджаецца вера не толькі ў Госпада Бога, але і ў свае духоўныя сілы, у тым ліку творчыя. На гэтым духоўным і маральна чыстым фундаменце веры можна смела працягваць і будаваць сваё жыццё, сям'ю, культуру, традыцыі, саму Бацькаўшчыну. Дух вечны, чалавек жа і ўсе фізічныя рэчы — часовыя. Толькі дух яднае і ўсё трымае, падобна як цэментны раствор трымае цагліны, камяні высокага дома. Калі няма духу аб'яднання, які надае форму культуры народа, цяжка гаварыць пра сам народ як нацыю.

Мы яшчэ доўга будзем адчуваць наступствы распаду, падзення Савецкага Саюза, гэтай атэістычнай вежы, цытадэлі прапаганды бездухоўнасці, бязбожжа, усяго толькі матэрыялістычнага. Тысячы, мільёны загубленых душ людскіх будуць трывожыць нашу памяць. Кожнаму з нас як у фізічным, гэтак і ў маральным, духоўным сэнсе спатрэбіцца нямала часу, каб залячыць раны і вярнуцца адрадзіцца да духоўнасці, яшчэ доўга мы будзем пакутаваць за грахі дзядоў і бацькоў.

Ці не ад грахоў гэтых сённяшнія згрызоты, неспакой і бязвер'е, адсутнасць пашаны чалавека да чалавека, прага разбагацець, мець як мага больш? Калі няма веры ў Бога, калі чалавек душою не бачыць Бога, тады не бачыць ён і бліжняга свайго. Але Боская справядлівасць ніколі не спазняецца, заўсёды прыходзіць у адпаведны час, калі на яе найменш спадзяюцца.

Кожная рэспубліка былога Саюза мэтаімкнёна адраджае сваю мову, і гэта зразумела, гэта нармальны працэс вяртання да свайго. Вялікі эксперымент не ўдаўся не толькі з моваю, але і з усім тым, што звязана з гігантаманіяй, з казарменным, калектыўным жыццём і працаю; у чалавека, у людзей, у народа адвечна закладзены Богам своеасаблівасць, непаўторнасць. Асобных людзей можна зламаць, знішчыць, народ — ніколі. Пра гэта сведчыць гісторыя, асабліва апошніх дзесяці гадоў. "Усё вяртаецца на кругі свая". Мы бачым, як вяртаецца родная мова, культура, гісторыя да сваіх народаў-дзяцей у кожнай былой савецкай рэспубліцы, і мы гэтаму сведкі. І калі ўсё ўсталюецца, калі кожны з былых савецкіх народаў стане на ўласны грунт, тады зноў паўстане сімпатыя да суседзяў, іхняй мовы, культуры і г. д. Але — сапраўдная, а не фальшывая сімпатыя, і не на глебе старэйшасці ці малодшасці — на глебе раўнапраўнасці. Кожны народ будзе з іншым як роўны з роўным. Пасля наваселля пачынаюць адведваць суседзяў, шукаюць з імі сталай прыязнасці і ўзаемадапамогі. Наваселле ў маладых дзяржаў неўзабаве скончыцца і распачнуцца паважлівыя адносіны з суседзямі. У супольначалавечым жыцці-доме сам дух часу патрабуе — быць разам з іншымі народамі, але быць самім сабой, са сваёй культурай, мовай, звычаямі, традыцыямі.

Кожны народ мае ад Бога своеасаблівую ласку і абарону — сваю святыню, санктуарый — святое месца пілігрымак, сваіх святых заступнікаў-апекуноў. Як кожны з нас мае свайго анёла-апекуна, да якога звяртаемся ў сваіх малітвах і з просьбамі, гэтак і кожная краіна мае свайго анёла-заступніка. З даўніх часоў каталіцкі касцёл даручыў Беларусь апецы св. Міхала Архангела і Маці Божай Будслаўскай, Праваслаўная царква — апецы св. Еўфрасінні Полацкай. І гэтак кожная краіна і народ аддалі сябе і сваю Айчыну апецы Божай і заступніцтву святых. І калі хто выступае супраць іншага народа, краіны, культуры, мовы, ён тым самым грашыць перад Богам, выступае супраць Бога і святых апекуноў-заступнікаў, а гэта ўжо вельмі цяжкі грэх.

Да мяне, святара, звярнуліся парафіяне з просьбаю напісаць гэты артыкул — "Беларуская мова ў касцёле". А што такое напісаць артыкул? Гэта падзяліцца з вамі, дарагія людзі, бацькі, настаўнікі, інтэлігенцыя, вучоныя і шаноўная моладзь, сваімі думкамі, сумненнямі і развагамі, адкрыць вам тайны свайго сэрца ў вельмі ўзнёслым і далікатным пытанні матчынай мовы. Зрабіць гэта нялёгка. Вядома, лягчэй і хутчэй было б адказаць словамі Езуса Хрыста: "Калі Маім словам не верыце, дык паверце ўчынкам Маім, яны гавораць пра Мяне" (Ян. 10, 38), але адказваць трэба самому.

Просьба-заданне гэтае вельмі ўзвышанае, ганаровае, аднак жа і складанае. Бо цяжка даказваць самае простае, зразумелае, даступнае. Тое, напрыклад, што Чарнобыль — побач з намі, што цяпер — зіма і г. д.

Як даказаць вам, добрыя людзі, што беларуская мова неабходна ў храмах тут, у нас у Беларусі?!

Тут маю жаданне прывесці словы Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта: "Себя очень корю, что "не размаўляю па-беларуску". Это мой недостаток. Но я стараюсь, чтобы и в церкви звучал белорусский язык, и чтобы церковь в этом отношении не отставала. Также я благословил в Петропавловском соборе совершать некоторые частные богослужения, как крещение, венчание, молебны, на белорусском языке. Некоторые молодые семьи желают, чтобы в процессе богослужения звучала родная "мова". Еще я прошу отцов общаться "на беларускай мове" и проповедовать слово Божье" (часопіс "Беларусь", N 4, 1998 г.).

Пытанне ўвядзення беларускай мовы ў Беларусі павінна быць фактам і рэальнасцю — гэта Беларусь. Таму прашу цябе, шаноўны чытач, задумацца, чаму загаловак артыкула не "Беларуская мова ў Касцёле" (гэтак прасілі назваць), а зменены мною на: "Родная мова ў Касцёле".

Беларускую мову, як і кожную іншую, можна ігнараваць, адкінуць, але родную мову — ніколі, гэта святатацтва, гэта не толькі цяжкі грэх, але і праклянцце. "Калі, Ерусаліме, я забуду цябе, няхай адсохне правіца мая! Няхай язык мой прыліпне да гартані маёй, калі я не буду помніць цябе, калі Ерусалім не пастаўлю за найвышэйшую радасць маю" (Пс. 137, 5-6).

"Хваліце Госпада, усе народы! Слаўце Яго, усе народы! Бо вялікая ласка Яго над намі, і праўда Яго трываць будзе навекі!" (Пс. 117, 1-2).

Пытанне пра мову ў касцёле пастаўлена вельмі рытарычна, быццам без вас, без людзей касцёл вырашыць гэтую праблему. Гэта — твой і ўсіх іншых святы абавязак. Касцёл — гэта мы, людзі!

Мы ўсе разам перажываем цяжар пераходнага часу, многае намі ўспрымаецца балюча і з неразуменнем. Хуткія перамены ў цэнах і ў адносінах, стасунках між людзьмі, няўпэўненасць у заўтрашнім дні, асабліва для людзей сталага ўзросту, — усё гэта насцярожвае і трывожыць нас. Але ж якраз цяпер і настаў час выпрабавання нас на веру Богу. Ці вярнуцца ў храмы і прасіць Божага святла, розуму і вытрымкі, ці зноў хадзіць кругамі па бязводнай пустыні, наступаючы самім сабе на пяты? Калі добра і спакойна жывецца чалавеку, дык ён кажа: "Няма Бога, я сам сабе Бог". Калі ж бяда і трывога перапаўняюць розум і сэрца чалавечыя, тады зноў крычыць: "Няма Бога, бо чаму не памагае, не ратуе?!" Чаму? Бо ты, чалавеча, ніколі не звяртаўся да Яго, як сын ці дачка, — з любоўю і шчырасцю.

Чалавек жыве толькі адзін раз у гэтым жыцці, дарогі назад няма. Але ж славутае выслоўе Мікалая Астроўскага, ці ягонага героя Паўкі Карчагіна, аб тым, што жыццё даецца чалавеку адзін раз і пражыць яго трэба гэтак, каб не было пакутліва балюча за марна пражытыя гады, для многіх застаецца ўсяго толькі выслоўем, як абвестка на слупе. А хто, якая сіла ўдыхне дух ва ўсё добрае, хто перанясе гэтыя засушаныя і без адзнак жыцця ідэалы ў людскія жывыя сэрцы, душы моладзі, хто ўзросціць, акрыліць іх? Толькі храм, вера і сапраўднае, разумнае духоўнае адраджэнне.

Для ўсіх нас балючае пытанне: "Ці можна ў Беларусі ў храмах прапаведаваць і маліцца па-беларуску?" А між тым, гэта падобна на тое, што ходзім між людзей і даказваем, што зараз на дварэ — зіма. А як бы зрэагавалі на падобнае пытанне немцы ў Германіі, французы ў Францыі, калі б на старонках газет, часопісаў там уздымалі пытанне, якая мова павінна быць у нямецкіх ці французскіх храмах, школах інстытутах? Для іх і ўсіх іншых народаў ніколі нават і сумнення не ўзнікала, ці можна гаварыць і маліцца на роднай мове сваіх продкаў.

У свой час я працаваў душпастырам у Латвіі ў парафіях гарадоў Валмера, Скрунда, Салдус, Кулдзіга і іншых, атрымаў блаславенне і дазвол ад шаноўнага кардынала Юліяна Вайвадса і падтрымку тадышняга ягонага сакратара, а сёння мітрапаліта Латвіі Яна Пуятса на першыя рэгулярныя набажэнствы — імшы святыя — на латышскай мове і на ўдасканальванне гэтых тэкстаў. На той час па ўсёй Латвіі святая імша служылася толькі на лацінскай мове. Першыя набажэнствы на латышскай мове сталіся вялікай падзеяй у Латвіі, на іх пачало прыходзіць больш людзей, моладзі, пратэстанты-лютэране зноў вярталіся да рыма-каталіцкага касцёла, кажучы: "Цяпер мы разумеем богаслужэнне і будзем маліцца з вамі". У Салдусе самі лютэране-вернікі аддалі каталікам адзін з найбольшых касцёлаў у цэнтры горада і бралі актыўны ўдзел у набажэнствах. Мова, асабліва родная, аб'ядноўвае, сагравае, развівае, аберагае не толькі самога чалавека, але і яго сям'ю, супольнасць, нацыю, увесь народ. Тады і Бог адзін, а людзі, хоць і розных веравызнанняў, блізкія і любыя адно аднаму. А тым больш, калі людзі чуюць родную мову ў святынях сваёй Бацькаўшчыны. Там мова яшчэ больш узвышаная, бо — духоўная, чыстая, малітоўная, яна ідзе з сэрца, з душы, поўнай даверу і веры. Гэта сапраўды мова голасу душы, які вырываецца з грудзей. Мова, поўная любові да Бога і бліжняга. Мова прабачэння, дзе чалавек, яго душа напаўняецца сілаю вытрымкі і моцы духу.

"Ідзі і скажы гэтаму народу, — кажа Гасподзь Бог да прарока Ісаі. — Чуць будзеце і не зразумееце, і вачамі глядзець будзеце і не ўбачыце" (Іс. 6. 9). Што тут скажаш? Калі хочам мець адраджэнне мовы, культуры, народа, трэба распачынаць заўсёды з духу. "Дух ажыўляе, а літара забівае..." (2 Кар. 3, 6). Без вяртання веры ў нашы душы і сэрцы, без звароту да першакрыніц духоўнасці не ўбачыць нам і пладоў жыватворнага адраджэння. Дар адраджэння трэба вымаліць у святынях, шукаць і знайсці яго першапачаткі можна толькі ў ціхіх, глыбінных, святая святых тайніках сваёй душы. Там — твой скарб, а тут — тваё поле, твая Бацькаўшчына.

Для розных нацыянальных меншасцяў ва ўсіх краінах свету існуюць храмы, парафіі са святарамі, якія абслугоўваюць іх на іх жа мове.

Паўстае пытанне: "Што такое Касцёл?" Гэта найперш людзі, народ. Без людзей няма Касцёла. Касцёл — між людзьмі. А людзі — гэта святары і вернікі, бацькі і дзеці, асвечаныя людзі і малаадукаваныя.

Якая родная мова народа, дзяржавы, такая мова і ў касцёле, адно што ў храме яна больш узвышаная, духоўная.

Касцёл нясе на сабе грахі людзей, ён нашы слабасці ачышчае і асвячае нас. "Хрыстос памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі" (Рым. 5, 6. 8б). Як маці перажывае за лёсы сваіх дзяцей, іхнія беды носіць у сэрцы сваім, разумее, спачувае, прабачае, настаўляе, бароніць дзяцей сваіх, гэтак і Касцёл спачувае непаслухмяным дарослым "дзецям", моліцца за іх, а ў часе бяды гаворыць пра міласэрнасць, прабачэнне і дараванне ўсім і ўсіх, хто цягам апошніх 80 гадоў праследаваў Касцёл і Царкву. Касцёл ніколі не асудзіць, бо мы і так асуджаны сваімі бедамі, цярпеннямі. Бяда ў тым, што чалавецтва так і не навучылася адрозніваць сапраўднае дабро ад фальшывага, ад зла. Усе мы спадзяёмся на свае сілы. Д'ябал жа ў сваім каварстве чалавекам непераўзыдзены, і калі Гасподзь Бог не дапаможа, чалавек пацерпіць фіяска.

Пасля розных палітычных рэзрухаў і войнаў хто мае і меў першае слова прабачэння і дапамогі, як не хрысціянства і вера, дабрыня і ўсёдараванне? Я тут не імкнуся паставіць на першае месца Касцёл, таму што і Царква, яе вернікі, браты і сёстры праваслаўныя, таксама вельмі цярпелі ад генацыду ідэалогіі атэізму. Тады мы былі бліжэй між сабою, таму што былі на адной Галгофе і кленчылі пад адным Крыжам, як бачым, у нас не толькі адзін Гасподзь Бог, але і адна Галгофа, аднолькавыя цярпенні, хоць трошкі адрозніваюцца крыжы, але Хрыстос на крыжы адзін і неба адно. Цяпер жа, ідучы дарогаю жыцця і адраджэння, мы спрачаемся, хто чый, як кажа апостал Павел: "Я Апалоса, я Кефаса, а я — Хрыста" (І. Кар. 1, 12).

Таму і хочацца звярнуцца да інтэлігенцыі, пісьменнікаў, паэтаў, кампазітараў, выкладчыкаў, настаўнікаў, навукоўцаў, міністраў, да ўсіх, хто працуе ў справе культурнага адраджэння. Ці сапраўды вы духоўна цесна звязаны з Касцёлам і Царквою? Як часта вы, як хрысціяне, наведваеце храм? Ці па патрэбе голасу душы, ці толькі дзеля таго, каб асвяціць Пасху? Ці прымаеце Святыя Сакраманты (Шлюб, Споведзь, Святое Прычасце) і ці стараецеся жыць паводле гэтых адвечных Божых правоў? Ці стараецеся быць практычным хрысціянінам у сваім асабістым жыцці, добрым прыкладам для сваёй сям'і?

Сёння, як ніколі, шаноўныя настаўнікі, моладзі вельмі патрэбны ваш духоўны прыклад, бо праз мову сам Бог гаворыць да нас, праз мову адраджаецца дух веры, прагрэсу, культуры.

Нам варта павучыцца таму, як вераць у Бога і захоўваюць хрысціянскія традыцыі ў іншых цывілізаваных краінах свету. Не ў свечачцы, якую мы трымаем у руцэ ці ставім на падсвечнік перад людзьмі, заключаецца наша вера, а ў сапраўднай адказнасці перад Богам, продкамі, Бацькаўшчынаю, сваім сумленнем, у сапраўднай павазе да чалавека.

"Sic transit gloria mundi" — "Так праходзіць зямная слава". Адно — пакінуць напісанае слова, верш, мастацкі вобраз, пабудаваць дом, і зусім іншае — падтрымаць гэтым дух у жыцці, што і робіць вера, духоўнасць, канфесія.

Без удзелу інтэлігенцыі цяжка ўявіць сабе сапраўднае адраджэнне. Вы думаеце, што жывяце самі па сабе, а касцёл — сам па сабе? Касцёл існуе толькі для вас, нясе і ахвяруе Госпаду Богу вашы духоўныя ахвяры, цяжкасці і малітвы, Хрыстос у касцёле церпіць разам з вамі...

Адсюль і адказ на пытанне, якая мова ў касцёле. Такая самая, што і ў сем'ях, яслельках, дзіцячых садках, школах, месцах працы, установах, ВНУ і г. д. На якой мове ў сям'і — на такой жа і ў касцёле. І тут не магу не звярнуцца да мовазнаўцаў, да стваральнікаў слоўнікаў, перакладчыкаў: якую распрацаваную літургічную мову падалі вы Касцёлу і Царкве, што адраджаюцца ў Беларусі? Адказ на гэтае пытанне і будзе першым агульнабеларускім крокам у накірунку ацэнкі хрысціянства з боку ўладаў. У Беларусі 85-90 працэнтаў насельніцтва хрысціяне, якія павінны і дапамагаюць у духоўным і маральным адраджэнні: "Служыце Богу, каб не памёрлі".

Мілагучнасць беларускай мовы, асабліва ў правапісе Тарашкевіча, — як струмень чыстай крынічнай вады між каменьчыкамі, як шчабятанне птушак у гаі. Услухайцеся, якая мяккая вымова ў нашых суседзяў палякаў, украінцаў, чэхаў, славакаў. Гэта яшчэ раз гаворыць пра нашу колішнюю еднасць — як духоўную, так і культурную. Сённяшні правапіс нашай мовы, на жаль, зменены, і дзеля таго толькі, каб наблізіць яе да рускай.

*(Працяг на стар. 12)*

*Артыкул друкуецца са скарачэннямі*



**ЧАСАПІС**

## “Снапок”

**Такую прыгожую, надзіва беларускую назву дала сваёй кнізе выбраных твораў, толькі што выпушчанай выдавецтвам “Мастацкая літаратура” (дарэчы, гэта яе трэці томік такога кшталту), знакамітая паэтка, шчырая пяснярка зямлі беларускай і асабліва прынямонскага краю Данута Бічэль. Сама ж назва як бы ўдакладняецца ў аўтабіяграфіі Дануты Янаўны, напісанай 3 мая 1994 года — “Снапок вясковых словаў”. У гэтым жыццяпісе, у адрозненне**




**ад напісанага раней “Вытоку маёй песні”, што ўвайшоў у кнігу аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў “Вытокі песні”, яна асноўную ўвагу засяроджвае на тым, як далучалася да беларускасці, згадвае тых, хто аказаў вялікі ўплыў на станаўленне яе таленту, а гэта найперш Ларыса Геніюш і Васіль Быкаў, разважае аб крытычным становішчы, у якім апынулася беларуская мова, успамінае, зразумела, і гады маленства, родную вёску Біскупцы, “якую па наіўнай звычцы называлі глухой. Але людзі расказвалі, што там, каля Міхайлаўкі, каля балота, засталося каменне падмурка былой сядзібы польскага паэта Антона Гарэцкага, паўстанца 1863 года. Зусім недалёка ад Ліды, у фальварку Пешчын, нарадзілася Алаіза Пашкевіч, Цётка, у нашай вёсцы пра гэта ведалі. З другога боку, за Нёманам, вырас Адам Міцкевіч — а мой бацька ў сваёй мужыцкай хаце меў яго кнігі! І брат Каруся Каганца, Амброзій Кастравіцкі... меў двор у 1925—1937 гадах зусім недалёка, у Белагрудах, адкуль паходзіла мая бабуля Кастуся”. “А яшчэ, — працягвае Данута Янаўна, — недалёка Нача, дзе нарадзіўся акадэмік Марыян Фальскі, аўтар першага беларускага лемантара, які выдавалі Каганец з Вацлавам Іваноўскім. І тая Лябёдка братоў Іваноўскіх праз балота... А каля Уселюба малая вёска Устрonь, адкуль паходзіць першая паэтка нашай зямлі Адэля, аўтарка паэмы “Мачаха”.**

**Такое духоўнае “сваяцтва” не магло не аказаць уплыву на творчасць Д. Бічэль. Няхай і не напрамую, а як бы апасродкава. А менавіта гэтым, а ні чым іншым можна вытлумачыць, наколькі Д. Бічэль псіхалагічна тонка спасцігае душу народа, як пастаянна звяртаецца да вобразаў лепшых сыноў і дачок Бацькаўшчыны. Нарэшце, адсюль і той дух беларускасці, якім прасякнуты яе лепшыя творы. Ды і як жа інакш, калі паэтка ні на хвіліну не забывае пра свае карані. У сувязі з гэтым глыбокі сэнс набываюць яе радкі, прамоўленыя на пачатку паэтычнай дарогі:**

***— Ты адкуль з такімі вачыма?***
***— Я тутэйшая,***
***я звычайная.***

**“Я тутэйшая” — за гэтымі словамі і свет паэзіі Д. Бічэль, і тая ж духоўная повязь з роднай зямлёй. І ўсё гэта адчуваеш, калі перачытваеш “Снапок”. Паэтка адмовілася ад традыцыйнага ў такім разе ўкладання выбранага ў храналагічным парадку, каб прадставіць творы з кожнай кнігі, а іх у яе выйшла адзінаццаць. У томіку з'явіліся іншыя раздзелы, творы ў якіх аб'яднаны хутчэй за ўсё сэнсава — “У Вострай браме”, “Спатканне”, “Светлае” і чорнае”, “Вёска, Гаўя і Нёман”, “У горадзе”, “У адной хаце” і іншыя. Ёсць і раздзел з нечаканай назвай: “Мае наіўныя бабскія вершы, якіх нельга паправіць, напісаныя ў той жа час, які ўжо нельга паправіць, сярод таго народа, які таксама папраўляць позна...” А які гэты “наіў” відаць хоць бы з верша “Друкары”: “Нашы продкі, // паважна гамонячы // жыта дбайна сеялі тут, // дзе Кузьма і Лукаш // Мамонічы // друкавалі Літоўскі Статут.// Абрамлялі яго ў пазалоту, // быў заказ у друкарні пільны, — // друкары высокага лёту — // скарбы княства // і бурмістр Вільні. // Канцлеру княства // Сапегу // на чысцюткім аркушы снегу // паказваў шрыфты-абновы // гравёр Грынь Івановіч”.**

**Ды лепей кнігу перачытаць не адзін раз ад першай да апошняй старонкі. Яна таго вартая.**

**Лявон ЮРЧЫК**

КРЫТЫКА

***Цэнтр еўрапейскага супрацоўніцтва “Еўрафорум” выпусціў у свет кнігу Юрася Барысевіча “Цела і тэкст”, дзе сабраны тэксты, што друкаваліся цягам апошніх гадоў у літаратурна-філасофскім сшытку “ЗНО”, часопісе “Крыніца”, штотыднёвіку “ЛіМ”, іншых выданнях. З гэтага натуральна вынікае, што чытач, які цікавіцца сучасным айчынным мысленнем, дастаткова добра знаёмы з творчасцю Юрася Барысевіча. Але, мяркуючы па асобных выказваннях у перыядычным друку (і асабліва па прыватных размовах), многія ўспрымаюць яго тэксты, так бы мовіць, неадэкватна. Гэтае маё назіранне аднолькава тычыцца як апалагетаў Юрася Барысевіча, так і яголых крытыкаў.***

Яшчэ раз падкрэслю: я б пакуль не выбраўся пісаць пра гэтую кнігу, каб не прадчуваў, што многія яе будуць чытаць не як *гэтую*, а як нейкую зусім іншую кнігу, больш падобную да тых, што яны чыталі раней і, адпаведна свайму ранейшаму досведу, стануць рабіць неадпаведныя адносна *гэтай* чытанкі высновы.

імі традыцыйнага чытача. Адно з найбольш распаўсюджаных непаразуменняў канцэнтуецца абвінавачваннем аўтара ў злоўжыванні цытатамі. Мне нават даводзілася чуць (ды нешта падобнае прагучала ўжо і публічна), што тэксты Ю. Барысевіча — гэта ўсяго толькі зборнікі цытат, дзе ўласна аўтарскія абзацы уяўляюць з сябе адно своеасаблівыя

Уласна за ўсімі папярэднімі развагамі пра інтэрпрэтацыю і цытаванне тоілася жаданне зразумець як з другасных па азначэнні прыёмаў узнік феномен адметнага, болей за тое, унікальнага ў беларускай літаратуры стылю мыслення і пісьма. Унікальнага настолькі, што самі тэксты Ю. Барысевіча не падлягаюць выняткаваму цытаванню, бо разам з цытатай немагчыма прыхапіць увесь той выключна адмысловы кантэкст, настоены на датклівым прысмеху, які атуляў цытату ў аўтэнтычным асяродку і толькі гэтым атуленнем ствараў феномен яе сапраўднай вартасці...

Верагодна, з выяўна інтэрпрэтацыйнай сутнасцю стылю Юрася Барысевіча нейкім чынам звязаная яшчэ адна яго досыць істотная адметнасць — таўталагічнасць. Гэты “звяз” для мяне пакуль не празрысты, я яго хутчэй толькі прадчуваю і таму магу хіба адно паспрабаваць патлумачыць праз

# Геаграфія тэксту

Было б залішне адважным казаць, што я сам напэўна ведаю, як кожнаму іншаму *трэба* чытаць кнігу “Цела і тэкст”. (Ніхто за другога не ведае, як яму чытаць.) Але мне здаецца, што я ведаю, як яе *не трэба* чытаць.

Найперш яе не трэба чытаць *паныла*. Панылым людзям я б увогуле не раіў яе адгортваць. Рэч у тым, што панылы чалавек ставіцца да кожнага прамоўленага слова сур'ёзна, як да правіла. І кожнае слова, кожную думку ён узважвае адносна тых правілаў, якія лічыць за сур'ёзныя. А ў Ю. Барысевіча ўсе словы і думкі ці то няправільныя, ці то несур'ёзныя. Горш за тое, у яго немагчыма зразумець, якія з іх сур'ёзныя, але няправільныя, а якія правільныя, але несур'ёзныя. І таму ніколі невядома, дзе тут што прамаўляецца “паныла”, а дзе — з ледзьве ўтоеным прысмехам.

Але я хацеў бы наперад засцерагчы і таго чытача, які паспрабуе прагаргнуць гэтую кнігу як зборнік інтэлектуальных гумарэсак і фельетонаў. Што і казаць, аўтар валодае адмысловым і вытанчаным гумарам, — які, між іншым, ніколі не пераходзіць у іронію, — аднак калі вы паверыце ў гэты гумар як у асноўны змест тэкстаў, то, бадай, памыліцеся ў сваім посмеху, раўнуючы як панылы чытач у сваёй панылаcці.

Дык што такое тэксты Юрася Барысевіча, калі яны напісаны як быццам і не з сур'ёзам, але і не як забаўка? Асабіста я схільны лічыць іх гульнёй, а калі больш дакладна — то інтэлектуальнай гульнёй у мысленне.

Гульня — гэта тое месца, дзе забава і сур'ёз зблытваюцца настолькі, што губляюць свае ўласныя сэнсы, але тут яны зблытваюцца не дзеля самой блытаніны, а з патрэбы стварыць і выявіць нейкае іншае значэнне, якое можна зразумець толькі непасрэдна з кантэксту гульні і ні праз што яшчэ, акрамя як праз тыя правілы, якія гульня сама абірае для сваіх мэтаў. Вось чаму, каб адэкватна ўспрымаць тэксты Ю. Барысевіча, мы найперш мусім зразумець і прыняць тыя правілы, па якіх ён будуе сваю інтэлектуальную гульню і гуляе ў яе сам-насам.

Прамоўўшы слова “гульня”, мне цяпер лягчэй будзе вымавіць слова “постмадэрнізм”, якое б я абавязкова прамінуў, — паколькі яно не зусім дапасоўбы аўтару “Цела і тэкст”, — каб гэта хоць як уяўлялася магчымым. Але ў выпадку з Ю. Барысевічам абмінуць постмадэрнізм ніяк не выпадае, бо я не ведаю сёння ў беларускай літаратуры нікога, чыя творчасць у такой жа меры адпавядала б філасофіі, эстэтыцы і практыцы постмадэрнізму. Гульня, дэканструкцыя, цытаванне, іронія, эпатаж, таўталогія, правакацыя, калаж і г. д. і да т.п. Перад намі, як у падручніку, увесь асноўны набор начыння практыкі постмадэрноварга пісьма.

Постмадэрнізм мне бачыцца настолькі тоесным творчай канстытуцыі Ю. Барысевіча (ці наадварот), што я нават не ўпэўнены, ці змог бы Ю. Барысевіч рэалізавацца адпаведна свайму таленту ў іншую, ад постмадэрновай, эстэтычную эпоху. Але ў звязку з тым, што яго тэксты, лічы, цалкам знаходзяць сябе ў полі тэорыі і практыкі постмадэрнізму, яны відавочна канфліктуюць з традыцыйным (панылым) уяўленнем пра тэкст. Бадай, адсюль і многія з тых непаразуменняў, якія ўзнікаюць пасля сустрэчы з

інтэрпрэтацыйныя масткі ад цытаты да цытаты, ад аднаго агульнага месца да другога. Напэўна, найпрасцей было б запярэчыць (папярэдне яшчэ раз нагадаўшы: цытаванне — адзін з базавых прыёмаў эстэтыкі постмадэрна), што ўсё якраз наадварот: агульныя месцы цытат — гэта толькі масткі, якія Ю. Барысевіч перакідвае ад адной арыгінальнай інтэрпрэтацыі да другой. Але такі механічны “кульбіт” мала што патлумачыць нам у стылі пісьма аўтара.

Інтэрпрэтацыйную сутнасць свайго стылю, здаецца, не адмаўляе і сам Ю. Барысевіч, аднак само па сабе гэта яшчэ ні пра што не кажа. Мы ўсе мыслім (і, адпаведна, пішам) цытатамі літаратурных папярэднікаў, толькі ў адных гэтае цытаванне ўтоенае і ад сябе і ад іншых, а ў другіх яно фармальна аддзеленае ад уласных інтэрпрэтацый, як у люстэрку аддзелены адбітак ад явы. (Кожны раз, калі я зазіраю ў люстэрка, я цытую самога сябе.)

Між іншым, актыўнае выкарыстанне “адкрытых” цытат не ёсць вынаходніцтвам постмадэрнізму, згадаем хаця б трактаты Эразма Ратэрдамскага, эсэ Мішэля Мантэня ці японскую літаратуру сярэднявечча, дзе “адкрытае” цытаванне лічылася абавязковым элементам стылю, хаця зусім неабавязковым лічылася спасылацца не аўтараў цытат.

Але як бы там ні было раней і як яно ні ёсць цяпер, ва ўсялякім разе трэба быць дастаткова ўпэўненым у вартасці свайго ўласнага рэфлексавання, каб выставіць насупраць цытаты сваю інтэрпрэтацыю яе і ў гэтым двубоі выйграць, перамагчы, гэта значыць надаць інтэрпрэтацыі кшталт большай арыгінальнасці, чым іх мела сама цытата, адным словам зрабіць інтэрпрэтацыю больш цытатай за саму цытату... Як на маё меркаванне, то ў Ю. Барысевіча падобнае раз-пораз атрымліваецца. Але мы зноў спросцім сітуацыю, калі вызначым стыль яго пісьма, як “вайну цытат”. Ю. Барысевіч не ваюе з цытатай, ён, як шызафрэнік аб'ект рэальнасці, улучае яе рэальную ў сказоны “шызафрэніяй” кантэкст у якасці непераможнага аргумента на карысць рэальнай сапраўднасці свайго ірэальнага (іначай — віртуальнага) віджэжу свету.

“Самыя начытаныя органы сёння — гэта вочы і вушы. Але я мяркую, на службу літаратуры можна паставіць усе пачуццёвыя органы, якія маюцца ў нашым целе. Трэба напісаць што-небудзь для чытання языком — напрыклад, салодкай лініяй на гарбавым полі. У гэтым выпадку нам удалося б здзейсніць сапраўдную “асалоду ад тэксту”, пра якую казаў Ралан Барт”.

Пэўна, нават у жахлівым сне Ралан Барт не мог уявіць сабе, што нехта яго тэзу аб страчанай “асалодзе ад тэксту” звяжа з лізаннем языком нейкай салодкай фарбай намаляваных літар. Але гэтаксама як з Бартам, Ю. Барысевіч абыходзіцца з усімі, каго цытуе. Калі б усялякія геніі і класікі розных эпох ведалі, у які кантэкст уключае іхнюю *бессмяроццеЮ*. Барысевіч і як ён там гэтае *бессмяроцце*інтэрпрэтуе, то яны круціліся б у сваіх пахавальнях, як вужакі на вуголлях. (Зрэшты, гэта ім наўрад ці зашкодзіла б, бо ад непарушнага ляжання на целе выгінаюць пролежні, нават калі гэта ўжо адно інфернальнае цела.)

нейкую няпэўную версію...

Кожная цытата — гэта паўза ў тэксце, а калі паўзаў (цытатаў) шмат, то яны настолькі запавольваюць рух тэксту, што гэтаму руху бліжэй вяртацца, чым перасоўвацца наперад, але яшчэ ямчэй яму адно “перамінацца” з нагі на нагу, імітуючы дынаміку, як гэта робіць чарга.

Так, да вызначэння кампазіцыйнай характарыстыкі стылю Юрася Барысевіча вельмі падыходзіць метафара чаргі, на якой ён пэўна ж невыпадкова збудаваў адзін са сваіх “праграмных” тэкстаў з адпаведнай назвай.

Чарга рухаецца, як стаіць, і стаіць, як рухаецца. Яна таўталагічная па сваёй сутнасці, бо не мае сюжэта.

Каб пераадолець таўталагічнасць чаргі, трэба з яе выйсці ў нейкі сюжэт, але Юрась Барысевіч не робіць гэтага. Чаму? Не ведаю. Можа, таму, што сюжэт гэта таксама не выйсці з чаргі, а толькі ілюзія выйсця. Існае і быццё ў сваім цэлым па азначэнні статычныя, і анталагічнасць гэтай статыкі не можа пераадолець ніякі сюжэт... (“Усё ёсць поўнае тым, чым яно ёсць”. Парменід.) Таму чарга са сваёй паўнаты нічога не тлумачыць, а толькі ўвесь час таўталагічна пераптумачвае саму сябе.

Пэўную статыку свайго пісьма, як цэлага, Юрась Барысевіч з поспехам кампенсуе дынамікай кожнага лакальнага моманту. Радыкалізм інтэлектуальных калізій, якія стварае Юрась Барысевіч ва ўсялякім апрычоным месцы тэксту, здаецца, не ведае ні спачыну, ні межаў. Магчыма, найбольш выразна гэта выявілася ў серыі эсэ, паяднаных ідэяй татальнай *літаратуразацыі* ўсяго існага.

Чалавек — гэта аловак, які піша мастацкі тэкст на белым аркушы быцця. Піша ўсімі органамі свайго цела, піша ўсім сваім целам, піша на ўсім, што існуе, гэта значыць і на сваім целе, на ўсіх яго органах і не толькі на тых, што вытыркаюцца вонкі, але і на тых, што хаваюцца ўнутры. Юрась Барысевіч прапаноўвае абкрэмзаць радкамі з літараў не толькі паперу, платы, сцены, але і лекавыя пігулкі, каўбасы, кветкі, татуіраваць усё, што хоць на імгненне займела форму, — нават хвалі. Адным словам, усё, што існуе як форма, мусіць быць ператворана ў своеасаблівы аркуш, на якім рэкламуецца той ці іншы літаратурны тэкст. Такім радыкальным чынам Юрась Барысевіч прапануе нам усім разам перарабіць чалавека і чалавецтва з вытворцы і спажыўца быцця на творцу і спажыўца літаратуры...

Не, гэта не шызафрэнія (Юрась Барысевіч аўтар канцэпцыі “шызарэалізму”), гэта — паранойя...

Вось чаму я яшчэ раз папярэджваю аматараў панылых тэкстаў — не тлуміце сабе галаву і не звяртайце ўвагі на тэксты гэтага аўтара у перыёдыцы, а тым болей у кнізе. Нічым добрым для вас гэтая чытанка не абернецца... А ўсіх астатніх заклікаю чытаць кнігу Юрася Барысевіча, як гуляць — у футбол, шахматы, лайнс... Ува што заўгодна. Бо сутнасць гульні не ў тым, як і ўва што гуляць, і нават не ў тым, каб выйграваць... Сутнасць гульні ў тым, каб мець гульню і праз гэта атрымліваць асалоду. У выпадку з гульнёй *у барысевіча* — інтэлектуальную асалоду.

**Валянцін АКУДОВІЧ**

КНІГАРНЯ

# Долягляд — за... даляглядам

У 1995 годзе ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" пабачыла свет першая кніга Васіля Рагаўцова "Сутонне". Больш дакладна — першая паэтычная, бо Васіль Іванавіч і дагэтуль зарэкамендаваў сябе плённа на творчай ніве. Праўда, як аўтар і сааўтар шматлікіх кніг па мовазнаўстве. Але менавіта добрае веданне мовы не ў апошнюю чаргу дапамагло В. Рагаўцову-паэту пісаць па-свойму адметна. Асабліва, калі гэта тычыцца вобразна-выяўленчага аздаблення вершаў. А што ён тонка адчувае слова, пераконвае і яго другая кніга "Долягляд", у канцы мінулага года выпушчаная выдавецтвам "Юнацтва".

Глыбокі сэнс аўтар закладвае ў саму назву, выкарыстоўваючы для гэтага навеўтварэнне. Дык што ж такое — долягляд? У пэўнай ступені вытлумачэнне ў вершы, што стаіць да зборніка як бы эпіграфам:

*Жывых*
*да скону вучыць жыццё.*
*І на гэтай пуцявіне —*
*залацінкі-мгненні*
*чалавечага шчасця.*
*А для тых,*
*хто сыходзіць за ДОЛЯ*
*ГЛЯД,*
*мімалётнае, плыннае*
*зліваецца з вечнасцю.*
*Як і яны самі.*

Лёс лірычнага героя — гэта і часцінка лёсу чалавека ўвогуле, а калі шырэй, дык і чалавецтва. Аднак паэт, закранаючы такія глабальныя праблемы жыцця і быцця, не імкнецца да шырокіх філасофскіх абагульненняў. Яго задача больш сціплая — якраз спасцігнуць тое "мімалётнае, плыннае", што пазней "зліваецца з вечнасцю". А мімалётнасць — у імгненнях паўсядзённасці, сатканых са звыклага, звычайнага і ў той жа час напоўненых нечым нечаканым, якое не укладваецца ў рамкі той жа будзённасці, выдзяляецца ў ёй. Правільным будзе сказаць: у вершах В. Рагаўцова — само жыццё. Жыццё, пададзенае праз светаўспрыманне чалавека, надзеленага паэтычным талентам.

Прыемна чытаць творы, у якіх В. Рагаўцоў напоўніцу раскрывае сваё чуйнае адчуванне сябе:

*Жыццё пражыць —*
*не поле перайсці...*
*Скажыце мне:*
*калі прайсці праз жыта*
*і не ўвайсці — у жыта,*
*жыццё — пражыта?*
*Ці яшчэ*
*не жыта?*

Не абыходзіць В. Рагаўцоў увагай і той праблемы, якой кранаецца сёння ці не кожны паэт. Ва ўсякім разе той (а іх пераважная большасць), хто неабыякавы да лёсу народа, лёсу Бацькаўшчыны. І тут яму ўдаецца знайсці ўласнае ўспрыманне драматызму становішча:

*Родны край для мяне —*
*не забыты вятрак,*
*што балюча ўзмахне*
*надламаным крылом...*
*І стылее душа,*
*бы знямоглы жабрак*
*пад вячыста-нямым*
*месяцовым святлом.*

Па-свойму непаўторныя вершы пра каханне: "Палоніць музыка тваіх вачэй, Нібы вясёлка пасля цёплай навальніцы. А голас твой — як мілазвонная крыніца: Ён песняй жаўранка — нястомнаю — Бруіцца... Як боль, святы ўспамін душу пячэ. І светла мне: жыву яшчэ... Жыву!".

Часам, аднак, паэт дазваляе сабе пэўнае паслабленне. А калі дакладней — трапляе ў палон уяўнай вобразнасці, якая толькі на першы погляд успрымаецца нечым нечаканым, а на самай справе яна — крыху штучная: "Жанчына, цяжарная смуткам...", "Над вясковымі хатамі — кужэльна-тумановыя аблачынкі, сатканыя вятрыскам з успамінаў ткалляў і пралляў".

А ў астатнім... У астатнім наталенне родным словам:

*Наталюся родным словам...*
*Яно прарастае ў душы*
*цнатліваю руннію,*
*спеліцца на вуснах*
*шапатлівым коласам,*
*пераліваецца на іх*
*залатым зернейкам...*
*Наталяюся*
*родным*
*словам...*
*Як прагавітая душа —*
*першацветам.*

Гэтае наталенне прынясе радасць кожнаму, неабыякаваму да паэзіі. І ўлюбёнаму ў роднае слова.

**Максім АНДРЭЙЧАНКА**

ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК КРЫТЫКА

# Наш Міцкевіч?

*Krzysztof Czyzewski. Za trudny dla nas ten Mickiewicz? / / Kultura. Paryz. N 11/614, 1998.*

"...Вымаўляем па-польску, на мове арыгінала словы "Litwo, ojczyzno moja..." і стараемся спасцігнуць іх сэнс, які не ўкладваецца ў нашае разуменне значэння паасобных слоў. Відаць, іншую, чым цяпер, карту павінны мы разгледзець, каб расчытаць сэнс міцкевічаўскай прасторы", — піша Кшыштаф Чыжэўскі ў сваім артыкуле "Занадта цяжкі для нас гэты Міцкевіч?", што апублікаваны ў парыжскім польскамоўным часопісе "Культура".

Даследчык спрабуе тут адказаць на пытанне, чаму Міцкевіч аказваецца такім няпростым для ўспрымання сённяшніх палякаў. Ён акцэнтуе ўвагу на тым, што "Міцкевіч не змяшчаецца ўжо ў межах дзяржавы аднаго народа, ён вядзе нас нанова да спаткання з нашымі суседзямі, да пераадолення бар'ераў, якія па працягу апошняга стагоддзя высока ўзнесліся над намі. Сённяшняе супольнае адчуванне "нашага" Міцкевіча, гэта ўжо не адчуванне па-над разборамі ці падзеламі, але па-над межамі нацыянальных дзяржаў. Міцкевіч "наш" таксама на Літве і ў Беларусі", — піша К. Чыжэўскі.

"Як быць з такою спадчынай міцкевічаўскай геаграфіі сёння, калі Вільня — сталіца незалежнай Літоўскай рэспублікі, а дарогу ў Навагрудак перацінае пільна вартуемая мяжа беларускай дзяржавы? — разважае К. Чыжэўскі. — Канешне, можна пайсці ўслед за гэтай новай геаграфіяй і весці бясконцыя дыскусіі на тэму: "Чый ён — гэты Міцкевіч?". Аднак, кіруючыся духам міцкевічаўскай геаграфіі, можна было б паспрабаваць сказаць па-польску, па-літоўску і па-беларуску так: Міцкевіч — "наш" на Беларусі, у Літве і ў Польшчы, а мы з ім. Смела сказана? А, можа, зацяжкі для нас такі Міцкевіч?".

Можна толькі па-добраму пазайздросціць глыбіні асэнсавання, навуковай аб'ектыўнасці і, урэшце, проста чалавечай смеласці аўтара, які здолеў узняцца вышэй вузканацыянальных інтарэсаў Польшчы і глянуць на свет шырэй. Так, як глядзеў на яго сам Міцкевіч, які ў адным са сваіх артыкулаў пісаў: "Еўропа размешчана такім чынам, што тут становіцца немажлівым, каб нейкі народ крочыў у адасобленасці па дарозе прагрэсу".

Аднак такое ўспрыманне "нашага" Міцкевіча цяжкае не толькі для настальгіруючых аб Польшчы ад мора да мора палякаў, але і для звычайных сярэднестатыстычных беларусаў.

З нагоды ўрачыстага святкавання 200-гадовага юбілею з дня нараджэння Адама Міцкевіча на Беларусі праводзіліся разнастайныя мерапрыемствы, у друку з'явіўся шэраг, пераважна юбілейных, публікацый, былі зроблены пераклады некаторых твораў паэта на беларускую мову.

Але, на жаль, **наш** паводле этнічнага паходжання, ментальнасці і матываў творчасці Міцкевіч па-сапраўднаму "нашым" і зараз не стаў.

Спытайцеся вучня сярэдняй школы, студэнта-філолага, не кажучы ўжо пра выпадковага чалавека на менскім ходніку, што ён ведае пра Міцкевіча, і ў адказ пачуеце ў найлепшым выпадку дзве-тры дзяжурна-інфармацыйныя фразы.

Зрэшты, гэта і не дзіўна. Месца, прыналежнае вялікаму Майстру і Прароку, у свядомасці нашых суайчыннікаў занялі іншыя. Тыя, творчасць якіх не мае нічога агульнага ні з нашай гісторыяй, ні з нашай этнічнай культурай, ні з нашымі традыцыямі.

І тут ужо ні чыя іншая, а цалкам наша віна ў тым, што, кажучы словамі бессмяротнага Янкі Купалы, "Багі другія верх бяруць" у храме нашай духоўнасці.

**Галіна ТЫЧКА**

# Няхай даверліва гартаюцца старонкі

Ускалыхнулася душа, і прачнулася слова, трапяткое, лёгкае, свежае, празрыстае, балючае, звонкае, ціхае. Зашаптала сцяблінка пад ветрам жыцця. А ў жыцці — "Крыжаванка душы ў лабірынце нябёс", "Да маёй віны — сузор'е іншых він", "У мінулым — сон крылаты", "А зямля мая белая ад снягоў і туманаў", але "Едзе сонца на белым кані", і, калі ласка, — "Усім — па зорачцы".

Ад кожнай такой зорачкі лятуць да чытача зыркія іскрынкі таленту Ірыны Дарафейчук. Сама паэтэса ўжо трымае ў руках зборнічак промняў свайго сэрца і розуму, "Сцяблінку на лязе" — кнігу паэзіі з "Бібліятэкі часопіса "Маладосць". У ёй — свой, адметны, метафарычна прыгожы, нечакана смелы строй думак. Паэтычнае дрэўца Ірыны Дарафейчук прагна імкнецца ў вышыню. Бог не дасць зрэзаць сцяблінку, на якой раскрыліся пупышкі любові, тугі, расчаравання і захаплення, і праступаюць восеньскія адценні мудрасці.

*Не мне цябе хваліць альбо ганіць —*
*Ты лёгкі сон, не маеш наймення...*
*І вось лячу імкліва і горда —*
*З тваіх дарог адкінуты камень*
*У белы свет, у вечныя воды...*

*І не прыйдзе хтосьці моцны —*
*Будаваць нанова хату,*
*І не прыйдзе хтосьці добры —*
*Ратаваць маю душу...*

І ўсё ж "Чалавек чалавеку — каханне, святло... Мы няшчасныя, бо не верым..." — спрачаецца паэтэса з думкай, што "Чалавек чалавеку — пустэча", і ўзвышае чалавека, робіць яго птушкай, кветкай, песняй вечнасці з упэўненасцю, што душа ўзаемна адгукнецца. Прыйшло ж, аднекуль узялося асэнсаванне пройдзенай сцяжыны:

*І будуць вёсны, і язьмін, і бэз.*
*Але цябе ўжо называлі любым...*

"Называлі любым"... Адчуванне страты яшчэ ледзь прыкметнае, бо табе ўжо не васемнаццаць, але "яшчэ не заўтра трыццаць тры". Толькі яно ўсё больш і больш звініць у імклівасці бегу дзён, і выявіцца ў наступных вершах. А балючае шкадаванне нясе з душы Малітву: як "зморк праз вокны ў сэрца зазірне, і стане гэтак адзінока мне, што ўзмалюся я: Вялікі Божа, дай сілы мне надзею не растраціць... я каханне ўзрасціць спрабую..."

А надзея хінецца... Да каго?

*Ну вось ён і прыйшоў, апошні зорны час,*
*Я прыхінуся да ляза твайго нажа...*

У "Асенняй песні" сэрца літасці просіць у кароткіх пранізлівых дзён:

*Пачакай мяне, вецер.*
*З путаў памяці ціха,*
*Думкі выпрастаўшы, пайду...*

І, усведамляючы марнасць зямной мітусні, неразумнага, бездапаможнага людскога пафасу, фанабэрлівасці, паэтка проста прамаўляе:

*Памаўчыце!*
*Хто не мае Мовы,*
*Той не абароніць цішыню.*

І ў "Песні" Ірыны "павольна выпростваўся голас з глыбіняў душы".

*Чуеш, як ён трымціць?*
*Не пужай яго, гэта надзея.*
*Чуеш, як ён грыміць?*
*Не гані яго, гэта жыццё.*

Жыццё на Зямлі, якая "павядзе да вечнасці без умоў". Хоць колькі яна, Зямля родная, вынесла!

*Плакала Зямля мая.*
*Плакала.*
*...Паглядзіце, што*
*засталося мне...*

Так — праз смутак душа паэткі далучаецца да Бацькаўшчыны, якую яна называе Плачкай у жалобным уборы. Балючая ява "Зямлі, што помніць", ушчувае думкі і ўзнімае пытанне:

*Вам не дзіва, што яна ніяк не скіне*
*Са сваёй далоні нас, нахабных, прэч?*

Адгэтуль, мабыць, пачынаецца дачаснае адчуванне восені, параўнанне думак, пачуццяў з восеньскімі колерамі, пытанне: "Светлым звонам, цішынёй, галасамі, ці такая мая восень, як ваша?", асэнсаванне чалавечых адносін да прыроды, сувязь усяго жывога, адчуванне, што ўсім баліць.

*Шкада бяроз. У восеньскіх турботах*
*Усё, што засталося для душы, —*
*Іх жоўтая гаркавая пяшчота*
*Ды клічнікі стваўоў — жаданне жыць.*

Паэтэса — асоба патрабавальная, годная, відушчая. Мы нібы чуем голас-споведзь зямной адзіноты і пытанне:

*Дзе вы падзеліся — з вечнаю*
*марай аб цудзе?..*

І як ратаванне, узнікае вобраз храма:

*Тут і крона, і карэнне...*
*Зноў захочаш жыць.*
*Храм — адзінка вымярэння*
*Чысціні душы.*

"Той, хто вельмі верыў у справядлівасць, чысціню і праўду, Свае памкненні, мары, спадзяванні Узняў да першай зоркі — кожным шпілем, Пілястрай, Аркай, Вежаю, Акенцам... Яму ўсё роўна, што каля падножжа Маленькія, зласлівыя, чужыя Дзялілі між сабой яго імкненне Да першай зоркі крыжам дацягнуцца". Касмічная, нябесная прага-летуценнасць раптам змяняецца зямною думкай: "Ніколі ля белых агнёў не сагрэцца... Закранаю неба рукою — Болем адгукаецца сэрца".

*А жыццё, нібы поле, засеяна хлебам.*
*Якое кароткае лета,*
*Як шчасце...*

Але зноў грэе радасць усведамлення прысутнасці другой душы:

*Я цябе адчуваю...*

*А ты зноў ратуй маю душу...*
*Ты нада мною поўняю гарыш...*

*Мне яшчэ адказваць перад Богам,*
*За каго малілася і — дзе...*
*Мы з табой адной крыві, дарога,*
*Па якой мой любы сёння йдзе...*

І хочацца "падзяліць на дваіх свет, спакоем, сонцам сагрэць... і аддаць вам сваю палову..."

Выразна адчуваецца, што ў нацыянальную літаратуру ідзе творчая асоба, здольная да глыбокага асэнсавання праяў жыцця, асоба зацікаўленая, аналітычная і рамантычная. "Чытаю вершы, што прысвечаны не мне... Чужое сэрца сэрцам адчуваю".

У добры шлях! Няхай "даверліва гартаюцца старонкі"!

**Марыя БАРАВІК**

ДРУК

# Паэтычнае слова пра Талачын

...ражытных летапісаў, узнік у 1433 годзе, летась яму споўнілася 565 гадоў. Старажытнаму гораду на Друці прысвяцілі свае паэтычныя радкі як слынныя паэты, так і мясцовыя аматары слова. Краязнаўца Анатоль Шнэйлар, ён жа кіраўнік аматарскай кінастудыі "Летапіс" пры РДК, сабраў усе гэтыя вершы. Пад загалоўкам "Стаіць ён ціха ля дарогі..." (дарэчы, гэта радкі з верша супрацоўніка райаддзела міліцыі Уладзіміра Чаплянка) яны ўбачылі свет у раённай газеце "Сцяг Ільіча".

Вялікія разбурэнні спазнаў горад у гады Вялікай Айчыннай вайны.

*"Ах, Толочин ты Толочин,*
*Белорусский городок!*
*Здесь был немец поколочен,*
*Растолочен в порошок!"*

— так пасля вызвалення Талачына напісаў у сваёй паэме "Повесть о Ване Самоходове, веселом танкисте" карэспандэнт армейскай газеты паэт Восіп Колычаў.

Хутка залячыўшы раны, горад набыў яшчэ больш адметны выгляд. Прысвяціў сваю "Оду Талачыну" і народны паэт Беларусі Пімен Панчанка, бацька якога жыў тут у пасляваенны час:

*Талачынцы — не злачынцы,*
*Добрых спраў яны зачынцы...*
*Не шануем важны чын,*
*А шануем Талачын.*

Тутэйшы люд талакой адраджаў родны край і свой горад. Сцвярджаюць, што менавіта адсюль і пайшла назва Талачын. Для тых, хто тут нарадзіўся і вырас, хто жыве тут зараз, ён быў і застаецца ціхай прыстанню душы, мілай сэрцу мясцінай з багатай і слаўнай гісторыяй. Аб гэтым яскрава сведчаць і вершы паэта-земляка Іосіфа Васілеўскага, мясцовых аўтараў Уладзіміра Чаплянка, Віктара Аўсіевіча, Віктара Бірукова і іншых.

**Алесь МАЗУР**

**ВІНШУЕМ!**

## Мар'яну ВІЖУ — 50

*Споўнілася 50 гадоў пісьменніку Мар'яну Віжу. Мар'ян Міхайлавіч належыць да творцаў, якія пільна прыглядаюцца да нацыянальнай гісторыі, праўдзіва адлюстроўваючы як падзеі даўніны, так і тыя, што адбыліся параўнальна нядаўна, тым няменш таксама сталі ўжо гісторыяй. Пачынаючы са сваёй кнігі "Лабірынт", М. Віж імкнецца глядзець на тое, што адбывалася з вышыні сённяшняга дня, даючы яму як мага больш аб'ектыўную ацэнку. Віншуем Мар'яна Міхайлавіча з поўднем веку! Зычым юбіляру новых жыццёвых і творчых поспехаў, а чытачам прапануем яго новы твор.*

# КАРУЗА І КАРУЗЭЛА

АПАВЯДАННЕ

Мар'ян ВІЖ



У НЕМУДРАГЕЛІСТАЙ далейшай гісторыі — ні радочка прыдуманага. Усё зафіксавана дакладна, у адпаведнасці з рэальнымі фактамі...

Насупраць балкона майго пакойчыка (трэці паверх невысокай камянічкі 1954-га года) стаіць прыземістая, з пляскатым дахам светлая мураванка, занятая ведамаснай паліклінікай. Месцейка ўвогуле немітуслівае, маляўнічае, дзе ад колішняга парку сям-там захаваліся старыя, дужыя дрэвы. Пад балконам, на асфальтавай стужцы не грукочуць цяжкія машыны, бо кароткі праезд паміж домам і паліклінікай завяршаецца тупіком. У працоўныя дні тут раз-пораз паркуюцца легкавушкі: службоўцы ў форме альбо ў цывільным спяшаюцца да сваіх дактароў у абумоўлены загадзя час. Але візіцёры прыехалі — і паехалі. Унізе звычайна бязлюдна, зацішна, а летам пад купчастымі шатамі ацалелых паркавых ліп, што аточваюць пабудовы, асабліва ўтульна і хораша. На пустцы ля дрэў выгульваюць прэстыжных ахоўных сабак. Яны нярэдка вызвераюцца, нацягваючы струной павадкі, на здзічэлых катоў, якіх у наваколлі хапае... Проста не верыцца, што за ўяўнымі сценамі нетыпова ціхага астраўка, размешчанага ледзь не ў цэнтры двухмільённай сталіцы, пануюць напружанне, шум, тлум, што там нервова віруе заклапочаны людскі акіян.

Пры ганку медустановы тырчыць круглы слуп, з вяршыні якога над краем даху ўзносяцца два моцныя ліхтары ў алюмініевых капсулах-футаралах, падобных да перакуленых люлек. Сляпучыя агні, што ззяюць у цемры паблізу балкона, назойліва лезуць у вокны нашага дома. Але насельнікам не дакучаюць, людзі знаходзяць у гэтым нават пэўныя зручнасці. Тым больш, што зімой, гады ўжо чатыры таму адзін з ліхтароў, не вытрымаўшы перападаў надвор'я, раптам заміргаў і патух. Манцёры махнулі рукой на паломку, бо напарнік няспраўнага адразу засвяціўся ярчэй. Хіба хто прадбачыў, што вулічны стандартны ліхтар неўзабаве стане той кропкай, дзе разгорнецца камерны, амаль непрыкметны сюжэт, які пазней змусіць правесці балючыя паралелі?

...Вясна выдалася надзіва халоднай, нетаропкай і млявай. Ішоў на збег красавік, а па глухіх закутках яшчэ хапала гурбачак снегу. Яны памалу цямнелі, сціскаліся, вызвалялі зямлю для кволай, але вясёлай зялёнай траўкі. Жыццё, як ні круці, брала сваё. Гаманлівыя галкі ў голых пакуль вершалінах аднаўлялі старыя гняздзішчы, зацята выкурвалі вераб'ёў са сваіх хатак, з дуплаў шпакі, днём пад сонейкам нават пырхалі легкакрылыя матылькі. Усё, як заведзена, упэўнена крочыла ўласным адвечным, гарманічным парадкам. Ды што, зрэшты, можа перашкодзіць Прыродзе!

Неяк пад вечар я заўважыў на яркашэрых капсулах ліхтароў жменьку жывавых, карычневых камячкоў. "Няйначай, — падумалася, — блізкія сваякі вераб'ёў шукаюць месцы для гнёздаў. Пад абалонкамі перакуленых "люлек" ім гарантуецца дах і бяспека, катам не далезці. Няхай сабе селяцца!" Не збылося легкадумнае пажаданне, хоць птушкі доўга, прыдзірліва аглядалі кожную шчылінку магчымага калектыўнага лецішча, навыперадкі шчабяталі, узбуджана абмяркоўваючы даброты наяўных камфортных умоў. Птушыны базар рэзка спыніў стары верхавод — натапыраны, напышлівы шарык з бляклым ад шаноўнага ўзросту пер'ем, які трымаўся адасоблена і ганарыста. Ён прыадкрыў дзюбку, працяжна падаў, як адрэзаў, трывожны, спалоханы галасок, канчаткова выносячы адмоўны вердыкт. Куды дзенешся, загад ёсць загад! Праз міг спуджаны гурт з вышыні нібы ветрам змяло. Суродзічы ведалі, што пярэчыць недапушчальна, бо шматвопытны верхавод, як ніхто, нязменна кіруецца прынцыпам: беражонага Бог беражэ. Засталося загадкай, што насцярожыла спрактыкаванага лідэра. Але ён, несумненна, напаткаў там штосьці ані непрымальнае, пагражальнае.

Зранку назаўтра я са здзіўленнем прыкмеціў на ліхтарах тых самых гасцей. Праўда, ужо толькі парку, якая ўладкоўваючыся пад адной з капсул зносіла туды пер'е, сухія травінкі. Напэўна, ва ўчарашняй кампаніі, як у кожнай супольнасці, знайшліся неслухі, нязгодныя з меркаваннем старэйшага. Узброіўшыся тэатральным біноклем, я зацікаўлена назіраў. "Малявачкі, а з абачлівым розумам: выбралі якраз несапсаваны ліхтар, каб надзейней абараніць яйкі, будучых птушанят ад начной прахалоды, ад залішняй пасля дажджоў вільгаці!", — падагуліўся пачатак знаёмства з кемлівай, дбайнай сямейкай. Хутка высветлілася, што пара — саюз наваствораны. Малады — крыху большы за сваю палавіну і, калі хочаце, падкрэслена вытанчаны, элегантна-фарсісты. Яго беспамылкова вылучалі таксама напорыстасць, гарэзлівая маладзецкая зухаватасць, уласцівыя тым, каго акрыліла, узнясло да высокай натхнёнасці шлюбнае шчасце. "Каму з іх належыць свавольная ініцыятыва абжыць металічны ліхтар? Хто з першых акордаў захапіў ролю саліста ў сямейным дуэце?".. Пытанні хутка адпалі, бо навасельцы зусім не спрачаліся, працавалі абсалютна на роўных. "Абышлося ў дадзеным выпадку без першай скрыпкі — абое рабое", — вырашыў назіральнік.

Тыдні два я не бачыў сваіх новых суседзяў: камандзіроўка, неадкладныя службовыя справы, плюс працяглыя маёвыя святы. Незаўважна яе вялікасць Вясна расквітнела, нарэшце, у поўнай красе. Дзе ні глянь — усё прыгажэла, радуючыся цеплыні, сонцу, высокаму, чыстаму небу, і рамантычным натурам здавалася, што ўрачыстай вясновай сімфоніі не будзе канца. На дрэвах ля майго дома ўроссып чарнелі гнёзды рознагалосага птаства. Толькі разднееццца — спевы зліваюцца ў зборны, аматарскі хор. Дарослыя не зважалі на гэта, дзе ім за празаічнымі клопатамі, ад чаго пастаянна пухнуць галовы. А вось дзятва, пераважна дашкольная, зачаравана не зводзіла вачанят з чорна-бліскучых шпакоў, віслакрылых і зграбных ластавак, іншых маленькіх істот птушынага царства, якія ў пошуках вусеняў, мух, жучкоў, чарвячкоў — што каму даспадобы — імкліва, рэзка мяняючы накірункі, пікіравалі з вышыні на зямлю, на кустоўе і, схапіўшы здабычу, імгненна праглыналі яе, затым радасна цвіркалі, чысцячы пёркі. Птушкі яшчэ выседжвалі яйкі, таму сямейнікі цяпер па чарзе жыравалі, дужэлі, рыхтуючыся да найадказнейшай, галоўнай пары амаль беcперапыннага кармлення сваіх ненаедных, пісклявых нашчадкаў. Разам з дзецьмі за піруэтамі птушак прагна сачылі каты. Праўда, без асаблівых надзей, разлічваючы хіба на самых безаглядных разяў сярод паветраных акрабатаў. Недарэк трапляліся мала, і каты апетытна аблізваючыся, адкладалі салодкія мары аб птушыным меню, як кажуць, на потым, калі ў шматлікіх шпакоўнях, гнёздах, дуплах з'явяцца птушаняты і асобныя з іх, як звычайна, непазбежна зваляцца ўніз...

Я належу да жаваранкаў, прачынаюся рана. Вясной-летам прыродная асаблівасць абвострваецца, таму світанні часцяком сустракаю ўжо на нагах. Той дзень не стаў выключэннем. Ледзь развіднела. Раптам праз фортку, разрываючы санлівую ціш, у кватэру ўварвалася непаўторнага хараства, проста райскае, калі хочаце, птушынае сола — чыстае, з неахопна шырокім меладычным дыяпазонам, насычанае нечаканымі пералівамі мяккіх фарбаў, танальнасцяў. "Мусіць, палявога салоўку нейкім ветрам занясло ў сталіцу", — нарадзілася думка. Каб паспець разглядзець залётнае дзіва, я заварожана выслізнуў на балкон, на хаду прыхапіўшы бінокль. Оптыка не спатрэбілася, бо адмысловы саліст — рукой падаць, побач, на пакатай вяршыні ліхтарнай капсулы. На ўсе лады ён заліваўся, заліваўся салоўкам; не скрануўшыся з месца, эфектна, як сталы прэм'ер опернай сцэны, ківаў галоўкай, нібы годна і стрымана вітаў слухачоў пад звыклы гром воплескаў захопленай залы. Не верылася: спяваў знаёмы гарэзлівы малады, які ў пары з абранніцай нядаўна ў ліхтары пасяліўся...

Саліст нечакана замёр, скурчыўся, парывіста зірнуў на балкон. Я шкадаваў ужо, што незнарок перашкодзіў. Але праз кароткую паўзу прастора агучылася куды больш дзівоснымі, чароўнымі трэлямі яго спеўнай палітры. Мяне асяніла: значыць, ранейшая арыя — толькі ўступ, зачын, прэлюдыя да асноўнай рэпертуарнай партыі. Сапраўды птушыны Каруза, ды й годзе! Відаць, лепшай мянушкі шчасліваму спеваку не дасі. Але ж як ахрысціць яго палавіну? Трэба падабраць штосьці з абавязкова італьянскім адценнем. Карузіха не падыходзіць ані, бо зусім не з той, як гаворыцца, оперы... Карузата... Карузама... Стоп! Ёсць тое, здаецца, што дапасуе якраз: Карузэла.

Ранішнія канцэрты Каруза даваў дзесяць дзён запар. У любое надвор'е, не зважаючы ні на што. Іх, помніцца, не сарваў шызы, грудасты голуб, які з чорнай зайздрасці панадзіўся злосна, пагрозліва вуркатаць на абжытым птушкамі ліхтары ў самы пік выступленняў. Наш выканавец, робячы вымушаны антракт, тарпедай кідаўся на няпрошанага нахабу. Зайздроснік змаўкаў, саскокваў на дах паліклінікі. Часам зблізку аднекуль ананімныя прадстаўнікі дробнага птушынага свету дзёрзка спрабавалі выклікаць цудоўнага спевака на спаборніцтва. Усё напуста, бо каму параўнацца з недасяжным салістам, дзіўны голас якому дало Каханне! Толькі чаканая змена сямейных, так бы мовіць, абставін змусіла маэстра суняцца: у Карузы і Карузэлы неўзабаве запішчалі ў гняздзе птушаняты. Вядома, тут ужо не да песняў, паспявай насіць, насіць малым ежу. І ўсё ж Каруза застаўся самім сабой, не згубіў сцэнічнага твару, чула, як і раней, вітаў узыходы сонца віртуознымі, хоць і кароткімі арыямі. На развітальных нотах да любага сардэчна далучалася Карузэла. Яна, як магла, з ахвотай сугучна падцягвала, ціха падсвістваючы салісту... Вочы заплюшчыш, ахопіць ўражанне: на сцэне — спеты і зладжаны класічны дуэт. Ды ўвогуле жылі-былі яны ў міры, шчасці, у поўнай згодзе, душа ў душу. Цудоўная, адным словам, карцінка!

На жаль, маюць пэўную рацыю знаўцы, якія з цынічным падтэкстам мінорна даводзяць: спадабаўся малюнак — не разглядай палатно дэталёва.

Над галоўкамі Карузы і Карузэлы пакуль, як быццам, не згушчаліся хмары. Наадварот, птушанят яны вывелі трохі раней за сем'і суродзічаў. Справу паскорыла ртутная ліхтарная лямпа, якая па начах не толькі сляпуча свяціла, але і грэла. Адключыць аўтарэле вулічнае асвятленне на досвітку, а назапашанае цяпло яшчэ гадзіну-другую выпраменьвае нагрэты алюмініевы футарал, пасля аж да змяркання "люлька" паблісквае ў промнях па-летняму шчодрага сонца. Корму птушанятам таксама ўдосталь, бо надвор'е спрыяльнае ды і суседзі пакуль харчаваліся толькі самі, даседжвалі яйкі ў сваіх традыцыйных, без выгод, гнёздах, натуральна, пазбаўленых штучнага начнога святла і цяпла. Адно непакоіла пявучую пару: бадзягі-каты, прываблены несціхаючым піскам іх чатырох птушанят, узялі літаральна ў аблогу жалезны слуп з ліхтарамі. Былі нават адчайныя спробы драпежнікаў штурмаваць незвычайнае птушынае лецішча. Марна: кіпцікі слізгалі па гладкай паверхні, і верхалазы нязменна зрываліся. Няўдачы астудзілі каціны імпэт, але да неўтаймаванасці раздражнілі незадаволены паляўнічы інстынкт. Таму за вывадкам Карузы і Карузэлы каты па-ранейшаму пільна, нязводна сачылі. Праз колькі дзён птушаняты з'явіліся ў іншых гнёздах. Смачная навіна адцягнула адгэтуль зграю катоў, але пад слупом усё роўна дзяжурыла некалькі самых упартых разбойнікаў.

Хутка, ой хутка праляцеў месяц. Нашчадкі Карузы і Карузэлы падраслі, амаль выраслі. Зрабілася цеснавата ў мініяцюрным вышынным гняздзе. Часцей і часцей, высунуўшыся з-пад згібу бліскучага футарала, яны адчайна лапаталі яшчэ слабенькімі, бездапаможнымі крыльцамі. У тыя небяспечныя, вострыя моманты Карузэла цацачным верталёцікам завісала ў паветры перад роднымі, маленечкімі галоўкамі, энергічна падпіхвала неразумных сваіх рызыкантаў назад у гняздо, ратуючы ад непапраўнай бяды... Настаў для птушанят час першай спробы крыла, першага вылету ў бязважкасць пакуль чужой, невядомай прасторы. Менавіта тады выбухнуў неспадзяваны фінал, якому адразу няпроста было знайсці належнае тлумачэнне.

Усё здарылася за лічаныя хвіліны. Спачатку самае дужае птушанё, махаючы крыламі, рашуча вылезла з гнязда. Адштурхнуўшыся лапкамі ад ліхтарнай капсулы, яно лёгка спружыніла і паляцела, павольна набіраючы вышыню. Не марудзячы, тое ж следам зрабілі астатнія. І вось у празрыстым паветры над ліхтарамі — чатыры новыя, маладыя летуны. Каруза і Карузэла з макаўкі абалонкі замілавана глядзелі, не маглі наглядзецца на сваіх самастойных, зусім дарослых дзяцей. Вось іх першынец, упэўнена развярнуўшыся, лёг на курс заключнага віражу. Ён павінен быў мякка спланіраваць, каб сесці побач з бацькамі... Але што гэта? Летуна невядома чаму панесла зусім не туды. Імкліва набіраючы хуткасць, ён, разагнаўшыся да немагчымасці, з усяго маху ўляпіўся ў франтон цаглянай сцяны паліклінікі. Паспеў толькі тоненька піскнуць, валячыся каменем уніз, дзе напаўжывы камячок вокамгненна схапілі каты. Такая ж доля спасцігла яшчэ трох птушанят, якія, быццам спакушаныя нейкім дэманічным, злым духам, самазнішчальна паўтарылі трагічны маршрут папярэдніка... Іх усіх не існавала ўжо, а цёмныя птушыныя пёркі, асядаючы на асфальт, яшчэ гойдаліся ў подыхах лагоднага ветрыку.

Я разгублена міргаў вачыма, асэнсоўваючы ўбачанае. Нарэшце, сярод прычын драматычнай развязкі спыніўся на версіі: птушанят асляпіла ртутная ліхтарная лямпа. А сляпцы, вядома, не падкантрольныя сабе, да канца не ўсведамляюць, што робяць, яны ж — невідушчыя. І гэтым якраз усё сказана... У той самы дзень Каруза і Карузэла, у роспачы дашчэнту разбурыўшы гняздо, з крыкам назаўжды пакінулі пракляты ліхтар.

**P.S.** Вынікі сумнай птушынай гісторыі пазней спраектаваліся на гістарычныя нашы рэаліі. Адпаведныя паралелі напрасіліся самі: бядотныя лёсы маіх суайчыннікаў, асепленых утапічным, антычалавечым шаманствам, жыцці мільёнаў ахвяр, знішчаных ці да калецтва знявечаных "родным" грамадскім парадкам, у многім нагадваюць горкую долю вывадка Карузы і Карузэлы, узгадаванага ў ненатуральных умовах.

Што да астатніх птушак-малявак, дык не першы ўжо год яны апасліва абмінаюць слуп з блікучымі ліхтарамі, ніколі нават не набліжаюцца да спакуслівага аб'екта. Не дзіва, там тоіцца згуба птушынаму роду.

## Ягонай экспазіцыяй была сцэна



**Ужо стала добрай традыцыяй у гасцёўні імені Ул. Галубка — філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі — ладзіць выставы знакамітых дзеячаў. Новая выстава прысвечана 85-годдзю тэатральнага мастака Яўгена Чамадурава.**

**Аматары оперы і балета старэйшага пакалення добра памятаюць гэтае імя. Ці не кожная работа Яўгена Рыгоравіча станавілася падзеяй у культурным жыцці рэспублікі. Прыгадаем незабыўную "Альпійскую баладу" Я. Глебава, "Залатога пеўніка" М. Рымскага-Корсакава, "Хаваншчыну" і "Барыса Гадунова" М. Мусаргскага, "Пікавую даму" і "Яўгена Анегіна" П. Чайкоўскага, "Заручыны ў манастыры і "Рамэо і Джульету" С. Пракоф'ева — гэты спіс можна працягваць і працягваць. За кожным з эскізаў выставы паўстае яскравая старонка гісторыі беларускай сцэнаграфіі.**

**Наогул, выставы гэтага мастака — свята рэдкае, асаблівае. Сам Яўген Рыгоравіч лічыць, што яго выставачнай залай кожны вечар была сцэна тэатра. І многія мастакі могуць пазайздросціць як колькасці наведвальнікаў гэтых выстаў, так і іх шчырым водгукам.**

**Кожны мастак-дэкаратар стварае на сцэнічнай пляцоўцы свой эквівалент жыццёвай прасторы ў адпаведнасці з асабістым светаўспрыманнем. На эскізах Я. Чамадурава перад намі паўстае рэчаіснасць яскравая, маляўнічая, крыху казачная. У ёй існуюць цікавыя, прыгожыя людзі ў адзенні, якое выяўляе асаблівасці іх характараў і душэўнага стану. Гнуткія зграбныя дзявочыя постаці зачароўваюць хараством. Статныя мужчыны з гонарам выходзяць ім насустрач. Якія выразныя твары, зязючыя вочы, якая гармонія і экспрэсія! Усе яны — жыхары дзіўнай краіны, у нечым вельмі знаёмай кожнаму з нас.**

**Работам Я. Чамадурава ўласціва глыбокае пранікненне ў драматургічную і рэжысёрскую задуму, дакладнае раскрыццё эпохі, дэкаратыўнасць. З асаблівай патрабавальнасцю падыходзіць мастак да стварэння сцэнічнага касцюма, у якім імкнецца як мага глыбей раскрыць характар персанажа. У эскізе касцюма заўсёды распрацоўваецца грым з улікам індывідуальнай асаблівасці акцёра. Так, эскіз касцюма Аіды да оперы Дж. Вердзі паслужыў ключом да мастацкага вырашэння ўсяго спектакля. "Чорная лілея" — так для сябе вызначыў гэты вобраз мастак.**

**Амаль трыццаць гадоў адпрацаваў Яўген Рыгоравіч у тэатры оперы і балета. З асаблівай стараннасцю падыходзіў ён да афармлення твораў беларускіх кампазітараў. Тэма подзвігу народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, адна з галоўных тэм беларускага мастацтва, нязменна хвалявала мастака. Ёй прысвечаны спектаклі "Алеся" Я. Цікоцкага і "Альпійская балада" Я. Глебава, эскізы дэкарацый да якіх прадстаўлены на выставе.**

**У гэтым годзе сусветная грамадскасць адзначае двухсотгоддзе з дня нараджэння вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна. Пушкінская тэма заўсёды вабіла мастака. Ужо ў 1945 годзе ён афармляе оперу "Яўгеній Анегін" П. Чайкоўскага на сцэне тэатра оперы і балета ім. С. Айні. І потым неадноўчы вяртаецца да яе ўжо на беларускай сцэне. "Залаты пеўнік" Н. Рымскага-Корсакава, "Казка пра мёртвую царэўну і сем асілкаў" А. Лядава, "Пікавая дама" П. Чайкоўскага — гэтыя спектаклі надоўга запомніліся і палюбіліся гледачам дзякуючы арыгінальнаму мастацкаму вырашэнню.**

**Творчая спадчына Я. Чамадурава, мы маем надзею, зойме сваё месца ў будучай экспазіцыі музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. А пакуль што запрашаем наведаць выставы ў гасцёўні ім. Ул. Галубка ў Траецкім прадмесці.**

**М. ТАРАКАНАВА,**
**навуковы супрацоўнік музея**

*Яўген Чамадураў. Фота 1975 года.*

МУЗЫКА

# "Напэўна, усё трэба ўспрымаць як дар Божы..."

***Нядаўна Барыс НІЧКОЎ, загадчык кафедры драўляных духавых інструментаў Беларускай акадэміі музыкі, мастацкі кіраўнік знанага актэта, што ў складзе Дзяржаўнага канцэртнага аркестра краіны, быў узнагароджаны медалём імя Францішка Скарыны, што супала з адметнай для прафесара датай: ягоным 60-годдзем. Вось і нагода для размовы.***

**— Барыс Уладзіміравіч, зазвычай сталы ўзрост прымушае чалавека азірнуцца на пройдзены шлях і падумаць пра тое, што дасягнута. Ці ўсім вы задаволены ў жыцці, творчасці, працы?**

— Увогуле я задаволены сваім творчым лёсам. Калісьці скончыў Уральскую кансерваторыю. Маё музыканцкае станаўленне супала з часам, калі ў буйных гарадах былога Саюза актыўна развівалася канцэртнае жыццё. Дзякуючы гастролям мне давялося пабываць у многіх гарадах — ад Ленінграда да Далёкага Усходу: у Новасібірску, Омску, Іркуцку, Свярдлоўску, Хабараўску, Уладзівастоку ды інш. З 1960 года мая дзейнасць звязана з Беларуссю. Тут сустрэў многіх выдатных музыкантаў. Супрацоўнічаў з народным артыстам Савецкага Саюза Іосіфам Іосіфавічам Жыновічам, заснавальнікам Дзяржаўнага народнага аркестра; з дырыжорамі опернага тэатра — Львом Любімавым, Віктарам Барсавым. Жыццё падаравала мне магчымасць стасункаў з людзьмі, якія вучылі сваім майстэрствам. Ніколі не забудуся на цудоўную ігру скрыпача Льва Гарэліка, канцэртмайстра аркестра тэатра оперы і балета.

У Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі я пазнаёміўся з выдатным флейтыстам Сцяпанам Уладзіміравічам Сізко, які калісьці ўзначальваў кафедру камернага ансамбля. Менавіта ён і запрасіў мяне на працу ў кансерваторыю. Гэтая навучальная ўстанова на той час сабрала вельмі добры калектыў выкладчыкаў-духавікоў: Уладзіміра Васільевіча Харытонава — загадчыка кафедры духавых інструментаў, вядомых музыкантаў Юрыя Саламонавіча Цёмкіна, Якава Канстанцінавіча Лосева... З часам, заняўшы пасаду загадчыка кафедры духавых інструментаў, я ўжо сам імкнуўся запрасіць да нас самых лепшых музыкантаў-выкладчыкаў. Памятаю, якіх вялікіх намаганняў каштавала ўгаварыць перайсці на асноўную працу ў кансерваторыю вядомага цяпер педагога, прафесара Уладзіміра Уладзіміравіча Будкевіча — заслужанага артыста, які да гэтага шмат гадоў працаваў у аркестры опернага тэатра. На мой погляд, ён пакіне яскравы след у падрыхтоўцы фагатыстаў. Я магу ганарыцца і радавацца, што за час працы ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі, а потым і на нашай кафедры раскрыўся вялікі педагагічны дар Ніны Васільеўны Аўраменкі. Доўгія гады ў нас выкладаў прафесар Уладзімір Паўлавіч Скараходаў — заслужаны дзеяч мастацтваў, які стварыў на Беларусі школу кларнета.

**— А вам, я ведаю, пашанцавала вучыцца ў асістэнтуры-стажыроўцы Дзяржаўнага музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных у выдатнага прафесара Івана Фёдаравіча Пушачнікава...**

— Так, літаральна праз два месяцы пасля яе заканчэння я атрымаў запрашэнне ў Маскоўскую кансерваторыю на факультэт павышэння кваліфікацыі. Напэўна, у жыцці ўсё трэба ўспрымаць як дар божы. Тыя курсы сабралі музыкантаў з усяго тагачаснага Саюза, і толькі 6 чалавек атрымалі магчымасць удасканальваць сваё майстэрства ў лепшых педагогаў краіны. Я мог наведваць заняткі не толькі па сваёй спецыяльнасці, але і вучыцца ў іншых выдатных музыкантаў. На той час у Маскоўскай кансерваторыі выкладалі вядомы віяланчэліст Мсціслаў Растраповіч, фагатыст Раман Цярохін — прафесар, загадчык кафедры, габаіст Анатоль Пятроў. Анатоль Віктаравіч аб'ездзіў увесь свет і прывёз нямала каштоўнай літаратуры, з якой у нас заўсёды былі цяжкасці. Ён прапанаваў мне карыстацца сваёй унікальнай нотнай бібліятэкай. На маю думку, менавіта пераемнасць, цесныя стасункі з маскоўскай і ленінградскай школамі, склалі той падмурак, на які абапіраюцца метады навучання на духавых інструментах і ў нас, на Беларусі.

**— Чаму вы, габаіст з канцэртным досведам, абралі для сябе дзейнасць педагога?**

— Мне заўсёды хацелася выкладаць. У гэтым на мяне паўплываў мой першы настаўнік — Ісак Майсеевіч Данскер, цудоўны музыкант, які на працягу 24 гадоў быў першым салістам Марыінскага тэатра. Я добра памятаю, якую вялікую ўвагу ён удзяляў мне, таму лічу неабходным перадаць засвоеныя веды наступным пакаленням. А ўвогуле, жаданне займацца педагогікай з'явілася яшчэ пасля заканчэння кансерваторыі, падчас працы ў оперным тэатры. Мне ўдавалася сумяшчаць выканальніцтва з дзейнасцю выкладчыка. Я многа выступаў з камерным аркестрам у якасці саліста, першы запісаў у фонд Белтэлерадыё канцэрты Вівальдзі, Альбіноні, беларускіх кампазітараў. Для маёй педагагічнай работы вялікае значэнне мела асэнсаванне спецыфікі супрацоўніцтва музыканта-канцэртанта з аркестрам. Калі я пачаў выкладаць, то часта гаварыў студэнтам: не выйшла нота — нельга пачуваць сябе абыякава, бо гэта — як надзвычайнае здарэнне для музыканта! Заўсёды варта высветліць, чаму яна не прагучала і што трэба зрабіць, каб наступным разам усё атрымалася. Але выкладаючы, канцэртную дзейнасць я не

ТВОРЦА

# Талент і ў правінцыі — талент

***Радасная вестка прыйшла ў раённы цэнтр Дзятлава. Рашэннем калегіі Міністэрства культуры Беларусі фальклорнаму калектыву вёскі Ахонава за ўмелую і змястоўную прапаганду народнай песеннай творчасці нададзена званне "народны".***

У свой час Рыгор Шырма пісаў, што шмат мудрасці, трывогі і радасці, шчырай любові і праўды захавалася ў скарбах народнага мастацтва. Яно нарадзілася ў далёкія часы, разам з народам расло, мацнела, развівалася, расказваючы пра волю і няволю многіх пакаленняў... Словы гэтыя ўспомніліся мне пры сустрэчы з лепшай ахонаўскай спявачкай Надзеяй Бурак...

...Зала была перапоўнена. Людскія душы скараліся песні. Надзея надзвычай мілым, прыгожым голасам зацягнула сваю самую любімую песню пра далінушку. І так прыемна, сама сабой, уплывалася тая песня ў душу, што адразу лёгка рабілася на сэрцы... Здавалася, што артыстка спявала не толькі для прысутных і для сябе, а для ўсёй роднай беларускай зямлі, адкуль чэрпае яна новыя сілы і творчае натхненне.

На гэты раз ахонаўскімі спявачкамі захапляліся ў Мінску з нагоды юбілею вядомага празаіка Вячаслава Адамчыка. Шчыры паклон ім пасылалі пісьменнікі Іван Шамякін, Ніл Гілевіч, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч ды іншыя вядомыя людзі краіны.

Але самай цікавай і памятнай падзеяй у сваім творчым жыцці Надзея Іванаўна Бурак лічыць выступленні ў Маскве ў 1987 годзе. Там праходзіў агляд-конкурс народнай творчасці Беларусі і Таджыкістана. Семнаццаць песень у выкананні Надзеі Бурак было запісана на пласцінку ЮНЕСКА. Вясельныя, сірочыя, святочныя беларускія народныя...

Яна цікавы, вялікай душы чалавек. Кожнаму дапамагчы, кожнага падтрымаць імкнецца гэтая ветлівая, з прыгожымі чорнымі, як вішні, вачыма, з прыемнай усмешкай жанчына.

**— Такая ўжо я з маладосці, — смяецца Надзея Іванаўна, — ніколі не магла ўседзець на месцы. І лёс мяне не абдзяліў: было і гора, і нястачы, але шмат было і добрага, з многімі цікавымі людзьмі сустракалася, дзялілася сваім бясцэнным багаццем — народнай песняй.**

Нарадзілася Надзея Іванаўна ў Ахонаве. У сям'і Івана Жыгалы, яе бацькі, было трое дзяцей. Чалавек, які вельмі любіў зямлю, працу на ёй, імкнуўся, каб дзеці мелі хоць нейкую зачэпку, стаўшы дарослымі, марыў пакінуць кожнаму хоць невялікі надзел зямлі. Іншага лёсу для іх не ўяўляў. Пра пасаг для дзяўчат трэба было думаць з маленства. Інакш сядзець ім векавухамі, нягледзячы на тое, што ўдаліся вельмі спрытнымі, працавітымі і галасістымі на ўсю вёску. Асабліва Надзейка, якую любіў і шкадаваў больш за іншых.

Сям'я берагла кожны рубель, кожны кавалак хлеба. Дзеці хадзілі ў польскую школу, добра вучыліся. Спадзяваўся стары, што, можа, каго з нашчадкаў чакае больш шчаслівы лёс, верыў, што час зменіцца. Пры Польшчы Іван Сямёнавіч меў тры з паловай гектары добрай ворнай зямлі. За яе, зямелькукармiцельку, у 1939 годзе давялося расплаціцца з новымі ўладамі жыццём: бацьку забралі як кулака і вывезлі на работу ў Комі АССР.

Перад вайной у пісьмах бацька скупа паведамляў пра сябе, прасіў не высылаць пасылак з харчамі, бо ўсё роўна нічога не атрымлівае: прадукты забірае ахова. А для сям'і кавалак сала ці сухі сыр быў вялікай падтрымкай, асабліва зімою.

Пра ўсё самае жахлівае, што выпала на долю Івана Сямёнавіча, сям'я даведалася ад суседа. Ён таксама быў у тым лагеры, але ў пяцідзесятыя гады вярнуўся дадому. Ад голаду, цяжкай працы на лесапавале, невыносных умоў існавання загінулі тысячы і тысячы "ворагаў народа".

След бацькі згубіўся. Пасля вайны маці шмат пісала, прасіла што-небудзь паведаміць пра мужа. Але так і не дачакалася адказу, хаця да канца сваіх дзён не губляла надзею, што муж вернецца.

**— Да вайны наша сям'я жыла пад страхам, — успамінае Надзея Іванаўна. — Мы, дзеці, усёй душой адчувалі, што з намі магло здарыцца нешта страшнае, непапраўнае. У хату да маці не раз заходзілі прадстаўнікі ўлады і сурова папярэджвалі, каб сям'я рыхтавалася да высылкі. Толькі ў канцы саракавых зразумелі, што ўсё трывожна-страшнае мінулася і нас больш не будуць турбаваць. Пайшла ў школу. Некаторы час працавала піянерважатай. Спецыяльнай адукацыі, вядома, не было, і на маё месца прыслалі дзяўчыну з дыпломам. Я пайшла ў калгас ільнаводам. Неўзабаве прызначылі звеннявой.**

Адразу пасля вайны стварылі жаночы хор народнай песні. Вольнага часу ў Надзеі Іванаўны было нямнога. Трое малых дзяцей патрабавалі ўвагі, ды і пакінуць іх не было на каго. Хор звычайна збіраўся ў школе, і даводзілася браць малых з сабою, садзіць за парту, займаць, каб не перашкаджалі.

Спяваць Надзея Іванаўна любіла. Навучылася многім песням ад бацькі, выдатнага знаўцы абрадаў. Маці таксама добра спявала. У хоры Надзею адразу заўважылі, вылучалі на сольныя партыі. Быў у яе надзвычай прыемны, развіты голас. Дарэчы, яшчэ старшакласніцай ахвотна спявала ў царкоўным хоры.

У 1958 годзе ахонаўскі хор выступаў на Першым рэспубліканскім фестывалі ў Гродне, заняў адно з прызавых месцаў. Першае выступленне на вялікай сцэне Надзея Бурак помніць па сённяшні дзень.

Потым яе не раз запрашалі ў Мінск на тэлебачанне, запісалі на плёнку забытую "Даліну-далінушку" і "Юр'я". Аказалася, што абрадавыя песні гэтага веснавога народнага свята мясцовыя спявачкі захавалі, на добрую зайздрасць іншым, у поўным варыянце. У 60—70-я гады, калі да беларускай культуры не было нікому справы, не лічачы сапраўдных літаратараў, якія настойліва змагаліся за яе захаванне і адраджэнне, група народнай песні з Ахонава жыла і несла людзям радасць роднага слова. Існуе, абнаўляецца калектыў і сёння, але нязменнай, старэйшай яго салісткай застаецца чараўніца Надзея Бурак.

...Надзея Іванаўна дастае свой святочны строй, узнагароды за рупную працу. Шчаслівая яна, бо лёс падарыў ёй найлепшы скарб — шчодры талент. Ім яна магла і можа дзяліцца з людзьмі, ён дапамагае ёй жыць сёння, заўсёды заставацца маладой душою, спаўна далучыцца да жывой, невычэрпнай крыніцы народнага мастацтва.

**Іосіф ЗАЯЦ**

пакінуў, нават удастоены за яе звання заслужанага артыста Беларусі. Толькі ў апошнія 7-8 гадоў спыніў выступленні.

**— Барыс Уладзіміравіч, у вас шмат выхаванцаў, многія працуюць за мяжой. Раскажыце пра іх.**

— Ігар Ляшчышын, напрыклад, цяпер працуе канцэртмайстрам групы габояў у Нацыянальнай вашынгтонскай оперы. Упершыню салістам Пражскага духавога аркестра стаў іншаземец — беларускі габаіст Юрый Лікін. Лаўрэат міжнароднага конкурсу Вікторыя Татур, таксама мая былая студэнтка, — салістка аркестра ў Бразіліі... Увогуле, выпускнікі духавога аддзялення нашай акадэміі музыкі карыстаюцца папулярнасцю ў замежных калектывах. Відавочна, што наша духавая выканальніцкая школа трымае высокі прафесійны ўзровень, а яе прадстаўнікі могуць канкурыраваць з музыкантамі іншых краін.

**— Раскажыце, калі ласка, пра сённяшнія дасягненні вашага класа.**

— Не так даўно адбыўся Міжнародны конкурс выканаўцаў на духавых інструментах у Кішынёве. У ім бралі ўдзел музыканты з Украіны, Румыніі, Балгарыі ды іншых краін. Беларусь была прадстаўлена вялікім колам маладых выканаўцаў. Сярод габаістаў старэйшай узроставай групы першую прэмію атрымаў Кірыла Амельчанка, трэцюю — Леанід Гурвіч, гэта студэнты майго класа. Яшчэ адзін выхаванец, які вучыцца ў Рэспубліканскім каледжы пры Акадэміі музыкі, А. Трафіменка атрымаў другую прэмію. На жаль, паслаць на конкурс усіх тых, хто жадаў у ім удзельнічаць, не было магчымасці, таму што маладыя выканаўцы ажыццяўлялі гэтую вандроўку за свой уласны кошт. А поспех маіх студэнтаў абумоўлены не толькі іх адорнасцю і вялікай працаздольнасцю, але і тым, што ім дапамагаюць вельмі таленавітыя і самааддаьыя людзі — канцэртмайстры: Г. Някрасава, І. Калеснікава, В. Сідараў і С. Тургель.

**— Барыс Уладзіміравіч, жадаю вам і вашым выхаванцам новых творчых поспехаў і дзякую за размову.**

**Гутарыла Валянціна АЛЕФІРЭНКА, студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

ФЕСТЫВАЛІ

# "Ave Maria"

Як мы паведамлялі, пад такой назвай прайшоў у сталіцы фестываль хораў дзяцей і моладзі, прысвечаны святу каталіцкіх Калядаў. Арганізаваны ўпраўленнем культуры Мінгарвыканкама, Мінскім гарадскім метадычным цэнтрам народнай творчасці, ён ладзіўся ў Чырвоным касцёле. У канцэртах удзельнічалі харавыя калектывы горада. Узрост спевакоў вагаўся ад шасці да дваццаці гадоў і прадстаўлялі яны розныя аб'яднанні прыхільнікаў музычнага мастацтва — ад дзіцячых музычных, агульнаадукацыйных школ з харавым ці эстэтычным ухілам да ўзорных калектываў (хоры "Жураванка", "Дружба", "Каравэла", "Мы — дырыжоры", "Сонейка"), хору Мінскага вучылішча мастацтваў, хору "Голас душы" касцёла святых Сымона і Алены...

Вельмі прыемна, што ў школах існуюць такія хоры, якія паспяхова канцэртуюць і ўдзельнічаюць у розных фестывалях ды конкурсах. Добра, што ёсць і такія імпрэзы, дзе калектывы маюць магчымасць выступаць, павышаючы ўзровень выканання. Дарэчы, у дні правядзення фестывалю "Ave Maria" амаль увесь час у Чырвоным касцёле гучалі духоўныя спевы: святочныя набажэнствы чаргаваліся з канцэртнымі выступленнямі, панавала атмасфера духоўнасці і спагады.

Такая форма святкавання дня Божага Нараджэння была апрабавана летась. Тады ўпершыню, па ініцыятыве ксяндза-магістра Уладзіслава Завальнюка, у Чырвоны касцёл запрашаліся для ўдзелу ў канцэртах харавыя калектывы. Гэтым разам фестываль набыў афіцыйны статус і шырэйшую падтрымку, выглядаў больш прадстаўнічым. Кожны яго ўдзельнік атрымаў невялікі калядны падарунак.

Аднак і сама гэтая імпрэза была як падарунак і не толькі для аматараў музыкі. Асаблівасць фестывалю — добрая арганізаванасць яго, зычлівасць і духоўная апека з боку ксяндза Уладзіслава Завальнюка. Менавіта ён надае пільную ўвагу эстэтычнаму выхаванню дзяцей ды і дарослых, з яго нага дазволу ў сценах касцёла часта гучыць добрая музыка. Прычым не толькі літургічныя творы розных эпох, але і разнастайныя інструментальныя, вакальныя і аркестравыя, якія не маюць культавага прызначэння. Адбываецца цікавы сінтэз так званага свецкага і рэлігійнага напрамкаў у музыцы, што, безумоўна, — на карысць культуры нашай краіны.

Спадзёмся, што традыцыя не знікне, і пры канцы года слухачы будуць вітаць удзельнікаў ужо другога харавога фестывалю "Ave Maria" — светлага, чыстага водгуку на свята Нараджэння Хрыстова.

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ**

КІНО

***Задума распачаць цыкл артыкулаў "Беларускае кіно XXI стагоддзя. Абліччы" прыйшла нечакана, калі святло настольнай лямпы, нібыта вока камеры, вылучыла з цемры пакоя аблічча маёй суразмоўцы — рэжысёра В. Марчанкавай.***
***Мне падабаецца, калі ў фільме камера набліжаецца да твару героя. Робіць буйныя вочы, у якіх хаваюцца думкі, надзеі, мары.***
***Па тварах занатоўваюцца фільмы. Па тварах занатоўваюцца эпохі. Хутка — XXI стагоддзе. Спадзяюся, што ў ім вылучаныя мною абліччы зробяцца сімваламі нашага кіно.***

***... Рэжысёр і сцэнарыст В. Марчанкава — з апошніх вучняў В. Турава. Вользе шанцуе: ужо дыпломная яе работа "Выпадак з практыкі" атрымала адну з галоўных прэмій Міжнароднага фестывалю кіношкол "Святая Ганна", а дэбютная поўнаметражная карціна "Забіць вiдачынца" хутка з'явілася на відэакасетах.***

# Чуллівасць паэта і жорсткасць капрала

**— Вольга, з юрыста вы ператварыліся ў кінарэжысёра. Аднак змена прафесіі — сур'ёзны крок?**

— Мне заўсёды хацелася жыць цікава. Пасля юрфака я збіралася быць следчым, раскрываць злачынствы... Аднак мае мары не спраўдзіліся. Ужо ў Беразіне, дзе я працавала па размеркаванні, неяк дзіўна супалі і вырашылі мой лёс дзве кнігі. Прачытаўшы раман У. Куніна "Інтэрдзяўчынка", я ўпершыню падумала: вось бы зрабіць фільм... І пачала фантазіраваць, інсцэніраваць некаторыя эпізоды з кнігі. У гэты ж час П. Тадароўскі якраз пачаў здымаць "Інтэрдзяўчынку". Памятаю, я напісала яму велізарны ліст са сваімі думкамі, распрацоўкамі пэўных эпізодаў. Мне так хацелася падзяліцца з ім. Не ведаю, ці дайшоў той ліст. Потым з'явілася кніга А. Перушо "Жыццё Ван Гога" і мне захацелася зрабіць фільм пра Ван Гога. І тады я, нарэшце, зразумела, чым я хачу займацца ў жыцці. Дагэтуль я ўжо спрабавала пісаць літаратурныя творы. Аднак мадэляваць розныя сітуацыі, складаць мазаіку з лёсаў, характараў, падзей мне падабаецца больш, чым адточваць словы і фразы. Шчыра кажучы, калі я ўявіла, што мне трэба ўсё жыццё сядзець на адным і тым жа крэсле з 9 да 18 гадзін і нават ведаць тыя магілкі, дзе буду пахавана праз гадоў пяцьдзесят, то мароз па скуры прабег. Я пачала рыхтавацца ў ВГІК, напісала свой першы сцэнарый поўнаметражнай стужкі, адаслала яго ў Маскву. Самае цікавае, што ён прайшоў конкурс, але пра гэта я даведалася ўжо будучы студэнткай Турава.



**— У кожнага рэжысёра ёсць свая філасофія кіно. Напрыклад, польскі рэжысёр А. Вайда ўпэўнены, што рэжысёр павінен дамагчыся таго, каб глядач апынуўся ў свеце, дзе ніколі не быў, і павераў, што гэты свет мае права на існаванне.**

— У дзяцінстве, перад тым, як заснуць, я заўсёды прыдумвала цікавыя гісторыі, галоўнай гераіняй якіх была я сама. Я ішла спаць з задавальненнем, бо ведала, што ноччу апынуся ў незвычайным, казачным свеце. Кінематограф даў мне магчымасць стварыць той дзіўны свет наяве. Цяпер у ім можа апынуцца нехта іншы і паверыць у яго існаванне.

**— Вайда казаў, што рэжысёр-пачатковец павінен быць упэўнены, што толькі з яго і пачнецца кіно, што няма яшчэ ні Феліні, ні Бергмана, і ён будзе першым.**

— Гэта — пакуль ты не ўбачыш тыя фільмы Феліні і Бергмана і не зразумееш, што вынайшаў веласіпед. Калі я здымала свой першы поўнаметражны фільм, то таксама думала, што з мяне пачынаецца кіно. Цяпер вучуся на ўласных памылках. Бо трэба адштурхоўвацца ад таго, што было ўжо створана іншымі, ісці далей. Думаю, Вайда меў на ўвазе тое, што малады рэжысёр не павінен недаацэньваць сябе: мая ніша ў кіно з мяне і пачнецца.

**— Вольга, няўжо студэнты самога Турава маглі адчуць, што толькі з іх пачнецца кіно?**

— Тураў быў зубрам беларускага кіно, і з ім адышла цэлая эпоха нацыянальнага кінематографа. Але Тураў даваў творчую свабоду сваім вучням. З ім мы адчулі ўвесь цуд дзяржаўнага, дапрадзюсерскага кіно, калі можна было ўсё, калі не было ніякіх межаў ні ў тэмах, ні ў жанрах, ні ў часе здымак.

**— Прабачце, можа, я зараз выкажу даволі радыкальную думку, але некаторыя лічаць, што Тураў — гэта міф?**

— Але добры міф, паболей бы такіх міфаў у нашым кіно. Ведаеце, нягледзячы на розныя да гэтага рэжысёра адносіны, я лічу яго сваім настаўнікам, майстрам. Я ўдзячна яму за тое, што калісьці сярод вялікай колькасці жадаючых зрабіцца рэжысёрамі ён прыкмеціў мяне, паверыў, узяў на свой курс. Зносіны з ім узбагацілі мяне. Занатавалася тая думка, якую Тураў пастаянна паўтараў нам: здымайце кіно пра Чалавека. Ён казаў, што калі ў вашым фільме няма чагосьці чуллівага, калі вы не зазірнулі ў глыбіню чалавечай душы, то лічыце — фільм не атрымаўся. У гэтых словах — сутнасць Турава.

**— На жаль, цяпер у многіх з нашых рэжысёраў, маркуючы па словах Турава, фільмы не атрымліваюцца?**

— Можна быць геніяльным рэжысёрам і рабіць, дзякуючы творчай інтуіцыі, адзін геніяльны фільм. Аднак немагчыма зняць запар дзесяць геніяльных фільмаў, калі не валодаеш прафесіяй. А прафесія — гэта перш за ўсё ўніклівая, скрупулёзная вучоба. Ведаеце, калі мы вучыліся, то зусім не было выкладчыкаў па майстэрстве. Напрыклад, акцёрскае майстэрства ў нас наогул ніхто не выкладаў на малодшых курсах. Таму свае першыя эцюды мы рабілі, карыстаючыся інтуіцыяй. Калі на трэцім курсе да нас прыйшоў выдатны акцёр Ю. Казючыц, то вяртацца зноў да эцюдаў нам, "мэтрам" кіно, ужо не хацелася. На маю думку, кожны рэжысёр павінен ведаць, як працаваць са сцэнарыем. Але толькі цяпер мы прачыталі цудоўныя лекцыі па драматургіі А. Міты, пра існаванне якіх на момант вучобы нават не ведалі, бо курса драматургіі не было зусім.

Памятаю, на першым курсе ў нас выкладаў адзін з лепшых беларускіх аператараў І. Рамішэўскі. Аднак хіба першакурснік разумее, як гэтыя веды спатрэбяцца яму ў далейшай працы? Аператарскае майстэрства трэба было нам на старэйшых курсах. Лекцыі Рамішэўскага, як паветра, неабходны мне цяпер. Калі аператар кажа мне, што ён не можа нешта зняць, то я павінна зразумець, чаму ён не можа гэта зняць. На жаль, разумею я не заўсёды. Сёння мы здабываем веды па крупінках.

**— Калі адзін з расійскіх крытыкаў паскардзіўся Міхалкову, што маладыя рэжысёры цяпер малаадукаваныя, што за імі няма ні гісторыі, ні нават вопыту самога кіно, што яны ўвесь час прыдумваюць кола, маўляў, чаму іх вучаць у ВГІКу, Міхалкоў адказаў: "А хто вучыць? Калі майстар курса можа не прыйсці на экзамен па майстэрстве, — пра якую вучобу вы кажаце? Яны могуць вельмі доўга расказваць пра свае фільмы, але таго, пра што яны расказваюць, у іх кіно няма. Мала мець задуму, трэба яе здзейсніць. Трэба ведаць мантаж, рух камеры, як пабудаваць мізансцэну і як працаваць з акцёрамі... Гэта ж усё трэба ўмець!"**

— Калі ў ВГІКа — выдатнай кіношколы — тыя ж праблемы, дык з часам наогул усе развучацца здымаць кіно.

**— Як вы лічаце, новае пакаленне беларускіх кінематаграфістаў — гэта пакаленне надзеі ці пакаленне нумар нуль, як гаварылі пра яго нядаўна на паказе маладога французскага кіно?**

— Складанае пытанне. Цяпер палітыка "Беларусьфільма" ў адносінах да маладых цьмяная, незразумелая. Летась здымаў, а хутчэй спрабаваў здымаць "Пакорлівую" Дастаеўскага мой аднакурснік А. Ганчаронак. Але карціну закрылі. Чаму? За апошнія гады ў штат студыі былі залічаны толькі два маладыя рэжысёры, лічу — цудам. З майго курса пастаянна працуюць Р. Грыцкова, І. Волах, я зрабіла "поўны метр", але мы не ў штаце. Як працаваць?

**— Я ведаю, што А. Кудзіненка, Л. Кабернік, тыя, хто рабіў свае дыпломныя работы на "Беларусьфільме", цяпер паспяхова здымаюць на "Белвідэацэнтры"?**

— Бо на "Белвідэацэнтры" якраз і ёсць магчымасць здымаць. Канешне, відэа — не стужка, іншыя маштабы, але дзякуй і за гэта. Пасля "Забіць вiдачынца" я таксама зрабіла там невялічкі дакументальны фільм "Галерэя". У рэжысёра павінен быць пастаянны трэнінг, а інакш — страчваецца прафесія, а яна павінна быць на кончыках пальцаў. Калі ж увесь час знаходзішся ў "бібліятэчным перыядзе", то забудзеш, як здымаць кіно. Дарэчы, галоўная мэта маладзёжнай секцыі пры Саюзе кінематаграфістаў — своечасова забяспечыць усіх маладых дэбютамі. Толькі ўявіце: "выпусціліся" два курсы рэжысёраў, курс мастакоўпастаноўшчыкаў, курс аператараў, курс драматургаў. Знайсці кожнаму самастойны поўнаметражны дэбют — немагчыма. Аднак, калі зрабіць кінаальманах, то змаглі б паспрабаваць сябе адразу дванаццаць чалавек: тры рэжысёры, тры аператары, тры мастакі і тры сцэнарысты. Было б цудоўна, калі б Міністэрства культуры і Саюз кінематаграфістаў дапамаглі нам дамагчыся на студыі поўнай адзінкі для маладых. Гэта ж добрая ідэя — альманах! Зараз існуе сапраўдны дэфіцыт жанравага кіно, не хапае камедый, меладрам. Чаму не зрабіць тры камедыйныя навелы? На добрым узроўні, як кажуць, на адным дыханні?! Трэба імкнуцца да развіцця беларускай школы кіно, а не чакаць яе сканання. Пра гэта забываюцца. Бо калі мы прыйшлі да таго, што сёлета на студыі запускаецца толькі адна (!) стужка — "Момант ісціны" М. Пташука, то што будзе далей?

**— Наколькі мне вядома, кінаальманахі рабілі рэжысёры "новай хвалі". З кінаальманаха "Прыход цягніка" распачаўся так званы "малабюджэтны праект". Дарэчы, "малабюджэтнае кіно" — гэта таксама выйсце?**

— Я лічу, што сапраўднае кіно не павінна быць малабюджэтным. Колькі ты грошай у фільм укладваеш, столькі ж і атрымаеш на экране. Рэжысёры, якія здымаюць малабюджэтнае кіно, імкнуцца запэўніць гледача, што будынак з абдзёртымі дзвярыма і шыльдай "казіно" на самай справе ёсць фешэнебельны, дарагі начны клуб. Але на экране я бачу іншае?!

**— Вольга, вы першы беларускі рэжысёр, ад якога я пачула, што трэба ўмець працаваць з прадзюсерам.**

— Пасля вучобы я зрабіла дзве стужкі ў дакументальным серыяле "Справа па абвінавачванні". Кіраўнік незалежнай кінакампаніі "Фобас. С" У. Крэчатаў, мой прадзюсер, жорстка патрабаваў ад мяне, па-першае, зняць цікавую крымінальную гісторыю, па-другое, выкарыстоўваць дробны мантаж, каб фільм нагадваў калейдаскоп. Упершыню я здымала кіно ў пэўных межах. Аднак мне было прыемна працаваць, бо гэта была школа. Думаю, абмежаванняў прадзюсера баіцца той, хто ўсё жыццё рабіў толькі тое, што яму падабаецца. Але існуе канчатковы вынік і прадзюсер пачынае працаваць на яго раней, чым рэжысёр. Ён робіць усё, каб дасягнуць гэтага выніку: наймае сцэнарыстаў, рэжысёраў, акцёраў. На жаль, рэжысёр у гэтых умовах — толькі выканаўца ідэі прадзюсера, але ён можа быць творчым, актыўным выканаўцам, адным з лепшых. Калі сёння рэжысёр не можа працаваць у такіх жорсткіх умовах, дык ён наогул не можа працаваць у сучасным кіно.

**— Напэўна, словы А. Таркоўскага "я не зрабіў ніводнай забаўляльнай карціны і абяцаю ніколі такой не зрабіць" цяпер здаюцца утапічнымі?**

— Чаму? Кіно можа быць розным, акрамя сумнага. Фільмы Таркоўскага не забаўляльныя, але і не сумныя, іх цікава глядзець.

**— Карціны Таркоўскага, Бергмана, Феліні рэжысёр К. Занусі лічыць прыкладамі вялікага кампрамісу з публікай. На думку Занусі, сапраўдны поспех карціны — гэта лічбы: колькі людзей яе паглядзела, колькі грошай яна "зарабіла". Поспех без лічбаў — адна балбатня.**

— Калі В. Тураў падараваў мне крыллі, то К. Занусі апусціў мяне на зямлю падчас стажыроўкі ў яго. Калі я паказала Занусі сваю дыпломную работу "Выпадак з практыкі", то ён адразу запытаўся ў мяне, а ці купіла маю работу тэлебачанне. Я кажу, што не. Чаму? Як прадзюсер, Занусі не разумеў, чаму дзяржава, калі яна затраціла грошы на фільм, не зацікаўлена ў іх звароце. Я і сама гэтага не разумею. "Беларусьфільм" заключыў дамову на выпуск майго "Відачынца" на відэакасетах. Касеты выпусцілі, але грошай на студыю так і не пералічылі. Хвалююся толькі я адна, студыі ж нічога не трэба. Але як так можа быць, не разумею? У Міністэрстве культуры мне кажуць: мы даём вам грошы, а вы здымайце кіно. І ўсё. У нас ніхто ні за што не адказвае. Таму няма ніякай розніцы, на які фільм — добры ці дрэнны, затрачваць грошы?

**— Вольга, згадалася метафара А. Вайды: каб быць рэжысёрам, трэба мець дзве схільнасці, якія супярэчаць адна адной. Першая — гэта быць капралам. Другая — быць паэтам. Рэжысёр павінен захаваць у сабе чуллівасць паэта і не траціць жорсткасць капрала.**

— Тураў казаў, што ў рэжысёра павінна быць жалезнае здароўе, каб усё вытрываць. Рэжысёр павінен знаходзіцца ў добрай фізічнай форме. Мы ўсе прыходзім у кіно з душой паэта. Жорсткасць капрала набываеш з вопытам.

**Гутарыла Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

## Новая зала ў Гродне

22 студзеня ў Гродне адбылася знамянальная падзея — адкрыццё новай канцэртнай залы гарадскога Дома культуры. Але, як кажуць, новае — гэта добра забытае старое. Так і атрымалася. На жаль, цэлых 10 гадоў цягнуўся рамонт ГДК. Вырасла пакаленне аматараў музыкі, для якіх гэта сапраўды новая зала.

Утульная, умяшчальная, з прыгожым інтэр'ерам, у цэнтры горада, рэдкая па сваіх акустычных якасцях, яна даўно вабіла гарадзенскіх музыкантаў. Асабліва, калі ўлічыць, што ў нашым багатым музычнымі традыцыямі Гродне не так многа канцэртных пляцовак, а тым больш сапраўдных залаў.

Гонар першымі выйсці на цудоўную сцэну па праве атрымалі артысты камернага аркестра Гродзенскай капэлы. Гэта сімвалічна, бо менавіта тут, пры ГДК, амаль 8 гадоў таму пачынаўся шлях нашага камернага, тут знаходзіцца зараз асноўная рэпетыцыйная база Гродзенскай капэлы. А калі зазірнуць яшчэ далей, то менавіта ГДК быў калісьці створаны ансамбль старадаўняй музыкі "Канчэнта", які, на думку многіх музыкантаў, даў штуршок самой ідэі стварэння аркестра, а пазней і капэлы.

Праграма, якую вынеслі артысты на суд слухачоў, была адпаведная — яскравая, святочная, я б нават сказаў "радасная": сюіта Б. Брытэна "Музычныя вечары" паводле Дж. Расіні, некалькі частак з "Кармэн-сюіты" Ж. Бізэ — Р. Шчадрына, творы Ж. Афенбаха, Л. Ардзіці, П. Масканьі, І. Кальмана, а таксама славутага І. Штрауса. У канцэрце бралі ўдзел любімыя гродзенскімі слухачамі салісты капэлы: А. Балтрукевіч (меццa-сапрана), М. Гаравая і І. Дзмітровіч (сапрана). Былі і прыемныя нечаканасці — напрыклад, вялікая група выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах, што, бясспрэчна, дадала цікавых фарбаў гучанню струннага складу і ў чарговы раз нагадала пра рэальнасць стварэння ў Гродне сімфанічнага аркестра.

Музыканты разам з дырыжорам, прызнаным гродзенскім маэстра У. Борматавым, igралі, як заўсёды, натхнёна і эмацыянальна, з уздымам, на добрым прафесійным узроўні, імкнучыся данесці да аўдыторыі шматгранную вобразную палітру такіх розных партытур. Шчырасць і апантанасць артыстаў атрымалі адпаведны водгук — публіка двойчы выклікала аркестр на "біс". У перапоўненай зале не было, здаецца, ніводнага абыякавага твару: музыканты, слухачы, супрацоўнікі ГДК на чале з дырэктарам І. Зачатка, — усе былі па-сапраўднаму шчаслівыя, бо чакалі гэтай падзеі надта доўга.

Адным словам, "новае" адкрыццё "старой" канцэртнай залы ГДК, без сумневу, павінна знаменаваць новую старонку старажытнай кнігі пад назвай "Музычная Гродзеншчына". Застаецца толькі яшчэ раз парадавацца і выказаць спадзяванне, што гэтая падзея станецца магутным стымулам як для дзейнасці ГДК, для далейшага ўдасканалення майстэрства артыстаў Гродзенскай капэлы, для ажыўлення гастрольна-канцэртнай афішы горада, так і для ўсяго мастацкага жыцця Гродна. А таксама, магчыма, яшчэ раз нагадае пра вострую неабходнасць завяршэння другога "культурнага даўгабуда" — Гродзенскага музычнага вучылішча.

**Аляксей САЛАДУХІН**

## У народным танцы — майстар

Без малога паўтара дзесятка гадоў яны неадлучныя адно ад аднаго — Дзяржаўны народны ансамбль танца Беларусі ды яго лідэр, мастацкі кіраўнік Вялянцін Дудкевіч. Знаны рэжысёр эстрадных праграм, канцэртаў, таленавіты балетмайстар, харэограф, ён здолеў надаць гэтаму сталаму, са сваімі традыцыямі, калектыву новае творчае дыханне.

Ансамбль танца ведаюць, любяць, чакаюць гледачы — найперш нашы, беларускія. Чакаюць і ў пацярпелых ад Чарнобыля раёнах, дзе ўжо не першы год калектыў ансамбля ладзіць фестываль свайго аптымістычнага, жыццядайнага мастацтва. Чакаюць і ў сталіцы — дастаткова згадаць, як горача прымала філарманічная публіка новую праграму, паказаную падчас не такой і даўняй "Беларускай музычнай восені"... Днямі прыхільнікі мастацтва Валянціна Дудкевіча шчыра парадаваліся: указам Прэзідэнта нашай дзяржавы яму нададзена высокае званне народнага артыста Беларусі. А рэдакцыя "ЛіМа", як аказалася вельмі дарэчы, рыхтуе публікацыю пра творчы шлях Майстра...

**С. Б.**

"ЛіМ"—ФОТА



"Увогуле, вялікія гарады больш не прадуцыруюць эліту. Як казаў Ніцшэ, у горадзе занадта шмат страсных людзей, таму яны там дрэнна сябе адчуваюць..."

**Уладзімір КОНАН**

ВЕЧАРЫНЫ

## "І зноў гасцей прымае Дом Купалы"

Ужо стала добрай традыцыяй, што на працягу многіх гадоў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы прымае ў сябе абаронцаў Айчыны.

14 лютага музей Песняра, Цэнтральны Дом афіцэраў, Саюз пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь, Саюз кампазітараў Беларусі правялі сумеснае мерапрыемства з вайскоўцамі в/ч N 35703 базы ахоВы і абслугоўвання Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Адкрыла і вяла сустрэчу загадчыца навукова-асветніцкага аддзела музея Людміла Давідоўская, якая нагадала прысутным, што на творчасці Вялікага Купалы выхоўваўся і выхоўваецца не адно пакаленне моладзі. Усцешвае той факт, што сярод вайскоўцаў ёсць немалая колькасць тых, хто гаворыць на добрай, чыстай роднай мове. Нездарма калісьці Пясняр сказаў: "На цябе, наша моладзь, надзея..." Старшыня ваенна-шэфскай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі пісьменнік Яўген Каршукоў падзяліўся ўспамінамі свайго дзяцінства, апаленага вайной, расказаў пра жахі, якія перажыў ён і яго аднавяскоўцы. "Успаміны часта вярэдзяць душу, і таму так неабходна зберагчы мір на зямлі, каб наша моц была непераможнай", — сказаў выступоўца. Яўген Іванавіч прызнаўся, што параўнальна нядаўна пачаў пісаць вершы, некаторыя з якіх ён прачытаў. Гэтыя вершы прысутныя ўспрынялі цёпла. Слова пра сваю працу сказаў інструктар па ваенна-шэфскай рабоце Цэнтральнага Дома афіцэраў узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь, адказны сакратар ваенна-шэфскай камісіі Анатоль Верабей: "Мэта ваенна-шэфскай камісіі заключаецца ў тым, каб забяспечыць на прыстойным узроўні культурны адпачынак вайскоўцаў мінскага гарнізона. Я ведаю, што музей Купалы кожную суботу ці нядзелю наведвае каля пяцідзесяці чалавек, а наогул па нашых пуцёўках у выхадныя дні на культурных мерапрыемствах бывае ў горадзе каля трохсот вайскоўцаў. Адзін з галоўных напрамкаў нашай працы — гэта ваенна-патрыятычнае выхаванне моладзі. Але яно немагчыма без далучэння яе да духоўнай культуры народа". Гэтая сустрэча прыпала на дзень святога Валянціна. Людміла Давідоўская чытала маладым вайскоўцам лірычныя вершы Янкі Купалы, многія з якіх з'яўляюцца вяршынямі інтымнай лірыкі. Гэта ўрыўкі з паэмы "Яна і я", вершы "Генацвале", "А яна...", "Не глядзі", "Явар і каліна". Некалькі гадоў таму ля сцен музея, як сімвал неўміручай Купалавай паэзіі, былі пасаджаны явар і каліна... Затым чыталіся вершы вядомай рускай паэтэсы Марыі Камісаравай, якія яна прысвяціла Купалу падчас юбілейных падзей у Вязынцы. Музычную частку сустрэчы распачаў старшыня ваенна-шэфскай камісіі Саюза кампазітараў Алег Чыркун. Ён выканаў шэраг песень, акампанаваў артыстцы Белдзяржфілармоніі Валянціне Ахрамовіч, у выкананні якой прагучалі песні на словы Янкі Купалы. Салістка музычнай студыі Цэнтральнага Дома афіцэраў Ала Зіміна, акрамя песні "Явар і каліна", выканала яшчэ некалькі песень, акампанаваў на баяне Павел Пілат. Вайскоўцы азнаёміліся з экспазіцыяй музея, наведалі выставу "Адам Міцкевіч і Янка Купала".

**Л. С.**

## Родная мова ў касцёле

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Беларуская мова мела яшчэ і лацінскі варыянт правапісу. Ім карысталіся зусім не дзеля таго, каб іх мову адрознівалі ад мужыцкай. Пісьменнасць лацінкаю мае традыцыю з даўніх часоў. На Беларусі карысталіся лацінкаю яшчэ з другой палове XVI стагоддзя.

На завяршэнне яшчэ раз хачу сказаць, што кожны чалавек, які лічыць сябе сапраўдным грамадзянінам сваёй Бацькаўшчыны, павінен імкнуцца несці сам і запаліць жывы агеньчык любові да роднай мовы ў сэрцах сваіх блізкіх. А гэта, у сваю чаргу, нельга зрабіць без вяртання людзей да веры і чыстых хрысціянскіх традыцый. Без гэтага нашаму адраджэнню спатрэбіцца вельмі многа часу, і мы яшчэ доўга будзем блукаць у пустыні, аж пакуль не адродзіцца вера. Дзякуючы веры і сапраўднай любові да Бога нараджаецца любоў да бліжняга і Бацькаўшчыны. Бо ў Храме немагчыма не ўспамінаць у малітвах пра бліжніх, пра Богам дадзены край. Тады не так проста будзе чалавек таптаць старыя, адвечныя бацькоўскія традыцыі, ці разбураць храмы, ламаць на могілках крыжы, спадчынную, вялікую ці малую, гістарычную архітэктуру. Паламаўшы і разбурыўшы храмы ў краіне, сёння мы адчулі і зразумелі, што паламалі, разбурылі храмы ў душах і сэрцах людскіх. Гэтая адкрытая рана бачна ў многіх з нас, бо як за даўніх часоў мы не хадзілі ў храмы, каб памаліцца, паспавядацца, прыняць Святое Прычасце, так гэта прадаўжаецца і да сённяшняга дня. Ваяўнічы атэізм даўно ўжо знік, як знікае імгла з усходам сонца, а мы ўсё яшчэ жывём пад яго замбіраваннем.

Зайдзіце ж смела ў храм. Не бойцеся — ён чакае вас. Дзяды, бацькі вашы не баяліся храма, яны вельмі моцна цанілі і любілі храм, духоўнасць і Бога. Мы таму і разгубленыя ў жыцці, бо згубілі храм і духоўнасць. Калі ж хто знойдзе храм, знойдзе і веру. А знайшоўшы веру, знойдзе і сябе самога, і народ свой, і дапамогу Божую.

Давайце ж адбудуем нашы святыні, адродзім і адновім з Божай дапамогаю нашы душы. Паэт сказаў:

***Родная мова! Цудоўная мова!***
***Ты нашых думак выток і аснова,***
***Матчын дарунак ад самай калыскі,***
***Ты самацветаў яскравая нізка...***

Слова за табою, паважаны суайчыннік, хрысціянін, сын і дачка гэтай зямлі. Усё залежыць ад твайго сумлення і ад твайго асабістага прыкладу-жыцця.

**Уладыслаў ЗАВАЛЬНЮК, ксёндз-магістр, пробашч касцёла св. Сымона і св. Алены**

ЛЁСЫ

***"Нас лічыла за ворагаў кожная ўлада, таму мы і зведалі ганенні і ад палякаў, і ад камуністаў".***

***Так тлумачыць лёс сваёй сям'і Яўген Шыркавец — немалады ўжо чалавек, які жыве ў невялікім дамку на ўскраіне Оршы. Яго дом падобны да многіх іншых і гэтак жа падобны да многіх іншых альбом з сямейнымі фотаздымкамі, што зберагаецца ў доме. У альбоме — наклееныя на пажоўклы ад часу кардон здымкі блізкіх яму людзей.***

# Быў час, быў век, была эпоха

## БІЯГРАФІЯ АДНОЙ СЯМ'І

### БАЦЬКА

Ён нарадзіўся ў 1892-м годзе ў вёсцы Гірычы Ваўкавыскага павета на Гродзеншчыне і мог бы, як і іншыя яго землякі, пражыць там усё жыццё. Але лёс вырашыў інакш. У час Першай сусветнай вайны Язэп Шыркавец трапіў у царскае войска, даслужыўшыся да унтэр-афіцэра сапёрнай каманды. Пасля лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі ён актыўна ўдзельнічаў у салдацкім руху, нават быў абраны ў салдацкі камітэт і не дзіўна, што наступным этапам яго біяграфіі стала служба ў Чырвонай Арміі.

Але сапраўднай марай Язэпа Шыркаўца была праца на ўласнай зямлі. Вярнуўшыся з вайны, ён заняўся тым жа, чым займаліся яго бацькі і дзяды, — земляробствам. Працаваць было дзе — Язэп меў чатыры гектары ўласнай зямлі, яшчэ два складаў жончын пасаг, ды дзевяць гектараў ён збіраўся набыць у пані Твардоўскай, нават выплаціў за іх задатак і ўжо ўрабляў.

Тады родная вёска Язэпа апынулася з польскага боку мяжы. І Шыркавец, якому новая ўлада не магла даравать службы ў "чырвоных", патрапіў пад нагляд паліцыі — двойчы на тыдзень мусіў адзначацца ў пастарунку. Але ўвагу паліцыі да яго прыцягвала не столькі мінулае, колькі тагачасная дзейнасць селяніна, які быў актыўным удзельнікам Таварыства беларускай школы і МОПРа — прасавецкай арганізацыі дапамогі рэвалюцыянерам ды, у дадатак да ўсяго, супрацоў-нічаў з КПЗБ. У 1926-м Язэп Шыркавец стаў сябрам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, атрымаўшы партыйны білет N 18679.

Свой радыкалізм Язэп аплаціў мноствам арыштаў польскай паліцыяй і допытаў там. Дзіўна, але гэта яго не зламала. Дом Шыркаўцоў часта наведвалі аднадумцы, сярод якіх быў і Язэп (Іосіф) Урбановіч, які ў другой палове дваццатых гадоў звычайную адукацыю атрымліваў у Віленскай беларускай гімназіі, а палітычную — у хаце Язэпа Шыркаўца.

### ДЗЕЦІ

Іх Язэп і яго жонка Марыя, якая паходзіла з суседняй вёскі, мелі двох: Аляксандра, што нарадзіўся ў 1923-м, і Яўгена — 1932-га года нараджэння.

Пасля таго, як Аляксандр скончыў шэсць класаў школы, ён паступіў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію — тагачасны прытулак для дзяцей мясцовых беларускіх радыкалаў. Самым шанаваным у вачах хлопцаў настаўнікам гімназіі быў Барыс Кіт, як пісалі тады — Кіта, — будучы стваральнік паліва для амерыканскіх ракет. Добрыя ўспаміны пра свайго выкладчыка Аляксандр захаваў на ўсё жыццё.

Гэтак жа, як Барыс Кіт не быў шараговым выкладчыкам, Аляксандр не быў звычайным гімназістам. У вольны ад лекцыяў час ён часта бываў у віленскіх гістарычных архівах — вывучаў там дакументы з гісторыі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — краіны, што праз стагоддзі пасля свайго знікнення дала пачатак дзвюм дзяржаўным ідэям — беларускай і жамойцкай.

Нават у Вільні, далёка ад сям'і, сямейнае выхаванне давала сябе знаць. За ўдзел у хваляваннях Аляксандр мусіў быць выключаным з гімназіі. Але пасля просьбаў бацькі дырэктар гімназіі і будучы прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады Радаслаў Астроўскі звярнуўся ў Міністэрства адукацыі Рэчы Пасполітай з хадайніцтвам за свайго навучэнца. Гэта нечакана дапамагло — Аляксандра ў гімназіі аднавілі. Праўда, карысці з таго было няшмат. Неўзабаве польскую ўладу змяніла савецкая. Гімназічны курс Аляксандра не быў залічаны за сярэднюю адукацыю, і хлопец мусіў канчаць дзевяты і дзесяты класы рускай школы.

### СЯМ'Я

Яна сабралася разам на кароткі час, ці, дакладней, на адзін дзень — 19 чэрвеня 1941 года, калі Аляксандр, здаўшы апошні іспыт, прыехаў дадому. Потым адбылося тое, што адбылося з мноствам іншых людзей, блізкіх да рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

Уначы з 19 на 20 чэрвеня 1941-га супрацоўнікамі НКВД была арыштавана ўся сям'я Шыркаўцоў. На наступны дзень, 22 чэрвеня 1941 года, бацьку павезлі на расстрэл у Казіныя Горкі, што ля Ваўкавыска — мясцовы аналаг Курапатаў, дзе знішчаліся ворагі савецкай улады. У той жа дзень маці з дзецьмі павезлі ў турэмным вагоне на ўсход — у дваццацігадовую ссылку. Яны не ведалі, што іх муж і бацька аказаўся адным з нямногіх, што ўратаваліся пасля таго, як вязні і канваіры трапілі пад налёт нямецкай авіяцыі. Цудам ацалеўшы, Язэп вярнуўся ў родныя Гірычы.

Марыя, Аляксандр і маленькі Яўген апынуліся ў Нарыме Томскай вобласці, на ўсходзе Сібіры...

На гэтым іх гісторыя магла б скончыцца. Але маці і дзецям пашанцавала: у верасні 1941-га ім давялі, што яны — грамадзяне Польшчы і трапляюць пад амністыю. Аляксандр, які працаваў на лесапавале, звярнуўся да ўладаў з просьбаю накіраваць яго, як паляка, у армію генерала Андэрса. Аднак выбрацца з глыбіні Сібіры было няпроста. Пасля таго, як у пачатку зімы замерзла рака і скончылася навігацыя, Нарым аказаўся адрэзаным ад свету. Пэўна, былі і іншыя прычыны, каб затрымацца, і толькі ў 1943 годзе сям'я змагла пераехаць у Томск. І толькі тут Аляксандр нарэшце дамогся свайго. Ён пайшоў служыць у дывізію імя Тадэвуша Касцюшкі, сфармаваную з грамадзян Польшчы на тэрыторыі СССР.



Язэп ШЫРКАВЕЦ. 1960—1961 гг.

### ВЯРТАННЕ

Марыя Шыркавец з сынам Яўгенам вярнуліся дадому ўвосень 1944-га. Сустрэцца з мужам ва ўласнай хаце яна не здолела: той зноў быў арыштаваны. Другога лютага 1945 года ваенны трыбунал Гродна судзіў яго паводле артыкула 63-І "А" Крымінальнага кодэкса БССР — за агітацыю, якую той нібыта вёў супраць савецкай улады. Язэп быў асуджаны на дзесяць гадоў зняволення і на пяць гадоў паражэння ў правах.

Ён адсядзеў усе дзесяць гадоў, не трапіўшы пад амністыю пасля смерці Сталіна, і ў 1955-м вярнуўся да сям'і.

Памёр Язэп у 1962-м. Праводзіць яго ў апошнюю дарогу прыйшло багата яго землякоў — гэты чалавек пакінуў па сабе добрую памяць.



Яўген ШЫРКАВЕЦ. 1978 год.

### АЛЯКСАНДР

Ён прайшоў з дывізіяй Касцюшкі ўвесь яе шлях, пачаўшы ад першага бою пад беларускай вёскай Леніна, у якім загінула большая частка яго саслужыўцаў. Вайну Аляксандр Шыркавец скончыў афіцэрам, камандзірам батарэі самаходных гармат. Сярод ягоных шматлікіх узнагарод — найвышэйшая вайсковая адзнака Польшчы "Віртуці Мілітары" і савецкі ордэн "Чырвонай Зоркі".

Ведаючы пра лёс бацькі, Аляксандр не стаў вяртацца на радзіму і застаўся ў Польшчы. Там ён скончыў ваенна-медыцынскую акадэмію і ўсё жыццё працаваў лекарам: да пенсіі, на якую выйшаў у чыне падпалкоўніка Войска польскага — армейскім, потым — цывільным, у шпіталі каля Вроцлава. Памёр у 1981-м і быў пахаваны ў Вроцлаве адпаведна вайсковаму рытуалу. Незадоўга да смерці ў адным з польскіх выданняў была апублікавана яго аўтабіяграфічная кніга.



Аляксандр ШЫРКАВЕЦ. 1967 год.

### ЯЎГЕН

Вярнуўшыся разам з маці на радзіму, ён вучыўся ў школе. Настаўніцай там працавала аднакласніца яго брата па Віленскай беларускай гімназіі.

Пасля школы скончыў вучылішча чыгуначнікаў у Ваўкавыску і працаваў памочнікам машыніста. Потым, адслужыўшы ў арміі, вучыўся ў Бабруйскім аўтатэхнікуме. З 1960-га жыве ў Оршы, дзе на мясцовым аўтакамбінаце прайшоў шлях ад механіка да галоўнага інжынера. Завочна скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію. У 1992 годзе выйшаў на пенсію.

### УНУКІ

Сын Яўгена Шыркаўца Аляксандр жыве ў Оршы. Сын яго брата Аляксандра — Анджэй — кібернетык, доктар тэхнічных навук, жыве ў нямецкім горадзе Штутгарце. Яны ведаюць і памятаюць адзін аднаго, бо іхнія лёсы — таксама частка біяграфіі адной сям'і.

**Ігар ПУШКІН**



Навучэнцы Віленскай беларускай гімназіі. 1935 год.



Сын Аляксандра ШЫРКАЎЦА Анджэй з дзеткамі. 1991 год.



БІЛЕТ № 18679

Шыркавец

Язэп

па прафесіі земляроб

які пражывае ў в. Гірычы

Падароскае гміны

Ваўкавыскага

пошта Падароск

з'яўляецца сябрам Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Старшыня

Сакратар

Вільня, дня 15 верасня 1926 г.

Партыйны білет Язэпа ШЫРКАЎЦА. 1926 год.



ЧАСАПІС

## Уласная думка, уласны почырк

**Выставу твораў мінскага скульптара Аляксандра Крахалёва, што экспанавалася ў музеі сучаснай скульптуры імя А. Бембеля, у хуткім часе пабачаць жыхары Бялыніч. Яна размесціцца ў раённым мастацкім музеі імя В. Бялыніцкага-Бірулі. Гэта важная культурная падзея для невялікага мястэчка, але і ў сталіцы выстава не прайшла незаўважанай.**

**Творчы стаж скульптара — больш як трыццаць гадоў. За гэты час у нашым мастацтве неадночы змяніліся стылёвыя напрамкі, эстэтычныя і ідэйныя арыенціры. Аляксандра Крахалёва гэта не надта турбавала, бо ён заўжды меў уласную думку і ўласны почырк. Разам з тым па яго скульптурах можна вывучаць час. У нас звыкла падзяляюць пластыку на манументальную і станковую, як асобны від мастацтва трактуюць дэкаратыўную скульптуру. А вось творчасць А. Крахалёва — гэта сінтэз манументальнага і камернага, фігуратыўнага і абстрактнага. Ён у роўнай ступені ўдала працуе з каменем і металам. Ён не баіцца пазнаёміць гледача з "кухняй" творчасці, з ідэяй на стадыі эскіза. Такое ўражанне, што матэрыял (камень, бронза, гіпс) мае для скульптара самадастатковую каштоўнасць, і майстар найперш імкнецца выявіць канструктыўную аснову матэрыялу. Скульптура — гэта энергаёмістае, дарагое мастацтва. Як ніхто іншы, скульптар мае быць творчым дысцыплінаваным. Бо без ведання тэхналогіі кроку не зробіш. Але Аляксандру Крахалёву гэта не замінае выяўляць у "вечных" матэрыялах сваё ўяўленне аб хуткаплынным жыцці.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

## Сумесная акцыя

**Клічаўская зямля дала Беларусі многа слаўных імёнаў, у тым ліку і літаратурных. Тут нарадзіліся пісьменнікі Язэп Зазека, Анатоль Кудравец, Галіна Васілеўская, Леанід Дайнека, Мікола Татур, Марыя Шаўчонак. На гэтую зямлю і завітала днямі выязная прыёмная рэдакцыя газеты "Звязда" разам з прадстаўнікамі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Журналісты і прафсаюзныя работнікі прымалі людзей, выслухоўвалі іхнія скаргі, пажаданні і парады, як то кажуць, на месцы — у раённым цэнтры Клічаве, у калгасе "Нясяты", у Старавостраўскім сельсавеце.**

**А тым часам пісьменнік Аляксей Гардзіцкі, кіраўнік ансамбля "Мінскі гармонік" Іван Раманчук, салістка ансамбля Ірына Яцэвіч выступалі перад вучнямі клічаўскай сярэдняй школы N 2, навучэнцамі сельскагаспадарчага тэхнікума, у Доме культуры калгаса "Нясяты", у Старавостраўскай сярэдняй школе. Цікава, што старажылы Старога Вострава памятаюць, як гадоў пятнаццаць таму прыязджаў сюды Міхась Скрыпка, а яшчэ раней Кандрат Крапіва. Таму тут і было выказана пажаданне, каб у час такіх акцый, што ініцыруе "Звязда", не забываліся на "глыбінку".**

**Паездка атрымалася карыснай. Рэдакцыя "Звязды" плануе і надалей сумесна з Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі і Саюзам пісьменнікаў праводзіць такія выязныя мерапрыемствы.**

**Л. Г.**

## Фестываль еўрапейскага кіно

**У Мінску прайшоў III Фестываль еўрапейскага кіно. Яго нязменныя арганізатары — Беларускі фонд 100-годдзя сусветнага кіно, МГП "Кінавідэапракат" Мінгарвыканкама, ПП "Кінавідэапракат" Мінаблвыканкама прапанавалі гледачам лепшыя фільмы 1997 года: "Ледзяны вецер" Э. Лі (прыз за лепшы сцэнарый на Канскім кінафестывалі), "Стаўкі зроблены" К. Шаброля (Гран-пры і прыз за лепшую рэжысуру на МКФ у Сан-Себасцьяне), "Жывая плоць" П. Альмадовера (прыз Брытанскай кінаакадэміі 1998 года за лепшую рэжысуру), "Старыя песні" А. Рэнэ (сем "Сезараў" на Кінафестывалі ў Францыі), "Полымя жадання" У. Нікалсана (прыз за лепшую аператарскую работу на МКФ у Сан-Себасцьяне), "Канец насілля" В. Вэндэрса, "Дзяўчынка "Ніхто" А. Вайды, "Кітайская шкатулка" В. Вонга. Праграма фестывалю таксама дэманстравалася ў Маладзечне, Салігорску, Барысаве.**

**В. Б.**

ПАМЯЦЬ

# Забыты Брайцаў

УПЕРШЫНЮ пра Якуба Брайцава я пачуў ад свайго настаўніка Аляксандра Іосіфавіча Нікіценкі. Неяк прыехаўшы да бацькоў, я завітаў і ў яго гасцінную хату. Пагаварыць з ім заўсёды было цікава. Філолаг ад Бога, ён да канца сваіх дзён жыва цікавіўся літаратурай. У маладыя гады падчас вучобы ў Смаленску ён і сам спрабаваў пісаць, быў добра знаёмы з маладым Аляксандрам Твардоўскім. Памятаю, як ён заўсёды ўраўнаважаны і знешне спакойны, акуратны да педантычнасці, аднойчы зімовым ранкам спазніўся на ўрок. Мы адразу адчулі, што ён вельмі ўсхваляваны і нечым прыгнечаны. Такім нашага настаўніка мы яшчэ не бачылі. Ён уважліва паглядзеў на нас з-пад акуляраў сумнымі і, як мне здалося, крыху вільготнымі вачыма і сказаў дрыготкім голасам: "Сёння ў нас вялікае гора — памёр Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі!" І да канца ўрока, адступіўшы ад праграмы, чытаў вершы любімага паэта...

У той летні вечар мы заседзеліся аж да трэціх пеўняў. Мой настаўнік шчодра частаваў мяне мёдам — ён быў выдатны пчаляр — і з захапленнем гаварыў пра літаратурную карту Прыбяседдзя. І я цалкам падзяляў ягонае захапленне. Ды і як не захапляцца! Маркуйце самі: у Саматэвічах нарадзіўся Аркадзь Куляшоў, у Вялікім Бары — Іван Чыгрынаў, у Студзянцы — Аляксей Русецкі, у Мокрым — Масей Сяднёў, у Клеявічах — Леанід Левановіч, у Шарэйках — Міхась Губернатараў, у Альшове — Пятро Прыходзька, у Высокім Барку (няхай сабе і Краснапольшчына, але ж рукой падаць!) — Аляксей Пысін...

Адносна гэткай ураджайнасці на літаратурныя таленты ў Аляксандра Іосіфавіча была свая тэорыя і ён з задавальненнем цытаваў "Геаграфію" Смоліча: "Касцюковічы ляжаць у найпрыгажэйшай мясцовасці па-над Бесяддзю".

— Так, зямля наша бедная, як кажуць, пясочак ды лясочак, але ж прыгажосць, прыгажосць якая! Яна не магла не разбудзіць чулае сэрца. Будзіла і будзе, павер, будзе будзіць! — горача пераконваў стары апантаны філолаг. Хоць пераконваць мяне ў гэтым не было ніякай патрэбы — пераканаш ім і ахрышчаны ў ягоную веру я быў даўно, яшчэ з таго незапланаванага ўрока літаратуры, калі ён чытаў Твардоўскага.

— Слухай, усіх я, здаецца, памянуў, а свайго найбліжэйшага земляка забыў, Якуба Брайцава забыў... Гэта ж ты хлопец бялынкавіцкі, а мы з ім — забялышанскія! — скаламбурыў настаўнік. І тут жа дапытліва паглядзеў мне ў вочы: "А што ты ведаеш пра Брайцава?" І мне давялося густа пачырванець, як некалі чырванеў на ягоных уроках — пра Брайцава я не ведаў нічога.

— Забылі Брайцава, — сумна ўздыхнуў Нікіценка, — зусім забылі, а шкада: прыгожы быў чалавек!

Тым вечарам, а дакладней, той ноччу, мы дамовіліся, што ў наступны мой прыезд абавязкова з'ездзім з Хоцімшчыну ў ягоны Забялышын. На вялікі жаль, наступным летам ехаць у Забялышын мне давялося аднаму. Ехаў я пакланіцца адразу дзвюм магілам: майго незабыўнага настаўніка і забытага Брайцава.

●

Прызнаюся, што задумаўшы напісаць пра свайго забытага земляка, я загарэўся жаданнем хутчэй вывучыць яго біяграфію і нават тое-сёе занатаваў з успамінаў забялышанскіх старажылаў. Трэба сказаць, што гэтыя згадкі, як і ўвогуле большасць успамінаў, носяць напаўлегендарны характар. Што ж, відаць, такая спецыфіка гэтага жанру. Натуральна, як усякі даследчык, я падаўся ў архіў. Не буду казаць, што з'явіўся першаадкрывальнікам: да творчасці Якуба Брайцава ўжо не раз звярталіся даследчыкі, пра што сведчыць грунтоўны артыкул Генадзя Кісялёва ў біябібліяграфічным даведніку "Беларускія пісьменнікі". Дарэчы, у свой час Яўхім Карскі ягоную аповесць з беларускага жыцця "Багачы" назваў таленавітым творам, а Максім Гарэцкі палічыў патрэбным урывак з яе ўключыць у сваю "Хрэстаматыю беларускае літаратуры", нягледзячы на тое, што напісана аповесць па-руску. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Ва ўсім, што рабіў аўтар першай гісторыі нашай літаратуры, быў глыбокі сэнс. Вось як ацэньваў той час і тую сітуацыю, што склалася ў парэформеннай Беларусі сам Гарэцкі: "У канцы 80-х гадоў 19-га веку з'явілася прыкметнае ажыўленне беларускай думкі. З аднаго боку, пісьменнікі з каталіцкапанскай сферы, як Тапчэўскі, Абуховіч, А. Ельскі і інш., чуючы, як патроху слабне мёртвая пятля, накінутая Мураўёвым, пачалі хоць рукапісным спосабам, дый болей і болей урабляць беларускі грунт, створаны Марцінкевічам, і рыхтаваць яго для натуральнай перадачы ў рукі людзей зусім новай школы. З другога боку, і маскоўскія пісьменнікі, родам беларусы, прыйшлі на сваю ніву і сталі рабіць тое, што ўжо даўно рабілі польскія пісьменнікі — родам беларусы; яны сталі працаваць над беларусазнаўствам і, між іншым, сваёй этнаграфічнай, філалагічнай, гістарычнай і падобнай работаю тварыць зборальны час у гісторыі роднай літаратуры. Сталі з'яўляцца паважныя апісанні беларускага быту і ў маскоўскай народніцкай белетрыстыцы, як, да прыкладу, "Багачы" Брайцава, аповесць з беларускага народнага жыцця (1889 г.)".

Дык вось, на думку М. Гарэцкага, Якуб Брайцаў належаў да тых пісьменнікаў, якія тварылі **зборальны час** і тым самым рыхтавалі грунт для беларускага Адраджэння. Зразумела, што па сваім сацыяльным паходжанні Брайцаў быў далёкі ад "каталіцкапанскай сферы" і ў тым, што ён пісаў на расійскай мове, не малое значэнне мела геаграфія: нарадзіўся Якуб Раманавіч на самым усходзе Магілёўшчыны, як і сам Гарэцкі, і пісаць свае першыя творы пачаў пад уплывам рускай народніцкай літаратуры. І, вядома ж, на рускай мове. Словам, другога выйсця для творчай самарэалізацыі ў мужыцкага сына Якуба Брайцава не было. І не толькі ў Брайцава. У гэтым плане ёсць вельмі цікавы верш у Васіля Зуёнка:

*Раздарыла сыноў сваіх...*  
*Дастаеўскі, Міцкевіч, Біруля...*  
*З імі голас, і зрок, і слых*  
*Аддавала ў людзі матуля...*

*Раскідала зярняты свае...*  
*Слыў чылійцам вучоным Дамейка...*  
*Дзе, якія гнёзды віе*  
*Аж за трыдзевяць мораў зямелька?..*

*Нібы крык — авансцэны абрыў...*  
*І каб маці ўтрапёна маўчала —*  
*Гэтак голасна ў свет гаварыў*  
*Шверубовіч з Вільні — Качалаў.*



*Хтосьці зблізу забыў... Хто здалёк...*  
*І аднойчы маці сказала:*  
*Ты збяры, прысаром іх, сынок, —*  
*І тады ў людзі выйшаў Купала.*

У 1889 годзе да Купалы было яшчэ далёка — сыну Дамініка Луцэвіча Януку было ўсяго толькі сем гадоў, а да Багушэвічавай "Дудкі беларускай" трэба было жыць яшчэ тры гады.

Так, Якуб Брайцаў пісаў па-руску, але пісаў на беларускім матэрыяле. І гэты матэрыял ведаў дасканала. Ён першым у літаратуры паказаў нялёгкае жыццё ўсходнебеларускай парэформеннай вёскі і стварыў яркія тыпы яе прадстаўнікоў. Чытаючы ягоныя творы, штораз спатыкаешся на такія наскія слоўцы, як **бульба, ланцуг, крупеня, сведка, туга**, з асалодай смакуеш знаёмыя з маленства дыялектызмы **ратуй-**

# Вечны пілігрым

ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Міколы ЛУПСЯКОВА

Заўсёды, калі еду вуліцаю імя Багдана Хмяльніцкага ў Гомелі, стараюся з акна тралейбуса зірнуць на дом, што стаіць непадалёк ад скрыжавання з вуліцаю Цыялкоўскага. У гэтым доме (тады вуліца насіла імя Сталіна) я некалі кватараваў з сям'ёю. Сюды часцяком са сваіх штомесячных вандровак завітваў да мяне Мікола Лупсякоў.

— Ведаеш, зараз я, нібы праз сон, успамінаю, — аднойчы прызнаўся ён мне, — як рыхтаваў да друку ў часопісе "Бярозка" тваё апавяданне "Чырвоная Зорка".

І сапраўды — тады, неўзабаве пасля вайны, Мікола Радзівонавіч працаваў намеснікам рэдактара "Бярозкі" (рэдактарам быў Алесь Якімовіч). У той час з'явілася "мода" — пісаць творы пра мір, пра тое, у якім бядотным стане знаходзяцца дзеці ў многіх замежных краінах. Вось і я, грэшная справа, напісаў апавяданне пра італьянскага хлопчыка, хоць у Італіі ніколі не быў.

Але да таго часу, як Мікола Лупсякоў — вечны пілігрым і вандроўнік то са Стрэшына, то аж з Карэльскага перашыйка, то з Волга-Данскога канала, а то нават з горада Горы ў Грузіі паяўляўся ў Гомелі на вуліцы Сталіна, ён не быў падобны на намесніка рэдактара. Скамячаны плашч, выцвілы, няпэўнага колеру трэніровачны касцюм (штаны, футболка на "маланцы") — такім прывыклі бачыць Міколу Лупсякова члены майго сямейства і гаспадыня дома. Урэшце не гэта было галоўным. Асноўным было тое, што звычайна са сваіх вандровак Мікола Радзівонавіч прывозіў цікавыя высокамастацкія апавяданні і падарожныя нарысы ("Легенда пра Гарыйскую крэпасць Тонцію", "Букет ружаў", напрыклад). Многія з гэтых твораў друкаваліся на старонках абласной "Гомельскай праўды", дзе я тады працаваў.

Часам пра пісьменніка не было чуваць па некалькі месяцаў. Звычайна ў гэты час ён забіраўся аж на далёкі Карэльскі перашыек, дзе яго бацька — жыхар Стрэшына — вартаваў дачу аднаго вядомага прафесара Хілова з Ленінграда. Аднойчы ён расказваў мне, як залез у адзін пакінуты з часоў Вялікай Айчыннай вайны бліндаж і пісаў там аповесць "Пабіраха". Пагранічнікі выявілі ў тым бліндажы няголенага чалавека з паперай. У Лупсякова не было аніякіх дакументаў, і яго прывялі на дачу прафесара. Пагранічнікі нямала дзівіліся, разглядаючы подпіс Аляксандра Фадзеева на пісьменніцкім білеце Лупсякова. "Пішыце, — сказалі яны. — Толькі не забірайцеся так блізка да мяжы. Вунь за тымі сопкамі — Фінляндыя..."

Мікола Лупсякоў быў выдатным майстрам апавядання. Помніцца, як адзінадушна адгукнулася крытыка на яго цыкл "Вясковыя паданні" ("Міхалапіха", "Грабскі хутар", "Галаўні", "Паданне пра кніжніка", "Званары"). Не меншую цікавасць у крытыкаў і чытачоў выклікала і згаданая аповесць Міколы Лупсякова "Пабіраха". Яна друкавалася ў часопісе "Маладосць". Лёс маладой дзяўчыны, яе чалавечая годнасць, змаганне за ўласнае шчасце — вось асноўны змест гэтага светлага і адметнага твора.

Нарадзіўся Мікола Радзівонавіч Лупсякоў 4 сакавіка 1919 года ў Маскве. У 1921

**те, батюхна, несломак, людечки.** А беларускімі прыказкамі і прыслоўямі шчодра прасыпана мова яго герояў: **"Коли не подъеси, то и святых продаси", "Ни с тиха, ни с лиха"...**

Словам, ні зблізку, ні здалёк у адрозненне ад блудных дзяцей Беларусі, Якуб Брайцаў не забываў, хто ён і адкуль ён. Пісьменнік заўсёды быў верным сынам сваёй зямлі і яна шчодра сілкавала яго самабытны талент.

Архіў Брайцава — яго ў ЦДАМЛІМ перадаў знакаміты вучоны, прафесар Маскоўскага мединстытута сын пісьменніка Васіль Якубавіч Брайцаў — уразіў сваім багаццем. Сярод мноства унікальных дакументаў мне трапілася найцікавейшае даследаванне вядомага ў свой час гісторыка Ф. Н. Дамінікоўскага "Белоруссия в произведениях Я. Р. Брайцава". Дарэчы, на аснове яго ў 1947 годзе ў трэцім нумары часопіса "Беларусь" Дамінікоўскі змясціў артыкул "Пісьменнік старой Беларусі". Азнаёміўшыся з ім, я вырашыў, што мне не варта зноўку вынаходзіць веласіпед. Паасобныя моманты гэтага даволі грунтоўнага (праўда, не без налёту тагачаснай сацыялогіі) даследавання, напісанага вопытнай рукой прафесіянала, думаецца, будуць цікавыя і нашаму чытачу:

"Скончыўшы пачатковую школу ў родным сяле і потым павятовае вучылішча ў Клімавічах, Брайцаў нейкі час працаваў у якасці памочніка пісара Забялышанскага павятовага ўпраўлення. Калі яму было 18 год, ён паехаў на Украіну на заробкі ў Трасцянец-Падольскі і там працаваў канторшчыкам на цукраварні памешчыка Цярэшчанкі. У Трасцянцы Брайцаў напісаў першае сваё апавяданне "Печать Каина" або "Дудалева лоза" (1884 год).

Праз два гады Брайцаў вярнуўся ў сваё сяло на прызыў у салдаты, але як старэйшы сын быў вызвалены ад службы. У хуткім часе па ўласнай ініцыятыве і наперакор бацьку, ён паехаў шукаць шчасця ў Маскву. Паехаў разам з нявестай — фельчарыцай мясцовай бальніцы. У дарозе, на паштовай станцыі Звянчатка (зараз у Клімавіцкім раёне на шашы Крычаў—Рослаў), адбылося іхняе вяселле.

У Маскве Брайцаў пачаў працаваць у канторы вядомага купца-кветкавода Ф. Ф. Ноева і ў хуткім часе атрымаў пасаду бухгалтара. Адначасова ён узмоцнена вывучае рускую мастацкую літаратуру, займаецца ў Румянцаўскай бібліятэцы і піша вялікую аповесць "Богачи" (повесть из белорусской простонародной жизни), якая выйшла з друку ў 1889 годзе.

Адначасова Брайцаў піша шэраг іншых аповесцей: "Невдашечка Анюта" (1887 г.), у назве якой, каб адзначыць мясцовы каларыт, ужывае беларускае слова замест звычайнага рускага "неудачница", "Старая деревня" і другія, якія апісваюць побыт і тыпы роднага сяла і павятовага горада Клімавічы ў 1870-х гадах.

Набыўшы грошы праз службу і выданне "Богачей", Якуб Раманавіч аказваў матэрыяльную дапамогу сваім братам, якіх выпісаў з глухога кутка Беларусі і даў ім вышэйшую адукацыю.

Дзейнасць бухгалтара яго незадавальняла. Ён пазнаёміўся з рускімі пісьменнікамі, наведваў Льва Талстога, які зрабіў пэўны ўплыў на фарміраванне яго філасофскага светапогляду. Разам з гэтым пісьменнік пачаў вывучаць кветкаводства, потым зрабіўся адвакатам і, нарэшце, рашыў адчыніць уласны кветкавы магазін. Аднак ён хутка прагарэў, страціў усе матэрыяльныя сродкі, сабраныя за доўгі час. У гэтыя гады памёр яго бацька, і пісьменнік у 1890 годзе паехаў на радзіму, у Забялышын.

...Якуб Раманавіч зрабіўся хадатаем за бяздольных бедакоў. Больш папулярнага чалавека не было ва ўсім Клімавіцкім павеце. Пасля 1917 года ён працуе спачатку сакратаром Забялышынскага валаснога, потым — Клімавіцкага павятовага выканкома, і, нарэшце, займае пасаду павятовага пракурора...

У 1925—26 гг. Якуб Раманавіч зноў пачаў займацца літаратурнай працай. Ён напісаў аповесць "Хозяин", друкаваў артыкулы ў "Крестьянской газете" і нават вершы. Быў прыняты ў члены Усерасійскага Саюза сялянскіх пісьменнікаў. Пісьменнік памёр у 1931 годзе ў Забялышанскай бальніцы і быў пахаваны на вясковых могілках сярод сваіх аднавяскоўцаў, тыпы якіх выводзіў у сваіх творах".

●

Магілу Брайцава я знайшоў даволі хутка і з гэтай прычыны нават трохі расчараваўся. Дарогай я ўяўляў, як буду доўга блукаць па старым забялышанскім кладзішчы, прадзіраця праз густы калючы малпіннік, перамагаючы спакусу паласавацца спелымі ягадамі, распытваць пажылых забялышанцаў і ўдосталь смакаваць родную ўсходне-магілёўскую гаворку. А ў сапраўднасці ўсё аказалася больш проста і празаічна. Варта было прайсці колькі крокаў ад магілы майго настаўніка, як я амаль адразу наткнуўся на акуратны, з густам зроблены помнік. Як толькі зірнуў на барэльеф, у памяці тут жа ўсплылі словы Нікіценкі: "Прыгожы быў чалавек..."

Прыгожым чалавекам застаўся Якуб Раманавіч і ва ўспамінах аднавяскоўцаў. Валянціна Аркадзьеўна Шаршнёва і Іван Ільіч Зонтаў ахвотна паказалі мне хату Брайцава і Брайцава возера. Прыемна ўразіла, што забялышанцы не толькі шануюць памяць земляка, але і чыталі яго творы. Пагаварылі пра "Няўдашачку Анюту", згадалі "Бадылёву лазу" і раман пра высакароднага разбойніка Алеся Савіцкага "Сярод балот і лясоў". Аказваецца, пры мясцовай школе ёсць музей пісьменніка, і там можна ўзяць копіі рукапісаў.

— Справядлівы быў чалавек, царства яму нябеснае! Мужыцкі аблакат...

— Во таму і раскулачылі, што справядлівы!

— Як жа было не раскулачыць — цвяты ж разводзіў...

— Пра дзядоў ды прадзедаў нашых пісаў ды нешта тых кніжак нідзе не відаць...

Наконт кніжак нічога суцяшальнага землякам Якуба Раманавіча я, на жаль, сказаць не мог — на той час яшчэ не ведаў, што выдавецтва "Беларускі кнігазбор" плануе выдаць том яго прозы "Сярод балот і лясоў".

Слухаючы зычлівых забялышанцаў, я радасна падумаў, што вяду размову з нашчадкамі герояў Якуба Брайцава, якіх ён шчыра любіў і выводзіў у людзі, быў іхнім песняром і адвакатам.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

---

годзе сям'я вярнулася на радзіму — у вёску Папаратнае, што на Жлобіншчыне. Перад самай вайной Мікола Лупсякоў скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Тады ж зрабіў і першыя літаратурныя крокі: у альманаху "Аднагодкі" было змешчана яго апавяданне. Яно было станоўча ацэнена Кузьмой Чорным.

У гады Вялікай Айчыннай вайны пасля вучобы ў Смаленскім артылерыйскім вучылішчы Мікола Лупсякоў удзельнічаў у баях пад Масквой, на Цэнтральным, Варонежскім франтах, пад Харкавам. У сакавіку 1943 года быў цяжка паранены і пасля лячэння дэмабілізаваны. (Медаль "За адвагу", якім вельмі ганарыўся пісьменнік, ён не раз мне паказваў; праўда, насіў яго не на лацкане пінжака, а... у партманеце.)

Памёр Мікола Лупсякоў у 1972 годзе.

З-пад яго таленавітага пяра выйшла шмат высокамастацкіх кніг. Варта тут назваць зборнікі "Першая атака", "Мост", "Дружба", "Чырвоны бераг", "Дняпроўская чайка", "Паядынак", "У вераб'іную ноч", "Ля пераправы" і іншыя. "Чырвоны бераг" і "Паядынак" Мікола Радзівонавіч падараваў мне. Сапраўдную асалоду атрымліваеш заўсёды, калі перачытваеш "Вясковыя паданні" або апавяданні "Чырвоны бераг", "Рыбакі", "На вірах". Аўтар іх да самазабыцця любіў прыроду. Любіў падоўгу сядзець з вудамі ў Клёнках каля Сожа і пільна сачыць за палаўком.

— Нішто так не лечыць чалавечую душу, як прырода, — часта любіў паўтараць пісьменнік.

Гэтая любоў і замілаванне асабліва выразна праявіліся ў яго цудоўным апавяданні "Дняпроўская чайка". Гэта — сапраўдны гімн прыродзе і чалавеку.

У "Старонках з біяграфіі", напісаных у лістападзе 1964 года, Мікола Лупсякоў пісаў: "Яшчэ і цяпер, выпусціўшы больш дзесятка кніг, я, на вялікі жаль, не магу лічыць сябе пісьменнікам. Шмат трэба добрага зрабіць, каб нарэшце адчуць пісьменніцкую сталасць і годнасць... Найбольш удалымі з маіх кніг лічу "Першую атаку", "У вераб'іную ноч", "Дняпроўскую чайку", "Паядынак", цыклы апавяданняў "Вясковыя паданні", "На берагах Дняпра" і аповесць "Я помню" — для дзяцей..."

Шкада, вельмі шкада, што рана пайшоў з жыцця гэты самабытны чалавек і пісьменнік.

На падараванай у 1955 годзе кнізе "Чырвоны бераг" Мікола Лупсякоў надпісаў: "...з просьбай іншым разам успамінаць мяне, і з вялікай падзякаю за падтрымку ў неспакойным і цяжкім маім жыцці". Захацелася добрым словам успомніць гэтага цікавага чалавека і таленавітага пісьменніка.

**Міхась ДАНІЛЕНКА**

---

# Аляксандр МЕЛЬНІКАЎ

12 лютага 1999 года пайшоў з жыцця вядомы беларускі паэт Аляксандр Мельнікаў.

Аляксандр Пятровіч Мельнікаў нарадзіўся 7 студзеня 1936 года ў вёсцы Васількі Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці.

Вучыўся у Галаўчынскай сярэдняй школе і Ленінградскім санітарна-гігіенічным медыцынскім інстытуце (1961). Затым працаваў лекарам радыялагічнай групы Магілёўскай абласной санітарна-эпідэміялагічнай станцыі, у беларускім НДІ экалагічнай і прафесійнай паталогіі.

У друку з вершамі пачаў выступаць з 1966 года. Пісаў на рускай мове. Вершы друкаваліся ў газетах і часопісах "Правда", "Магілёўская праўда", "Медицинская газета", "Аврора" і іншых. Перыядычна змяшчаў творы ў зборніках "Дзень паэзіі".

Аўтар кніжак вершаў "Спасибо, жизнь" (1977), "Три слова" (1980), "Земля надеется" (1996).

Вершы Аляксандра Мельнікава вызначаюцца цеплынёй і шчырасцю, свежасцю думкі, вобраза, усхваляванасцю пачуццяў. Галоўным у творчасці была тэма роднай бацькоўскай зямлі, чалавека працы, духоўнага свету маладога сучасніка.



Добрая памяць аб паэце, чалавеку высокай маралі, душэўнай дабрыні назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

---

УГОДКІ

# Памяць ад слова памятаць

Жлобіншчына ўрачыста адзначыла 75 гадоў з дня нараджэння свайго земляка, вядомага пісьменніка Аляксандра Капусціна, які родам з вёскі Старая Рудня. Да тых, хто працай сваёй хораша праславіў родны кут, з пашанай ставяцца ў многіх рэгіёнах Бацькаўшчыны. Аднак у гэтым выпадку любоў, калі можна так сказаць, узаемная. Аляксандр Пятровіч пастаянна падтрымліваў цесныя сувязі са сваімі землякамі, якія з асаблівай павагай ставіліся да яго. А. Капусціну было прысвоена званне ганаровага грамадзяніна Жлобіна — не ў апошнюю чаргу за актыўны ўдзел у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на акупіраванай ворагамі тэрыторыі раёна: у чэрвені 1942 года ён стварыў у роднай вёсцы камсамольска-маладзёжную падпольную групу, а пасля быў у партызанах, адтуль пайшоў у дзеючую армію. У Жлобіне выйшла чатыры кнігі Аляксандра Пятровіча (чаму б не павучыцца гэтаму кіраўніцтву іншых раёнаў?!). Пятая ж "Аляксандр Капусцін. Старонкі памяці" — зборнік успамінаў пра А. Капусціна, яго неапублікаваныя творы, пісьмы жонцы Эміліі Іванаўне (пра гэтую кнігу мы падрабязней раскажам яшчэ) — выйшла ў юбілейныя дні.

А ўшанаванне пачалося з наведвання гарадскіх могілак, дзе А. Капусцін знайшоў свой вечны спачын. Поруч магілы яго маці, зусім нядаўна пакінуўшая свет брата... Даніну памяці выдатнаму земляку аддалі мясцовае кіраўніцтва, пісьменнікі і журналісты з Гомеля, у тым ліку старшыня абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Ткачоў, старэйшы літаратар М. Даніленка. На ўрачыстасці прыехала і прадстаўнічая дэлегацыя з Мінска: старшыня Саюза пісьменнікаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Някляеў, намеснік старшыні Навум Гальпяровіч, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" У. Ліпскі, літаратары Уладзімір Федасеенка, Уладзімір Скарынкін, Леанід Леванові ч, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Зэкаў, Алесь Марціновіч, журналіст Зоя Каваленка. І, зразумела, родныя і блізкія Аляксандра Пятровіча...

Урачысты вечар прайшоў у актавай зале сярэдняй школы N 13 г. Жлобіна. Яшчэ раз перагарнуць старонкі творчасці любімага пісьменніка, больш даведацца пра яго жыццё, прыйшлі прадстаўнікі грамадскасці горада, вучні і настаўнікі, работнікі культуры... Кампазіцыя вечара была пабудавана такім чынам, што афіцыёз, характэрны ў падобных выпадках, адсутнічаў. У зале і на сцэне панавала шчырая, сяброўская, нават хатняя атмасфера. Гучалі ўспаміны пра Аляксандра Пятровіча, урыўкі з яго твораў і вершы, прысвечаныя яму. Была зачытана тэлеграма малодшага сябра А. Капусціна, цяпер Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Румыніі А. Бутэвіча, які ў свой час працаваў разам з ім у Беларускім тэлеграфным агенцтве (БЕЛТА). Прыязныя словы пра А. Капусціна сказаў і старшыня Жлобінскага гарвыканкама У. Ерафееў, з якім пісьменнік асабліва шмат кантактаваў пры наведванні Жлобіна.

Дзеля ўшанавання знакамітых землякоў Гомельская абласная пісьменніцкая арганізацыя ўстанавіла літаратурныя прэміі ў чатырох намінацыях. На вечары адбылося першае ўручэнне прэміі імя Аляксандра Капусціна. Лаўрэатам яе стаў М. Даніленка. Так высока адзначаны яго публікацыі ў часопісах і газетах апавяданняў, кароткіх гісторый, публіцыстычных артыкулаў.

А яшчэ гучалі папуры на вядомыя ваенныя песні, якія так любіў Аляксандр Пятровіч, мелодыя свірыдаўскай "Мяцеліцы", якая, дарэчы, чулася і ў кастрычніку 1996 года, калі жлобінцы развіталіся са сваім земляком. Эмілія Іванаўна па завяшчанні мужа перадала бібліятэцы школы (У. Ліпскі ў час свайго выступлення зазначыў, што было б добра, калі б гэтай бібліятэцы, а то і ўсёй школе было прысвоена імя А. Капусціна) каля 200 кніг з яго асабістага збору. Свае кнігі з аўтографамі падарылі і госці-літаратары. А многія прысутныя атрымалі на памяць кнігі А. Капусціна "Усміхнуўся месяц ясны", выдадзеную ў Жлобіне і "Усяму беламу свету", выпушчаную "Мастацкай літаратурай", карэктуру якой пісьменнік атрымаў за некалькі гадзін да сваёй раптоўнай смерці, а таксама "Аляксандр Капусцін. Старонкі памяці", нумар жлобінскай аб'яднанай газеты "Новы дзень", у якім дзве паласы займаюць юбілейныя матэрыялы.

**Н. К.**

---

# У вянок Майстру

Гэтымі днямі сябры, калегі, прыхільнікі высокага музычнага мастацтва ўшаноўвалі памяць выдатнага скрыпача, народнага артыста Беларусі Льва Гарэліка. 16 лютага яму споўнілася б 70, але музыкант некалькі гадоў недажыў да свайго юбілею, пакінуўшы зямны свет у росквіце выканаўчага таленту, захоплены цікавымі творчымі праектамі як эрудзіраваны інтэрпрэтатар і рэдактар нотных тэкстаў...

Памяці Майстра прысвячаўся нядаўні спектакль "Лебядзінае возера" ў Вялікім тэатры Беларусі, канцэртмайстрам аркестра якога Леў Гарэлік быў не адзін дзесятак гадоў. Многія заўсёднікі опернай залы і аматары балета памятаюць пранікнёныя сола ягонай скрыпкі. Рознабаковасць гэтага музыканта, якому былі падуладныя і віртуозныя маштабныя палотны, і далікатныя камерныя мініяцюры, які не цураўся і працы над партытурамі для тэатральных "капуснікаў", выяўляючы дзівоснае пачуццё гумару і густ, — усё гэта згадвалася і падчас канцэрта ў сталічнай Зале камернай музыкі 22 лютага. Яго наладзілі артысты Акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі.

**Н. К.**

ПАМЯЦЬ

***У “ЛіМе” ад 14 жніўня мінулага года я пісаў пра наш святы абавязак стварыць энцыклапедыю рэпрэсіраваных пісьменнікаў. У 30-я гады “капцюры ГПУ” дацягнуліся амаль да кожнага з больш чым двухсот беларускіх пісьменнікаў. Па сённяшніх звестках НКУС не закрануў толькі “класікаў” — А. Куляшова, П. Глебку, П. Броўку, М. Лынькова, К. Крапіву, Я. Маўра, З. Бядулю, Іл. Барашку, Э. Агняцвет і яшчэ некалькіх менш вядомых аўтараў. Я. Купалу і Я. Коласа пад увагу не бяром, добра ведаючы іх лёс пасля кастрычніцкага перавароту. Не ўлічваем і Л. Бэндэ, М. Клімковіча, А. Кучара і інш. няштатных (а можа, і штатных) памочнікаў рэжыму. Па вядомых абставінах не падпадае сюды М. Танк і іншыя паэты ды празаікі з Заходняй Беларусі. Такім чынам, атрымліваецца, што энцыклапедыя рэпрэсіраваных пісьменнікаў — гэта фактычна энцыклапедыя беларускіх пісьменнікаў “першага прызыву” (1917—1937 гг.), які ў сваю чаргу складаецца з перыяду “адноснага рэнесансу” (фраза У. Глыбіннага-Сядуры) 1920—1929 гг., і перыяду, калі “прачнулася” бальшавіцкая рэакцыя. У 1937 годзе (мабыць, у гонар 20-годдзя кастрычніцкага перавароту) пачалося татальнае знішчэнне інтэлектуальнай беларускай эліты.***

***За мінулы час былі сабраны ўдакладненыя біябібліяграфічныя і інш. матэрыялы з жыцця і творчасці большасці рэпрэсіраваных пісьменнікаў, і праца над энцыклапедыяй вядзецца далей...***

***Прапаную ўвазе чытачоў “ЛіМа” газетны варыянт артыкула “Макар Шалай”, падрыхтаванага для будучай энцыклапедыі рэпрэсіраваных пісьменнікаў.***

# “Ён нямысліў сябе без спрэчак...”

Крытык Макар Шалай нарадзіўся 17 лютага 1906 г. у вёсцы Цельцы на Полаччыне ў сялянскай сям’і. Скончыў партыйную школу ў Віцебску. У 1925—1926 гг. працаваў сакратаром Нардома пры выканкаме г. Расоны (загадчыкам быў Я. Відук-Скрыган). Член “Беларускай літаратурна-мастацкай камуны” (1927—1928).

Друкаваўся ў часопісе аб’яднання “Беларуская Літаратурна-Мастацкая Камуна” (створана 21 снежня 1927 г.) — “Росквіт” (рэдактар — П. Шукайла). Выступаў з рэцэнзіямі на творы П. Броўкі, А. Александровіча, Я. Скрыгана, Г. Брэскай і інш. Напрыклад, пра малавядомую, толькі пачынаючую сяброўку “Маладняка”, але таленавітую “полацкую прыгажуню” (словы В. Маракова) Ганну Брэскую М. Шалай адным з першых (адначасова з М. Гарэцкім) звярнуў увагу: “Трэба зазначыць досыць сур’ёзныя адносіны Брэскай да фармальнай апрацоўкі сваіх вершаў...” Нажаль, у часы першых “пісьменніцкіх” арыштаў панікла і “полацкая прыгажуня”.

Ёсць сведчанні аб публікацыях М. Шалая і ў другіх выданнях, якія пакуль не выяўлены.

У 1928 г. (разам з Я. Скрыганам) пастапіў у БДУ (пры дапамозе наркама асветы А. Баліцкага і П. Шукайлы).

З успамінаў Я. Скрыгана: “Я жыў з Макарам Шалаем, чалавекам нястрымнага запалу спрэчак. Ён назубок ведаў класікаў марксізму, Чарнышэўскага, Герцэна, Дабралюбава, Пісарава, Пляханава і логікай іх мыслення збіваў з ног любога праціўніка. Ён нямысліў сябе без спрэчак і шукаў толькі такога асяроддзя...

Мы, асабліва Макар Шалай і Апанас Сідарэнка, заспрачаўшыся па якой кнізе, ці па якому пытанню эстэтыкі, маглі забыць на абед, на вячэру, хапацца за чубы, прасядзець усю ноч, плаваючы ў сінім дыме...”

У 1928 г. М. Гарэцкі пісаў: “У Шалая добра выяўлены марксісцкі падыход у працы”.

Паводле апісання сучаснікаў Макар Шалей быў вышэй сярэдняга росту, рыжавалосы, рабацiністы. Заўсёды “ў гальштуку, пры касцюме. Акуратны, стрыманы” (П. Пруднікаў). Крытыкам быў вельмі “зубатым, прыдзірлівым, патрабавальным” (С. Грахоўскі). У восенню 1928 г. М. Шалай стаў сябрам “Маладняка”, потым БелАППа.

Восенню 1936 года “марксіст” М. Шалай быў арыштаваны і апынуўся у мінскай унутранай турме, т. зв. “амерыканцы”. Там ён у розныя часы знаходзіўся ў адной камеры з пісьменнікам Алесем Пальчэўскім і крытыкам Сымонам Куніцкім. Нават у камеры “крытык-спрачальнік” Шалай з крытыкам “які перавучыўся” (так пра сябе казаў Куніцкі), нягледзячы на ўсе жахлівыя абставіны, працягвалі спрачацца аб літаратуры...

Дзякуючы ўспамінам Я. Лешчанкі (М. Кавыля) цяпер мы маем магчымасць уявіць як, напрыклад, увахoдзіў у “марксісцкую” камеру былы “марксіст” і студэнт універсітэта, а цяпер ужо “проста нацдэм” і “вораг народа”, М. Шалай: “...Адчынілі жалезныя дзверы чацвёртай камеры. ...Із камеры мне дыхнула такім смуродам, што я ледзь утрымаўся на нагах. Як п’яны, апусціўся тут жа каля дзвярэй на нары, паміж нейчых худых, як у рахіта ног. Паглядзеў на вялікую камеру. На нарах, на цэмэнтовай падлозе адзін каля аднаго ляжаць, хто на баку, хто на спіне нейкія стварэнні із Дантавага хіба “аду...”.

Пра далейшы лёс М. Шалая недзе ў сярэдзіне — канцы 40-х гадоў даведаўся ад аднаго з жыхароў лагера ў Ватэнштэце (Нямеччына): “...Ніхто так не кпіў над следчымі (які трэба было мець характар, каб “кпіць над следчымі” ў вышэйпрыве-дзенай абстаноўцы. — **Л. М.**), як Макар Шалай. Зразумела, што гэтыя кпіны ён часцей падаваў пад такой сафістычнай падліўкай, што не адразу можна было адчуць усю горкасць прыгатаванае ім ежы. А часам і проста абсячэ следчага, што той нават не ведае, што далей пытацца ў яго. Такім чынам ён абышоў усіх старых дасведчаных следчых і нарэшце натрапіў на маладога практыканта.



Калі практыкант, які прыйшоў на пасаду следчага адразу ад варштату, зірнуў на Шалая, дык вельмі ўзрадаваўся. Перад ім стаяў з вельмі пакорлівым выразам на твары сціплы юнак. Практыкант нават усміхнуўся, бо нельга было сумнявацца ў тым, што ягоны дэбют пройдзе паспяхова.

На ўсе рашучыя запытанні практыканта Шалай даваў самыя падрабязныя адказы. На пытанне:

— А скажыце, вы сапраўды хацелі адарваць БССР ад СССР?

Шалай адразу адказаў:

— А як жа — зразумела, хацелі.

— І далучыць яе да Польшчы? — падказаў практыкант.

— Не, чаму да Польшчы, — нават абурыўся абвінавачаны, — крый Божа нас ад гэтага. Мы хацелі далучыць яе да Індыі.

І практыкант, для якога Індыя з’явілася “тэрра інкогніта”, з паслухмянасцю фанографа запісаў гэты адказ.

У гэты момант у пакой увайшоў стары следчы.

— Ну як? — запытаўся ён у практыканта і той задаволена адказаў:

— На пяць з прысыпкай. Прызнаўся ва ўсім.

Следчы спадылба зірнуў на Шалая, як на свайго старога знаёмага, неяк недаверліва гмыкнуў і пачаў чытаць пратакол следства. А Шалай тым часам сядзеў на крэсле з выглядам пераможанага, які нарэшце не вытрымаў усяго ціску незапярэчных фактаў.

Калі следчы дайшоў да Індыі, ягоны твар пачырванеў...

Следчы з лаянкай вытурыў практыканта вон і з яшчэ большай лаянкай накіраваў Шалая ў карцэр...

...На вуліцах аднаго з беларускіх наддзвінскіх мястэчкаў яшчэ перад самай вайной можна было сустрэць дзіўнага чалавека. Абадраны, без шапкі, босы, аброслы барадой — ён ішоў, не звяртаючы аніякае ўвагі на вакольнае. Ён не пазнаваў ні сяброў, ні знаёмых і не адказваў на іхнія цёплыя прывітанні. Гэта было ўсё, што засталося ад Макара Шалая пасля нялюдскіх катаванняў. І досыць было пачуць ягоны смех, каб адразу сціснуліся кулакі на тых зацятых ворагаў беларускага народа, якія бязлітасна загасілі яшчэ адзін вялікі талент”.

Па сведчанні супрацоўнікаў КДБ РБ у архіўным аддзеле асабістай справы на Макара Шалая няма.

**Леанід МАРАКОЎ**

**P. S.** Аўтар будзе вельмі ўдзячны за любую інфармацыю пра лёс беларускіх пісьменнікаў, загубленых у сталіншчыну. Адрас для кантактаванняў: Moryakov a poetry.belpak.minsk.by.

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Нічога нямашака за спінамі аднакашнікаў. Ну, вучыліся разам, атрымалі пасады, а тады, а тады — пустыя ішлі гады. Недзе там корпаліся, у нечым там порпаліся, затое якія грунтоўныя ўспаміны пішуць цяпер адно пра другое. І гэта, і тое, і “я”, і “мы” — цэлыя набіраюцца тамы.

●

— Дзед, што было раней — яйка ці курыца? Калі яйка, дык хто яго знёс, калі курыца, дык адкуль яна вылупілася? — Не ведаю, хлопча, хто цябе дурыць, але раней было ўсё — і яйкі, і куры. Ты лепш набярыся смеласці і спытайся, куды яно дзелася.

●

Мова нашых магазінаў — “Куды лезеш, мужчына”... “Больш аднаго кілаграма ў адны рукі не даваць”... “Вы тут не стаялі”... “Мне можна без чаргі”... Грубасці і знерваванасці — усяго патроху. Звычайная лексіка, а які сколак эпохі.

●

— Хто больш за ўсіх марыць стаць вялікім? — спыталіся высокага. — Асноўным чынам нізкі, — адказаў высокі.

●

Залез на мост і абвясціў, што ўгробіць сябе, калі не дадуць 125 тыс. долараў ЗША... Тэрарыстычная ж акцыя, а шкада чалавека, мог тыя сто дваццаць пяць тысяч долараў зарабіць, каб працаваў.

●

Паздароўкаўся, зазірнуўшы ў вочы? Лічы, гэта заахвочванне. Бо ў начальства якое вітанне — здароўканне без аніякага зазірання, пацісканне кончыкаў пальцаў, вітанне без падачы рукі, ківок галавы, маўклівы праход без ківання... Час ужо мець сваё меркаванне, якое сёння было прывітанне і з якой начальства ўстала нагі.

●

"Чалавек мае права на здароўе!" Надакучыла пустаслоўе. Здавалася б, даўно абвешчана, а даходзіць да смешнага. Бінт з сабой прынясі, шпрыц з сабой прынясі, пальчаткі з сабой прынясі, за працэдуру заплаці. Не ў адзінак жа вызначаецца пульсацыя, вызнаецца зароўе нацыі. Дык на што мае права асоба — на здароўе ці хваробы?

ВЕРНІСАЖ



*Малюнкі А. Гурскага*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 236-6071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3866.
Нумар падпісаны ў друк 25.2.1999 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 894/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12